НОВЫЯ КОМІКСЫ: ВАМПІРЫ Ў МІНСКУ – 4... ПЛАСТЫЛЯНДЫЯ: СЛІМАК З БУДУЧЫНІ...

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

№ 4 (9) – 2019

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ



МАНЮШКА
САРАМЛІВЫ, ІМПУЛЬСІЎНЫ, БЕЗГАСПАДАРЛІВЫ.
І МІНСК, ЯКІ ЁН ЗНЕНАВІДЗЕЎ




ЯК БЕЛАРУСЬ ПІЛА

«МІХАІЛ СЯРГЕЕВІЧ, МНЕ Б БУТЭЛЬКУ БЕЗ ЧАРГІ»

ВЕРНЫЯ І НЯВЕРНЫЯ
КАХАННІ БЕЛАРУСКІХ КЛАСІКАЎ

НАША СТРАВА
ШАРЛОТКА

## ЯК СТЭФАН БАТОРЫЙ
## ПЕРАМОГ ІВАНА ЖАХЛІВАГА

НАРОДНЫ КАРОЛЬ СУПРАЦЬ ТЫРАНА

16+

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Беларуская!

# 1919

выстава

# Рэспубліка

(да 100-годдзя абвяшчэння БССР і 95-годдзя абвяшчэння беларусізацыі)

## 27.03/12.05

АДРАС: Г. МІНСК, ВУЛ. КАРЛА МАРКСА, 12
ШТОДЗЁННА З 11.00 ДА 19.00
ТЭЛЕФОН: 327 43 22
HISTMUSEUM.BY

# Наша Гісторыя
4/2019

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдат гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — партрэт Стэфана Баторыя аўтарства львоўскага мастака Войцеха Стэфаноўскага (Стэфановіча). 1576 год.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.





**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 08.04.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0292/19.
Наклад 6400 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.


## Ад рэдакцыі

Беларусь займае першыя радкі сусветных рэйтынгаў па спажыванні алкаголю на душу насельніцтва. П'янства даўно стала для нас сапраўдным бедствам.

Людзі заўсёды схільныя ідэалізаваць ранейшыя часы і ганіць цяперашнія. Тое ж і з п'янствам: кожнаму пакаленню здаецца, што гэтая пошасць звалілася на беларусаў не так даўно. Але праблеме гэтай не менш за стагоддзе. Дастаткова разгарнуць падшыўку, напрыклад, старой «Нашай нівы» і прагледзець рубрыку, дзе друкуюцца допісы рэгіянальных карэспандэнтаў. Амаль у кожным нумары мы знойдзем скаргі на тое, што беларускія вяскоўцы не бачаць для сябе ніякага іншага спосабу бавіць вольны час, як толькі заглядаць у чарку.

Вось, напрыклад, нашаніўскі чытач з мястэчка Дунілавічы Вілейскага павета ў нумары за 20 ліпеня 1907 года горка наракае на землякоў: «Купіць якую кніжку ці газету — і не кажы! Лепш астатнюю мерку жыта за гарэлку аддадуць. Гэтую зіму затое было шмат гарэлкі і казённай, і саматужнай, так што пілі мужыкі, пілі бабы, пілі дзеўкі».

Тагачасным людзям, як і цяперашнім, здавалася, што праблема ўзнікла толькі сёння, а даўней панавала ледзь не суцэльная цвярозасць: «Кажуць старыя сумленныя людзі, што даўней у вёсках Калітах, Ябланцах, Залоўках, Дараве, Латыголі гэтага не рабілі, а цяпер дык не дай Бог што робіцца».

І вінаватых у народнай бядзе тады, як і цяпер, шукалі наверсе: «Але не толькі мужыкі нашы вінаваты: вінаваты і тыя, што ад народа ўсё бяруць, а нічога яму не даюць».

Ці не праўда, зусім лёгка ўявіць амаль даслоўна такія самыя допісы ў сучасных СМІ? Выглядае, што тут мы ўвесь час ходзім па адным коле, толькі ўсё больш і больш яго звужаючы.

Наколькі працяглая гісторыя алкаголю на нашай зямлі, настолькі ж даўнія спробы змагацца з ім. А між тым выраб і ўжыванне алкаголю за стагоддзі сталі часткай народнай традыцыі. Нездарма ж і часткі традыцыйнага беларускага вясельнага рытуалу маюць такія вымоўныя назвы, як «запоіны» ці «перапой». І хто не ведае папулярную народную песню са словамі «Заручоная і запітая, тады яе запівалі, як сад зацвітаў»? Тое ж, што перадаецца з пакалення ў пакаленне, звычайна трывалае і ўчэпістае, яно паддаецца больш трансфармацыі, чым выкараненню. Няўлік гэтага важнага фактара, валюнтарысцкая стаўка на хуткае поўнае выкараненне, а не значнае абмежаванне негатыўнай з'явы звялі на нішто і нават выкруцілі ў адваротны бок не адныя добрыя намеры.

Як пілі ў Беларусі даўней і цяпер — адна з тэм новага нумара нашага часопіса. Гісторыя нацыянальных слабасцяў ды заганаў — гэта таксама цікава. І вой як цікава разбірацца, калі пачыналі піць больш, а калі — пераставалі, якая дзяржаўная палітыка спрацоўвала, а якая — не. Як шляхта падсадзіла сялян на гарэлку дзеля павелічэння сваіх даходаў (**старонка 24**) і як, наадварот, прадуманыя дзяржаўныя абмежаванні давалі эфект, а непрадуманыя нараджалі толькі анекдоты і самагон (**старонка 28**). Бо каб увесь час людзі пілі больш і больш, то ўжо б усе спіліся. А мы ж пакуль цвярозыя :))). У «Нашай гісторыі» — гісторыя п'янства і змагання з ім.










тэма

## ЯК СПІВАЛАСЯ БЕЛАРУСЬ








































70







Ваў!

## «Народны кароль» супраць тырана

Папулярнасць Стэфана Баторыя перажыла Рэч Паспалітую. У сучаснай Беларусі вам пакажуць возера Баторына, дзе кароль «патануў», вёскі Батуры і Батуркі, ля якіх ён «спыняўся», прозвішчы Батура і Батурчык. Праект «Баторый» можна вывучаць і на сучасных бізнэс-трэнінгах: як дасягнуць поспеху, узяўшы на працу незалежнага і жорсткага антыкрызіснага менеджара. Піша Андрэй Скурко.




WIKIMEDIA COMMONS

# Як Стэфан Баторый перамог Івана Жахлівага



**Стары замак у Гродне** акурат цяпер адбудоўваюць.

Але зробім агаворку: «народным» кароль быў у тым значэнні слова «народ», якое ўжывалася ў Рэчы Паспалітай. А там грамадзянскія правы мела выключна шляхта.

«Кароль Сцяпан» быў першым рэальным каралём, абраным шляхтай, насуперак магнатам. Да таго дзяржавай кіравалі па праве спадчыны Ягелоны. А француз Генрык Валуа, які быў пасля іх, спалохаўся задач, якія стаялі перад Рэччу Паспалітай, і ўцёк у Парыж праз тры месяцы пасля абрання. *Res Publica* мусіла выбіраць наноў.

### Што літвін, што венгр

На каралеўскі пасад прэтэндавалі Габсбургі, уладары Святой Рымскай імперыі, Іспаніі, Нідэрландаў. Магнатам імпанавала кандыдатура імператара Максіміліяна II Габсбурга. Ён меў 48 год, пакутаваў ад падагры і, у выпадку абрання, кіраваў бы дыстанцыйна, з Вены. А гэта давала вялікую свабоду дзеянняў. З той самай, відаць, прычыны не былі супраць Габсбурга і прадстаўнікі Вялікага Княства. ▶

### Стэфан Баторый і Гродна

Гродна на пэўны час з'яўлялася неафіцыйнай сталіцай Рэчы Паспалітай. Тут знаходзілася галоўная рэзідэнцыя Стэфана Баторыя. Калі кіраўнік упершыню прыбыў сюды ў 1579 годзе для ўдзелу ў пашыранай нарадзе сената, ён адразу палюбіў маляўнічыя мясціны. На выбар Баторыем рэзідэнцыі паўплывалі таксама як унутры- , так і замежнапалітычныя прычыны. Манарх жадаў палепшыць адносіны паміж Каронай і Вялікім Княствам, і Гродна сваім геаграфічным размяшчэннем на дарозе з Вільні ў Кракаў найлепш адпавядала гэтым мэтам. Да таго ж гэты горад быў блізка размешчаны да Інфлянтаў, дзе ў той час ішла вайна. Правіцель, які любіў паляванне, добра адчуваў сябе сярод лясоў і пушчаў.

Дзякуючы намаганням Стэфана Баторыя ў Гродне быў збудаваны прыгожы рэнесансны замак на месцы замка князя Вітаўта. Акрамя яго, ля галоўнай плошчы горада, Рынка, паўстаў палац. Тут жа, ля Рынка, на грошы Баторыя па праекце, магчыма, легендарнага архітэктара-езуіта Яна Марыя Бернардоні быў узведзены мураваны касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі побач са старым драўляным, які выконваў функцыю парафіяльнага. Храм быў самым вялікім на той час культавым будынкам на тэрыторыі ВКЛ. А яшчэ ён, паводле слоў сучасніка, быў вельмі прыгожы. Манарх будаваў гэтую святыню для таго, каб быць тут пахаваным пасля смерці.

Стэфан Баторый пайшоў з жыцця 12 снежня 1586 года ў Гродне, у каралеўскім замку, ва ўзросце 53 гадоў. Цела Баторыя пасля правядзення анатаміравання перанеслі ў новазбудаваны касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе паўтара года парэшткі караля знаходзіліся ў сутарэннях. Потым, насуперак яго волі (бо ён хацеў, каб яго пахавалі ў гэтым касцёле), 29 красавіка 1588 года жалобны картэж рушыў з Гродна праз Варшаву і прыбыў у Кракаў. Там 24 мая 1588-га цела караля было пахавана ў катэдры на Вавельскім замку.

У наш час адна з цэнтральных вуліц Гродна носіць імя былога правіцеля, як і гандлёвы дом, размешчаны на ёй. У Фарным касцёле знаходзіцца бронзавы бюст і мемарыяльная шыльда, прысвечаная каралю.

*Ян Мечыслаў Супрон*

З Максіміліянам II Баторый меў і асабістыя рахункі. У 1565-м, выправіўшыся ў Вену з дыпламатычнай місіяй, Баторый спыніўся ў карчме. Раптам яго кватэру атачылі габсбургскія салдаты, не даючы выйсці. У такой карчомнай няволі дыпламат прасядзеў два гады.

▶ Кандыдатуру Максіміліяна падтрымліваў з-за ўсходняй мяжы і маскоўскі цар Іван IV: раз ужо мяне самога не выберуць, разважаў ён, дык з Габсбургам можна будзе, прынамсі, падзяліць Рэч Паспалітую.

Рашэнне трансільванскага ваяводы Баторыя выстаўляць сваю кандыдатуру на гэтыя загадзя перадвызначаныя выбары выглядала авантурай. А можа, ён спадзяваўся на традыцыйнае польскае падазрэнне да немцаў? Яно ўжо сыграла ролю ў гісторыі, калі замест нямецкага прынца на польскі трон сеў літвін Ягайла.

**1 мая 1576-га Баторыя каранавалі, на наступны дзень ён выканаў свой шлюбны абавязак у дачыненні да Ганны Ягелонкі**

Баторый паслаў на элекцыйны сойм свайго эмісара Джорджа Б'яндрата, колішняга доктара каралевы Боны. Б'яндрата не шкадаваў грошай, вярбуючы хаўруснікаў, і расхвальваў кандыдата як мог: «у справах рыцарскіх скоры», «вучоны, мудры». Тое, што Баторый — венгр, таксама разглядалася як плюс: Польшча ў мінулым мела з Венгрыяй, як і з Вялікім Княствам Літоўскім, персанальную унію.




**Даспехі** XVI стагоддзя.

### Моўнае пытанне

Мінусам была намінальная васальная залежнасць ад Асманскай імперыі. Але, апаніраваў Б'яндрата, яна дасталася Баторыю ад папярэднікаў. Яшчэ адзін мінус — новы кароль не гаварыў ні па-беларуску, ні па-польску. Ён ведаў чатыры мовы: родную венгерскую, лаціну, нямецкую ды італьянскую. Але Б'яндрата запэўніваў, што такі вучоны чалавек скора загаворыць і на мовах Рэчы Паспалітай.

Але Стэфан застаўся ўнікальным каралём, які кіраваў вялізнай славянскай краінай, выкарыстоўваючы выключна лаціну. Яе тады так-сяк ведалі, пасканчаўшы калегіумы каталіцкіх ордэнаў, магнаты і шляхта.

Рыцарскую ж спраўнасць Баторый даказаў проста ў часе выбараў, разграміўшы войска Кашпара Бекеша. Той узначальваў прагабсбургскую партыю і таксама прэтэндаваў на ўладу ў Трансільваніі. Баторый загадаў забіць яго ваяводаў, палонным салдатам паадразаць насы і языкі, самому ж Бекешу пасля дараваў.

Выбары былі прызначаныя на 7 лістапада. Шляхта патрабавала «Пяста» — гэта значыць паляка. І з падачы падканцлера Яна Замойскага выгукнула каралём... жанчыну — Ганну, сястру Жыгімонта Аўгуста, апошняга з Ягелонаў. З той умовай, што яе мужам стане Стэфан Баторый. Той Замойскі, дарэчы, вучыўся разам з Баторыем у Падуанскім універсітэце.

Магнаты ж абвясцілі каралём Максіміліяна II. Лёс выбараў вырашыла «вуліца». Баторый пад'юджваў шляхту лістамі, было абвешчана паспалітае рушанне. Шляхта ўварвалася ў Кракаў і Львоў. Стэфан, перадаўшы ўладу ў Трансільваніі свайму брату, з некалькімі тысячамі войска ішоў у Рэч Паспалітую. Максіміліян II не здолеў арганізаваць такога актыўнага «адстойвання вынікаў выбараў».

1 мая 1576-га Баторыя каранавалі, на наступны дзень ён выканаў свой шлюбны абавязак у дачыненні да Ганны Ягелонкі. Але першыя гады становішча Стэфана на троне было нетрывалым. Умацаваць аўтарытэт новы кароль вырашыў паспяховымі войнамі.

### «У справах рыцарскіх скоры»

Найперш трэба было замірыць Гданьск — найбагацейшы горад на балтыйскім узбярэжжы. Гданьск, завязаны на гандаль з Нідэрландамі, вотчынай Габсбургаў, адмовіўся прызнаваць вынікі выбараў.

Каралеўская конніца лёгка разагнала ў полі 11-тысячнае гданьскае войска, але аблога



магутных фартэцый зацягнулася на паўгода, пакуль Гданьск не вытаргаваў умовы здачы. Дасведчанай пяхоты і вялікіх гармат, неабходных для штурму, у Баторыя было мала.

Пад Гданьскам кароль пабачыў мінусы войска Рэчы Паспалітай. Ён зразумеў: каб адваяваць у маскоўскага цара Полацк і Інфлянты, спатрэбіцца моцная пяхота.

### «Выбранецкія палкі»

У XVI стагоддзі пяхота панавала ў еўрапейскіх войнах: іспанская, швейцарская, нямецкая. Легендай стала Чорная армія венгерскага караля Матыяша Корвіна. Баторый, скарыстаўшы венгерскі досвед, паспрабаваў стварыць прафесійныя пяхотныя аддзелы і ў Рэчы Паспалітай.

Пяхота караля Стэфана звалася «выбранецкай». Паводле яго задумы, з кожных дваццаці сялянскіх гаспадарак выстаўляўся адзін пехацінец. Адрабляць за яго паншчыну і плаціць падаткі павінны былі астатнія дзевятнаццаць. Салдаты чатыры разы на год мусілі наведваць вучэнні і пад загадам ротмістраў адпрацоўваць зладжанасць дзеянняў.

Такая сістэма мабілізацыі дазволіла б стварыць у Рэчы Паспалітай 20-тысячнае прафесійнае войска. Мо яно ўратавала б краіну ад нашэсцяў XVII стагоддзя? Але сойм дазволіў набіраць пяхоту толькі ў дзяржаўных землях — каля 3 000 чалавек з Кароны і яшчэ тысячу з ВКЛ.

Каб узброіць сваю пяхоту, Баторый арганізаваў закупку аркебузаў. Выбранецкія аддзелы — ці не ўпершыню ў Еўропе — пачалі ўжываць гатовыя набоі. Гэта дазволіла пяхоце караля Стэфана дасягнуць рэкорднай хуткастрэльнасці — 1 раз за 10 хвілін.

Не забыўся Баторый і пра конніцу. У яго часы адбыўся жорсткі падзел на цяжкія і лёгкія конныя харугвы. Былі створаныя аддзелы крылатых гусараў, слава якіх пры наступніках Баторыя прагрымела ад Кірхгольма да Вены.

### Казакі з беларускіх земляў

Баторыя надзвычай шанавалі ўкраінскія казакі. Ён узяў іх на службу і пачаў плаціць грошы з бюджэту за абарону паўднёвых межаў ад крымскіх татараў. Магчыма, так кароль спрабаваў улагодзіць турэцкага султана, які радзіў уключыць казакоў у сістэму, каб спыніць іх набегі.

Баторый збіраўся ваяваць з Масковіяй, на поўдні яму трэба быў спакой. Ён стварыў полк з 500 «рэестравых» казакоў, даў ім гетмана. Казакам штогод плацілі 15 злотых (пастух зарабляў 1,2) і давалі ўніформу — новы каптан.

Цікавыя вынікі іх перапісу 1581 года: мяркуючы па прозвішчах, якія даваліся па назвах родных мясцін, каля чвэрці казацкага войска складалі беларусы — з Магілёва, Гомеля, Мсціслава, Быхава, Полацка, Віцебшчыны, прыпяцкага Палесся.

### Памылка Івана Жахлівага

Але не падпарадкаванне Гданьска і не вайсковыя рэформы зрабілі Баторыя легендай у наступных пакаленнях. Гэта зрабіў полацкі паход.

Маскоўскі цар Іван IV памыліўся, палічыўшы Баторыя марыянеткай магнатаў, з якой можна не цырымоніцца. Яго першае пасольства ён прыняў седзячы, да рукі не дапусціў і на абед не паклікаў. Цар не лічыў сабе роўняй выбранаму каралём ваяводу — Баторый быў для яго накшталт «Бельскіх, Мсціслаўскіх, Трубяцкіх». Затое перад гетманам Янам Хадкевічам ён рассыпаўся ў кампліментах: магнатаў ён лічыў сапраўднай сілай Рэчы Паспалітай.

Захапіўшы ў 1577 годзе Інфлянты (Лівонію), цар даслаў каралю сухі ліст, параіўшы не спрабаваць забраць яе назад, бо «не пры табе гэтая спрэчка пачыналася». А захоплены ў 1563-м Полацк цар увогуле лічыў сваёй вотчынай.

Баторый тым часам рыхтаваўся. У 1578-м сойм ухваліў падатак на вайну з Масковіяй. Яшчэ 200 тысяч злотых даў герцаг брандэнбургскі за тое, што Баторый прызнаў яго рэгентам Прускага герцагства, бо тагачасны герцаг Прусіі быў псіхічна хворы. Хто мог падумаць тады, што Баторый заклаў падваліны будучай магутнасці Прусіі, якая праз 200 год стане адным з ініцыятараў падзелу Рэчы Паспалітай?

Грошы трэба былі на вярбоўку наёмнікаў: нямецкіх ландскнехтаў, якія пасля ўварваліся ў замак Сокал, і венгерскай пяхоты, што здолела падпаліць сцены Полацка.

Маскоўскія ж дыпламаты, якія бывалі ў Рэчы Паспалітай, супакойвалі цара Івана словамі пра тое, што новая вайна будзе весціся малымі сіламі, што Баторый — кароль слабы і непапулярны, а Польшча і Літва хоча замест яго сабе на трон царскага сына Фёдара Іванавіча. ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Кашпар Бекеш**

у беларускай масавай культуры замацаваўся як выключна станоўчы персанаж. Гэта адбылося з падачы Уладзіміра Караткевіча, які натхняўся эпітафіяй на яго магіле: «...не хачу прызнаваць Бога, не прагну яго нябёсаў, пекла не баюся...». Магчыма, адыграла ролю і лёгкае партрэтнае падабенства Бекеша і Караткевіча. Падчас аблогі Полацка Баторый і Бекеш начавалі ў адным намёце. Калі Бекеш памёр у Гродне, яго, арыяніна, адмовіліся хаваць на сваіх могілках і каталікі, і праваслаўныя, тады Баторый загадаў пакласці свайго ваяводу на гары ў Вільні, якая ад таго звалася Бекешавай. У XIX стагоддзі рака Віленка падмыла і абрынула яго склеп.



**Срэбная талерка з выявай Баторыя** належала каралю і вялікаму князю Яну Казіміру.

### Нестандартны прапагандысцкі ход

У канцы чэрвеня 1579 года, калі прыгатаванні да вайны былі скончаныя, Баторый, не стрымліваючы сябе, адказаў на ранейшыя лісты цара. Кароль пісаў, што страты, нанесеныя ягонай дзяржаве, ён збіраецца «пазысківаць» непасрэдна з Івана, а не з яго падданых.

Асобным лістом кароль звяртаўся да жыхароў Масковіі. Ён пісаў, што выступае ў паход «не для разліцця крыві», а каб абярнуць супраць цара ўсё тое, што ён чыніў з іншымі народамі і ўласнымі падданымі. Тым, хто пяройдзе на яго бок, Баторый абяцаў «вольнасць і свабоду правоў хрысціянскіх». Ліст быў разасланы ў маскоўскія памежныя крэпасці. Па тых часах гэта быў нечуваны крок.

Збор войска быў прызначаны ў Свіры. Цяпер гэта мястэчка над аднайменным возерам, там захавалася высозная замкавая гара. Адтуль недалёка возера Баторына — мо і сапраўды Баторый у ім асвяжыўся?

Са Свіры кароль праз Паставы і Глыбокае рушыў на Полацк. Авангардам ішла конніца ВКЛ на чале з Радзівіламі і венгерская пяхота, якую вёў Бекеш. Яны мусілі не пусціць да Полацка падмогу. Ліў дождж, дарогі раскіслі. Мясцовасць вакол Полацка за час расійскай акупацыі абязлюдзела і зарасла лесам. Шлях для войска даводзілася прасякаць. Толькі 11 жніўня асноўныя сілы прыйшлі пад сцены горада.

Справа ішла не так скора, як хацелася каралю. Нягледзячы на тое, што перад паходам загадзя падбалі пра правіянт (гэта было ў навіну для Вялікага Княства), доўга трымаць на месцы 41-тысячнае войска было няпроста.

Дажджы зніжалі эфектыўнасць калёных ядраў — інавацыі Баторыя. Металічнае ядро награвалі да чырвані, забівалі ў гармату, аддзяліўшы ад парахавога зараду тоўстым драўляным ці земляным клакам, і стралялі. Трапіўшы ў драўляную сцяну, калёнае ядро амаль гарантавана запальвала яе. Але мокрае дрэва полацкіх сценаў займалася слаба. Урэшце венгерская пяхота здолела запаліць замак, і войска ўварвалася ў горад. Абаронцы замкнуліся ў Сафійскім саборы, але пасля здаліся.

Ініцыятар капітуляцыі, ваявода Пятро Валынскі, дарэчы, быў раней рэпрэсаваны Іванам Жахлівым — так беларусы перакладалі расійскую мянушку Грозны — і сядзеў у турме па несправядлівым даносе.



**Руіны крэпасці Баторыяў** у горадзе Шымлеў-Сілваніей у Румыніі.

WIKIMEDIA COMMONS

### Не інтэграваў

Баторый, лічыць польскі прафесар Генрык Візнер, не зрабіў нічога для інтэграцыі Вялікага Княства і Польшчы. Ён нават аднавіў сойм ВКЛ, ліквідаваны згодна з Люблінскай уніяй 1569, а таксама пагадзіўся на захаванне асобных трыбуналаў і соймікаў.

### Расплата за неабмежаваную ўладу

Прафесійная пяхота, аблогі, калёныя ядры — усё гэта стала для цара Івана нечаканасцю. Ён разлічваў, што Баторый будзе ваяваць старым «жыгімонтаўскім» метадам: налёты конных атрадаў, рабаванне тэрыторый без спроб браць замкі. Таму і ваяводам сваім цар наказваў у бой з Баторыем не ўступаць, адседжвацца за сценамі і рабіць дыверсіі.

Але інфлянцкія замкі гарэлі і здаваліся. Вялікія Лукі, сцены якіх абаронцы абклалі зямлёй, пратрымаліся ўсяго тыдзень. Калі Велікалуцкі павет перайшоў да Баторыя, утварыўся «балкон» паміж Псковам і Смаленскам, з якога можна было скіраваць удар на апошні рубеж абароны Масквы.

«Уся зямля» прасіла цара замірыцца з Баторыем: «супраць моцнага гаспадара цяжка ваяваць, калі з-за спусташэння вотчын не маеш, на чым і з чым».

За 20 гадоў цар Іван дакіраваўся да таго, што не мог сабраць вялікае войска. Бясконцая Інфлянцкая (Лівонская) вайна выклікала рост падаткаў, рэпрэсіі і апрычніна — заняпад гаспадаркі. А ў пачатку 1570-х Масковія пацярпела ад маравой пошасці.

І баявы дух маскавітаў упаў: «дзецям баярскім» надакучыла паміраць невядома за што. Даводзілася пагражаць смяротнай




WIKIMEDIA COMMONS

**«Мая Рэч Паспалітая».** Алегарычны малюнак невядомага аўтара. 1578 год. Паказаны хаос, у якім прыняў краіну Стэфан Баторый. Кожны сюжэт, кожны герой увасабляе нейкую грамадскую загану або перашкоду на шляху да стабільнага жыцця: коні, што разбягаюцца ў розныя бакі, — няўзгодненасць (камяні грахоў, прывязаныя да іх павозкі, не даюць ім рухацца). Мядзведзь — гэта адкрытыя ворагі, ліс — фальшывыя сябры, воўк — ненавіснікі, чарапаха — запаволенасць грамадскага развіцця. Баторый не дае краіне скаціцца ў прорву, якую ўвасабляе цмок.

карай не толькі ім, але і тым, хто мусіў збіраць іх на вайну.

А нават сабранае войска няможна было выкарыстаць супраць Баторыя. Частку даводзілася трымаць на мяжы з Крымскім ханствам, якому Іван пагражаў, яшчэ частку — у Інфлянтах супраць шведаў, караля якіх Іван назваў у лістах «мужычым сынам».

«Па трагічнай іроніі лёсу кіраўнік, які ўсё жыццё даказваў, што толькі моцная неабмежаваная ўлада можа абараніць краіну ад знешняй небяспекі, цяпер сутыкнуўся з тым, што краіна аказалася няздольнай да барацьбы з праціўнікам пасля яго доўгага самадзяржаўнага кіравання», — адзначае адзін з найлепшых расійскіх даследчыкаў эпохі Барыс Флора.

Больш можна прачытаць у кнізе Борис Флоря. Иван Грозный. Москва, 1999. (2-е издание — 2002.)

### Цар Іван і курыца

Танальнасць лістоў цара змянілася. Дзе падзелася пыха? Цар папракае караля прыкладам папярэднікаў-Ягелонаў, «братоў нашых», пры якіх «хрысціянская кроў дарэмна не лілася»: «Мы б табе і ўсяе Ліфлянскія зямлі пастугіліся, ды ...табе кроў праліваць жа», — дакараў Баторыя пабожны хрысталюбівы голуб міру Іван Жахлівы.

Цар нават рабіў рэверансы каталікам, пішучы, што «адна вера грэцкая і лацінская».

У адказ канцлер Ян Замойскі назваў Івана цёмным і дзікім варварам, высмеяў, звінаваціўшы ў баязлівасці, бо Іван не наважыўся выйсці біцца з войскам Рэчы Паспалітай: «І бедная курыца перад ястрабам з арлом птушаня сваё крыламі сваімі ўкрывае, а ты, арол двухгаловы, хаваешся».

«Ужо паміж намі не толькі пра Інфлянты, а пра ўсё пойдзе», — пісаў Замойскі цару, калі войска Баторыя пайшло на Пскоў.

### Місія Антоніа Пасевіна

Спрабуючы замірыцца з Баторыем, Іван кінуўся да папы Грыгорыя XIII. Папа ўзяўся быць пасярэднікам і даслаў у Маскву аднаго з найлепшых дыпламатаў — Антоніа Пасевіна. ▶

Папа Грыгорый XIII не толькі ўвёў ва ўжытак каляндар, якім мы карыстаемся дагэтуль. Ён змяніў замежную палітыку Рыма. Зразумеўшы, што змаганне з пратэстантамі толькі вычэрпвае, папа вырашыў хаця б замацаваць за сабой тэрыторыі, куды пратэстантызм яшчэ не трапіў. Найперш — праваслаўны Усход. У Рыме заснавалі калегію святога Апанаса, каб вучыць будучых місіянераў.

Масковію Грыгорый XIII бачыў будучай апорай каталіцызму. Праўда, пра яе ў Рыме мала ведалі. Наіўны папа быў упэўнены, што пабожныя маскавіты адмовяцца ад сваёй «грэчаскай ерасі». Варта толькі растлумачыць ім памылку, а галоўнае — дамовіцца з царом.

І цар намякаў: усё магчыма. Пры пасярэдніцтве Пасевіна маскоўскім дыпламатам удалося, калі вайсковая кампанія пад Псковам зацягнулася, укласці з Баторыем Ям-Запольскі мір. Масковія адмаўлялася ад Інфлянтаў і атрымлівала назад Вялікія Лукі. Амаль дваццацігадовая вайна не прынесла Расіі вынікаў — толькі страты і разбурэнні.

Дабіўшыся міру, цар спыніў размовы пра саюз з каталікамі, сказаўшы Пасевіна падчас абеду, што «папа воўк, а не пастыр». Паслу аж мову заняло.

## Баторый і езуіты

У рэчышчы новай усходняй палітыкі Рыма Баторый спрыяў езуітам у Рэчы Паспалітай. Ён надаў калегіумам у Вільні і Львове правы ўніверсітэтаў. Пазіцыі каталіцтва ўзмацняліся там, дзе традыцыйна моцным было праваслаўе. Гэта выклікала супярэчнасці: да пастановы пра заснаванне акадэміі ў Полацку адмаўляўся прыкладаць пячатку канцлер-кальвініст Мікалай Радзівіл Руды. Першым рэктарам Віленскай акадэміі стаў Пётр Скарга, наймацнейшы палеміст і адзін з ідэолагаў Берасцейскай уніі 1596 года.


WIKIMEDIA COMMONS

Надгробак Стэфана Баторыя.

## Ігнараваў жанчын

Фармальна кароль Стэфан быў жанаты з Ганнай Ягелонкай, якой на момант шлюбу споўнілася 52. Да таго ні яна, ні 42-гадовы Баторый у шлюбе не былі. Муж наведаў яе спачывальню ўсяго два ці тры разы. Яго можна зразумець: па тых часах Ганна была ўжо зусім старою, тады мала хто дажываў да 60-ці.

Калі Ганна сама прыйшла да яго ў спальню, уцёк. Такое ігнараванне давяло Ганну да нервовага зрыву. Давялося пускаць ёй кроў, што ў тагачаснай медыцыне замяняла таблетку супакаяльнага.

Двор Баторыя быў далёкім ад куртуазнасці, выключна мужчынскім. Галоўнай забавай караля было паляванне.

Хадзілі чуткі, што Баторый меў каханак, у тым ліку дачку лесніка з-пад Гродна. Казалі, што яго пазашлюбным сынам быў шляхціц Кнабоўскі, адзначаны ў часе маскоўскіх выправаў Жыгімонта Вазы. Казалі, што сам Ілжэдзмітрый І быў пазашлюбным сынам Баторыя, але гэта хутчэй былі спробы патлумачыць абыякавасць караля да жанчын.

Хадзілі чуткі і пра венерычнае захворванне, якое адвярнула Баторыя ад сэксу. Але доказаў не дало нават ускрыццё.

## Віном па нырках

У 1580-я Баторый уваходзіў поўны спадзяванняў. Масковію ён замірыў, папа бачыў у ім асобу, здольную выкінуць асманаў з Еўропы — а Баторый бачыў магчымасць вызваліць ад іх панавання родную Венгрыю... Але папа раптам памёр, дый здароўе караля хісталася ўсё мацней.

На назе пад каленам у яго была трафічная язва «аж да косткі», якая ўвесь час цякла. У караля здараліся прыпадкі, накшталт астматычных ці эпілептычных. Калі язву прыпяклі агнём, каб загаіць, Баторый перажыў такі прыпадак, што тыдзень не мог гаварыць. Тады іншыя лекары пастанавілі не зажыўляць рану, а наадварот пашырыць, «каб дрэнная матэрыя выходзіла». На язву паставілі прыстасаванне, каб увесь час яе вярэдзіць.

Гэта дрэнна адбівалася на нервах. Баторый, раней спакойны і канструктыўны, на сойме 1585-га кідаўся з шабляй на дэпутатаў і «крычаў высокім голасам», што, каб не прысяга, кінуў бы гэты «чысцец» — Рэч Паспалітую.


WIKIMEDIA COMMONS

**Хрустальны келіх з манаграмай** Стэфана Баторыя.

Тагачасныя ж эскулапы не маглі нават дыягнаставаць хваробу нырак, якая ўрэшце даканала караля. Яго лячылі ад прыступаў кровапусканнем, націраннямі, гарачымі хусткамі, а сам Баторый дадаткова лячыўся моцным венгерскім віном.

Непасрэднай прычынай смерці магло быць тое, што ён застудзіўся на паляванні пад Гроднам. Зіма 1586-га была вельмі марозная: вяртаючыся з ловаў, кароль замерз так, што ўсё цела анямела.

Атачэнне ж да апошніх дзён лічыла, што стан здароўя Баторыя ў межах нормы. У адказ на прыступы дыхавіцы лекары ставілі яму банькі, прыкладалі п'яўкі і чароўны камень безаар. За пару дзён да смерці доктар нарэшце забараніў каралю піць віно, але на яго патрабаванне мусіў зноў дазволіць.

## Ныркі як у вала

Калі кароль сканаў, было вырашана зрабіць ускрыццё, каб адкінуць чуткі пра атруту. Гэта была першая такая медычная аперацыя на тэрыторыі Беларусі і наогул Усходняй Еўропы.

**Стэфан Баторый пражыў** 53 гады. Па мерках XVI стагоддзя ён быў ужо досыць немаладым. Прыкладна столькі ж пражылі яго праціўнікі Іван IV і Максіміліян II.

Згодна з пратаколам, кароль меў здаровыя кішкі і пячонку, страўнік і селязёнку. Ацёк левага лёгкага можна было вытлумачыць тым, што напярэдадні падчас прыступу Баторый упаў і моцна пабіўся аб лаву. А вось ныркі былі «выключна вялікія, як у вала», засведчыў доктар. Знайшоўся і камень з мускатны арэх у жоўцевым пухіры.

Так натуралістычна скончылася зямное жыццё аднаго з самых паспяховых каралёў Рэчы Паспалітай. І пачаў паўставаць міф ідэальнага караля Стэфана. Міф нарадзіўся ў XVII стагоддзі, на фоне вайсковых паразаў на ўсходзе і занурэння дзяржавы ў анархію. У XIX стагоддзі, пасля ганебных падзелаў Рэчы Паспалітай, ён расквітнеў — з Баторыем па папулярнасці мог зраўняцца толькі «ратавальнік Еўропы» Ян Сабескі. Тая папулярнасць шчасліва перанеслася і ў мадэрную эпоху. Каля труны Баторыя ў падзямеллях Вавеля ніколі не вянуць кветкі.◆

**Міхал Гарабурда** — вялікі пісар літоўскі, удзельнік перамоваў у Запольскім Яме.

Каронны гетман **Ян Збароўскі** стаіць спінай да караля. Магчыма, такім цікавым спосабам мастак хацеў паказаць, што родны брат Яна Самуэль будзе праз тры гады пакараны смерцю па абвінавачанні ў змове супраць караля і дзяржаўнай здрадзе.

**Філон Кміта-Чарнабыльскі** — ваявода памежнага Смаленскага ваяводства, славуты ветэран Інфлянцкай вайны. Жыгімонт Аўгуст даў яму за баявыя заслугі Чарнобыльскае староства і Оршу. З Баторыем Кміта хадзіў на Вялікія Лукі і Пскоў. І сам рабіў партызанскія рэйды на чужую тэрыторыю. Прафесійны адміністратар і ваяр, ён пакінуў след і ў беларускай літаратуры. Захаваліся яго лісты найвышэйшым дзяржаўным асобам ВКЛ, напісаныя жывой тагачаснай беларускай мовай.

**Ян Замойскі** — каронны канцлер з пячаткай у руках. Адзін з найзначнейшых дзеячаў эпохі і сябар Стэфана Баторыя ад часоў іх навучання ў Падуанскім універсітэце. Менавіта Замойскі падчас элекцыйнага сойма 1575 года выказаў ідэю абвясціць каралём Ганну Ягелонку, а потым аддаць яе замуж за Баторыя.

Мядзведжая скура з ашчэранай пашчай — празрысты сімвал пераможанай Масковіі. Баторый цвёрда паставіў на яе ногі.

**«Стэфан Баторый пад Псковам».**
Ян Матэйка, 1872 год.

Стэфан Баторый, згодна з сюжэтам карціны, прымае маскоўскіх паслоў на заключным этапе падпісання Ям-Запольскага міру. Ствараючы вобраз Баторыя, мастак папрасіў пазіраваць яму армяніна з Галіцыі. Карціна не прэтэндуе на поўную гістарычную адпаведнасць: кароль не вёў асабіста мірных перамоваў і паслоў не прымаў. Матэйка сабраў на карціне ўдзельнікаў падзей апошняга этапа Інфлянцкай вайны.



PLN-PSKOV.RU

**Пскоў** 1582 года.

Каралеўскі сакратар **Станіслаў Жалкеўскі** ўбраны ў гусарскія даспехі. Ён, а таксама крылатыя постаці з бел-чырвона-белымі сцяжкамі на піках — прадвеснікі наступнай эпохі, у якой будзе ўваход беларуска-літоўска-польскага войска ў Маскву, перамогі пад Кірхгольмам і Венай.

Князь **Фёдар Лыкаў-Абаленскі** стаіць, скрушна апусціўшы галаву, але не кланяецца. У яго руках — паламаны меч. Абаленскі на карціне ўвасабляе маскоўскую «ратную сілу»: ён удзельнічаў у Інфлянцкай вайне ад самага яе пачатку — быў ваяводам у Полацку, Невелі і Вялікіх Луках, хадзіў на Талін і «нямецкія гарады».

Князь **Дзмітрый Ялецкі** — кіраўнік расійскай дэлегацыі на перамовах у Запольскім Яме.

**Раман Алфер'еў**, казельскі староста і захавальнік пячаткі Маскоўскай дзяржавы, упаў у ногі. Таксама ўдзельнічаў у перамовах у Запольскім Яме.

**Грыгорый Нашчокін** — славуты маскоўскі дыпламат таго часу і давераная асоба цара. На самай справе, пад Псковам Нашчокін не быў, ён сустракаўся з Баторыем за год да выяўленых падзей.

Уладыка полацкі і велікалуцкі **Кіпрыян** падае каралю хлеб-соль на залатым падносе. Падчас аблогі Полацка войскамі Баторыя ўладыка заклікаў стаяць да канца і не здавацца. З апошнімі абаронцамі зачыніўся ў Сафіі. Пра яго лёс пасля капітуляцыі нічога невядома.

**Антоніа Пасевіна** — менавіта ён, а не кароль, цэнтральная фігура карціны. Пасланец папы ў чорным езуіцкім убранні нібыта дырыжыруе тут усім працэсам. Пасевіна быў архітэктарам замірэння Рэчы Паспалітай з Масковіяй. Пластычнымі рухамі рук ён нібыта дае знакі адначасова і маскоўскім паслам, і Баторыю. Папа рымскі Грыгорый XIII быў пасярэднікам паміж Іванам IV і Баторыем. Ён разлічваў, што пасля замірэння цар дазволіць навярнуць Масковію ў каталіцтва.




**Іван IV, першы расійскі цар.** Жахлівым (Грозным) яго ўпершыню назваў расійскі гісторык XVIII стагоддзя Васіль Тацішчаў. Рэканструкцыю па чэрапе здзейсніў Мікалай Герасімаў.

**Езуіты ўсё-такі выканалі волю Баторыя і прыйшлі ў Гродна.** Проста насупраць Фары (на пярэднім плане) яны ўзвялі цудоўны касцёл Святога Францішка Ксаверыя, галоўны каталіцкі храм горада.

ФАРА

# Фару Вітаўта насамрэч пабудаваў Стэфан Баторый

**«Ён цудоўны», — першае, што прыходзіла ў галаву чалавеку, які бачыў гэты храм. Цяпер гродзенцы хочуць аднавіць гэты гарадскі цуд. Піша Яўген Аснарэўскі.**

Фару Вітаўта, якую мы ведаем, насамрэч збудаваў Стэфан Баторый.

Атрымаўшы ад бацькі Гродна, Вітаўт зрабіў яго сваёй рэзідэнцыяй і да 1389 года збудаваў драўляны касцёл, адзін з найстарэйшых ва Усходняй Еўропе.

**Фара** (ням. *pfarre* ад лац. *parochia* і грэч. *paroecia* — парафія, епархія) — галоўны гарадскі касцёл.

А Баторый узвёў вялізны готыка-рэнесансны касцёл, параўнальны з Віленскай катэдрай. Храм павінен быў стаць ягонай пахавальняй. Старую драўляную Фару Вітаўта разабралі, а касцёл Баторыя атрымаў у спадчыну яе назву.

### Баторый хацеў падарыць храм езуітам, але яны не захацелі

Баторый планаваў прывабіць езуітаў у любімае Гродна, каб заснавалі тут калегіум — тагачасны ўніверсітэт. Для езуітаў прызначаўся і новы касцёл. Езуіты, аднак, не спяшаліся. Лёс пабудовы не быў вырашаны, калі Баторый раптам памёр.

Пасля смерці ягонае цела было дастаўлена ў будынак на месцы цяперашняга Палаца тэкстыльшчыкаў. Там і адбылося першае анатаміраванне ва Усходняй Еўропе. Пасля гэтага цела перанеслі ў новы храм, а праз паўтара года адправілі ў Кракаў. Хоць апошняя воля Баторыя — ляжаць у горадзе над Нёманам.

### Будавалася па італьянскім праекце

Архітэктарам храма часцяком называюць каралеўскага дойліда Санкці Гучы. Аднак існуе гіпотэза пра аўтарства Яна Марыі Бернардоні, які стварыў касцёл езуітаў у Нясвіжы — першы барочны храм Беларусі. План Фары Баторыя ёсць у «Кіеўскім альбоме» — зборніку архітэктурных чарцяжоў Бернардоні. Да таго ж, знакаміты італьянскі дойлід быў езуітам, а храм будаваўся менавіта як езуіцкі.




Як выглядаў храм Баторыя, можна пабачыць на гравюры Тамаша Макоўскага 1600 года. Касцёл меў каля 60 метраў у даўжыню і каля 25 — у шырыню. **Гэты будынак мы і ведаем як Фару Вітаўта.** Ён перажыў усе войны і пажары і датрымаўся да 1961 года.

### Стагоддзе Фара была Сафійскім саборам

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у расійскіх уладаў з'явілася ідэя перабудаваць Фару ў праваслаўны храм. І ў 1807-м сабор быў асвечаны ў гонар Святой Сафіі.

На дзіва, будынак зведаў нязначныя змены і мала нагадваў праваслаўныя храмы тагачаснай Расіі. Сабор нават захаваў гатычныя вокны, а вежа атрымала круглявы купал, падобны на першапачатковы, з гравюры Макоўскага. У такім выглядзе Фара трапіла ў аб'ектывы *першых* фатографаў і на малюнак Напалеона Орды.

Аднак праваслаўнае духавенства непакоіла, што храм «больш падобны да касцёла, чым да праваслаўнай царквы». І пасля пажару 1892 года на цэнтральнай плошчы Гродна з'явіўся велізарны псеўдарускі сабор, адзін з найбольшых праваслаўных сабораў, што калі-небудзь існавалі на Беларусі.

### Вундэркінд-падрыўнік

У 1920-я гады Сафійскі сабор вярнулі каталікам і перабудавалі ў гарнізонны касцёл. Архітэктар вярнуў гатычныя вокны, але паколькі гравюры Макоўскага ён не ведаў, купал давялося прыдумваць.

Пасля вайны ў Фары зрабілі зернясховішча, была ідэя размясціць там кінатэатр або Дом фізкультуры. Але ў 1961 годзе ўлады вырашылі знесці храм як «аварыйны будынак». Узрывалі пацямну, у ноч на 29 лістапада. 400-гадовыя цагліны выкарысталі «для производства дорожных строительных работ (временное покрытие проезжей части улиц, второй категории тротуаров, дорожек)».

У Гродне хадзіла легенда, што падрывам кіравала дзяўчынка з Ленінграда, вундэркінд. Па іншай версіі — жанчына маленькага росту, якую лёгка было прыняць за дзіця.

### Калі адновім — будзе сімвалам

Галоўныя гатычныя саборы Еўропы з'яўляюцца сімваламі дзяржаў і народаў: сабор Святога Віта ў Празе, сабор Парыжскай Божай Маці, Вестмінстарскае абацтва ў Лондане. Нават амерыканцы палічылі патрэбным пабудаваць у сябе вялізны гатычны Вашынгтонскі нацыянальны сабор. На тэрыторыі Беларусі такім храмам-сімвалам магла б стаць Фара Вітаўта — храм, які фундавалі Бона Сфорца, Стэфан Баторый...

**У ноч з 28 на 29 лістапада 1961 года Фара Вітаўта была ачэпленая салдатамі і падарваная ленінградскімі падрыўнікамі**

Адзін з аргументаў праціўнікаў аднаўлення — няясна, якой канфесіі будзе належаць храм. Кампрамісным рашэннем было б зрабіць адноўлены будынак канцэртнай залай ці іншым нерэлігійным аб'ектам.

Пакуль жа гараджане і госці могуць агледзець толькі памятны знак на месцы святыні, а таксама апсіду касцёла бернардынцаў з гатычнымі вокнамі. Узорам для яе паслужыла якраз апсіда Фары Вітаўта. ◆



**Такім быў першапачатковы выгляд Фары Вітаўта.** Рэканструкцыя Алены Квітніцкай.

### Казюк і яго лілея

У канцы XV стагоддзя драўляны храм рэканструяваў Аляксандр Ягелончык. Яго памерлы брат Казімір вельмі любіў гэта месца і, па легендзе, басанож хадзіў з замка ў касцёл. Калі касцёл быў зачынены, Казімір клаўся на ганку і ляжаў распластаўшыся. Дарэчы, у Гродне 25-гадовы Казімір і памёр — хварэў на сухоты. Праз стагоддзе яго кананізавалі, ён стаў святым заступнікам Вялікага Княства. Святога Казіміра выяўляюць у княскім уборы і з лілеяй у руцэ. У дзень памяці Казіміра, 4 сакавіка, у Вільні сталі ладзіць фэст — легендарныя Казю́кі, па-літоўску — Казю́кас.



## Калі Скірмунт мог ўратаваць БНР, дык чаму ж не ўратаваў?

«Скірмунт, які мог ўратаваць БНР» — такі асноўны пасыл Алеся Смаленчука (№ 1, 2019). Калі мог, дык чаму не ўратаваў? Не схацеў? Паленаваўся? Аддаў перавагу асабістаму і махнуў рукой на палітыку?

Калі ж яму нехта і нешта перашкодзіў, не даў здзейсніць высакародны ўчынак ратавання БНР, то гэта азначае адно: Скірмунт не мог гэта зрабіць. Нават Івану Луцкевічу, які прыехаў быў гасіць канфлікт паміж левымі і правымі ў Радзе БНР (у немалой меры асабісты канфлікт паміж Воронкам і Скірмунтам), не ўдалося ўратаваць Скірмунта на пасадзе старшыні Народнага Сакратарыята. А братам Луцкевічам вельмі хацелася, каб Скірмунт заставаўся на гэтай пасадзе, бо спадзяваліся, што ў такім разе Нямеччына афіцыйна, дэ-юрэ прызнае БНР. Цікава назіраць, як Алесь Смалянчук (гісторык несумненна правай арыентацыі) спрабуе паставіць Скірмунта калі не на хадулі, то на катурны. Палітыка, які не паехаў у складзе дэлегацыі БНР на мірную канферэнцыю ў Парыж, які пазней, у Польскай Рэспубліцы, стаў рэгіяналістам, а потым і зусім перайшоў быў на праўрадавыя пазіцыі, стаў сенатарам у санацыйнай Польшчы — у 1930 годзе, пасля разгону пілсудчыкамі парламента 2-й кадэнцыі.

**Анатоль Сідарэвіч**

**Катурны** — у старажытнагрэчаскім і рымскім тэатрах сандалі на тоўстай падэшве, платформе. Акцёры надзявалі іх для павелічэння росту і надання сабе велічнага выгляду.

## Карціна з Рэйтанам называлася не так

Вядомую карціну Яна Матэйкі, намаляваную ім адразу пасля паразы паўстання 1863 года (№ 3, 2019), няправільна называць «Рэйтан, або Заняпад Польшчы».

Назоў гэты быў «прышчэплены» да працы значна пазней. Матэйка пачынаў карціну як «Рэйтан», а завяршыў як «Тадэвуш Рэйтан на Варшаўскім сойме 1773 года». Аб гэтым сведчыць таблічка, якая замацавана на раме. Першая з прыведзеных назваў памылковая яшчэ і таму, што стварае міф барацьбы за польскую справу літвіна-беларуса Тадэвуша Рэйтана.

**Зміцер Юркевіч, Facebook.com**

## Закулісе Танакі

Дзякуй за капітана Танаку! Сын чакае кожны свежы нумар «Нашай гісторыі», змагаюцца з бацькам за часопіс! А чаканне — гэта таксама вялікі кавалак задавальнення.

**Кацярына Таразевіч**

* * *

Выйшла новая «Пластыляндыя». Ура! Але хай бы яна працягвалася ў выглядзе кнігі, бо трываць немагчыма тое расчараванне, калі гісторыя так часта і так надоўга перапыняецца.

**Валянціна Андрэева**

* * *

Ян прачытаў працяг свайго любімага капітана Танакі і кажа: «Мама, я ўжо вырас з “Вясёлкі” — я цяпер буду чытаць “Нашу гісторыю”».

**Марыя Роўда**

**Бацькам адказвае аўтар «Пластыляндыі» (старонкі 94–95) Алесь Кудрыцкі**

Чакаць «Пластыляндыю» доўга — і гэта добра.

Не раз чую пра тое, як цяжка дзецям усвядоміць, што працяг «Пластыляндыі» ў часопісе выйдзе толькі праз месяц. Здаецца: вось яна гісторыя, у руках, але ж... Комікс працягваецца, і працягу трэба чакаць. А гэта так нязвычна!

У псіхалогіі ёсць такая з’ява *instant gratification*. Перакласці можна хіба як «імгненнае задавальненне». Гэта калі хочацца — і можацца — атрымаць тое, што жадаеш, тут і цяпер.

Вось, напрыклад, фэйсбук. Гэта сапраўдная машына «імгненнага задавальнення». Націснуў кнопачку, лента абнавілася — задавальненне. Націснуў яшчэ раз — зноў аднавілася, зноў задавальненне. Ці вось, напрыклад, выклалі новы серыял у сеціва. Праглядзім серыю. А можа, адразу дзве? А можа, цэлы сезон? Гэтая з’ява на Захадзе нават адмыслова займела назву *binge watching* — «запойны прагляд». Запойны — тут ключавое слова. Бо ў дарослым жыцці няўменне стрымаць імпульс да імгненнага задавальнення — гэта адна з прычын упадання людзей у разнастайныя залежнасці.

Супрацьпаставіць гэтаму можна ўменне «адкладзенага задавальнення». Гэта калі ты не хапаеш яблык, што нізка вісіць, але бярэш лесвіцу і акуратна абіраеш усю яблыню. Гэта ўменне пачакаць ці папрацаваць для таго, каб чагосьці дамагчыся.



Тым часам Алесь Кудрыцкі запрашае паглядзець, **як нараджаецца «Пластыляндыя»**. Зазірнем за кулісы!

Не думайце, што я чытаю тут нейкія натацыі. Я і сам першая ахвяра «імгненных задавальненняў». Кожны раз, калі раблю серыі «Пластыляндыі», я змагаюся з уласным жаданнем пасядзець у фэйсбуку, абнавіць навіны, пазаймацца ўсімі тымі прыемнасцямі, якія называюць прыгожым словам «пракрастынацыя», а па-простаму — лянота.

Канечне, мне б і самому хацелася, каб «Пластыляндыя» адразу выйшла кнігай. Але ж гэта вялікая праца, і яе яшчэ трэба зрабіць. Таму давайце лічыць, што чаканне чарговага нумара «Нашай гісторыі» з коміксам — гэта трэніроўка «адкладзенага задавальнення». Хай нашыя дзеці вучацца чакаць. Гэта важнае і рэдкае ў наш час уменне. Але яно зробіць іх мацнейшымі.












SHUTTERSTOCK.COM, BY ANTON WATMAN

# Мала сонца, нялёгкая жытка: як спiвалася Беларусь

**Я бачыла, як слабела вёска ад «вады жыцця», як пачалі піць жанчыны, а потым і дзеці. Піша Святлана Курс.**

Вясковае жыццё няспешнае, глыбіннае, пры самым дне, манатоннае і паўтаральнае, як змена пораў года. Вясковы і местачковы чалавек моцна звязаны з земляробчым і прыродным цыклам, ён пастаянна стаіць перад жыццём і смерцю, яго вочы не замыленыя рухам і руцінай вялікага горада. Гарэлка асабліва смачна гоніцца і п’ецца на прыродзе. Вясковае жыццё спрыяе п’янству.

З 1972 па 2018 — доўгі перыяд назірання, блізу паўстагоддзя. Аднак працэс гэты доўгі, размыты, алкагалізм у чалавека развіваецца ад 15 да 45 год. Адны гінуць хутка, другія дацягнуць да 60–80. Да таго ж піццё ўспрымаецца як абрадавае афармленне і акраса будзённасці.

### Любанская брага абяцала жыццё

Пачыналася ўсё з прарошчвання зерня, раскладзенага на старой посцілцы. Потым зерне з зеленаватымі «дзюбкамі» малолі на солад, адначасова ліхаманкава шукаючы дрожджы. За познімі саветамі драждджэй было не ўкупіць, часам даводзілася ехаць ажно ў Слуцак, за 80 км. Разжыўшыся драждджамі і соладам, у хату ўносілі 40-літровыя малочныя бітоны і ў іх «замешвалі», «ставілі», «рашчынялі» брагу. Любанская брага — густая, жывая, булькатлівая. У дзяцінстве яна мне нагадвала біямасу з фільма «Праз церні да зорак» (з тае біямасы наляпілі людзей для планеты Дэса). Так ад самое брагі праяўлялася дваістая прырода гарэлкі: яна абяцае жыццё (яе парафраз, схаванае імя — «аквавіта»), але выводзіць да смерці, калі не будзеш стойкі.

Бітон з брагаю хуталі і ставілі даспяваць. Калі надыходзіў час, посцілкамі ды коўдрамі завешвалі вокны і дзверы, каб не казытаць насоў суседзям і ўчастковаму. І гналі.

У гарэлкавыя дні дома было цёмна, усе размаўлялі напаўголасу, у хаце лунаў востры пах хлебнай гарэлкі. Былі эксперыменты з надзёртымі на тарцы цукровымі буракамі, варанай бульбай, нават з цукрам іварэннем, але яны не прыжыліся — лепшай за хлебную гарэлку нічога не бывае. Наліваеш на далонь, расціраеш, яна расцякаецца, як алей, з водарам свежага хлеба.

### Абрад

Гнала бабка, яна і здымала пяршак. У іншых сем’ях першая пачостка, як і ўсе рытуалы з гарэлкай, належалі мужчынам. Але бабка ўважала, што за яе ніхто лепей не зробіць, а кепскай гарэлкай толькі свіней абмываць. Пяршак бег тонкім цурком (не таўшчэйшым за запалку ці вошчаную нітку, інакш будзе вадзіца, а не гарэлка). Першую паўлітроўку пускалі на лячэбныя і тэхнічныя патрэбы. Пасля бабка нацэджвала вялікую эмаляваную конаўку і махала нагбом, не закусваючы, каб «не перабіваць смак». Смак, па яе словах, заўжды быў дасканалы. Бабка была з Баянічаў, а там, як спрадвеку скардзіліся ўчастковыя, «даводзіцца разганяць цэлыя заводы».

Выгнаную брагу давалі свінням. П’яныя свінні — не паказка, а рэальнасць. Суседчыны кабаны аднойчы ледзьве выйшлі з пахмелу, два дні стагналі ў хляве. Нашыя ж былі як агурочкі. ▶

СЯМЕЙНЫ АРХІЎ АЛЕГА ВАЙДЫ

**Святочнае застолле ў сялянскай сям'і.** Вёска Студзянец пад Смаргонню, канец 1930-х гадоў.

ФОТА ЮРЫЯ ІВАНОВА

Танцы на вясковай вуліцы, Урыцкае Гомельскага раёна. **Справа: мужыкі покрадкам нясуць бутэльку.** 1967 год.

Увесь абрад займае паўночы. З бітона брагі выходзіў трохлітровік гарэлкі — вады жыцця, вадкай валюты, эквіваленту калі не ўсіх, то многіх рэчаў. За пляшку можна было пазычыць каня, здабыць дроў ці камбікорму, вымантачыць лепшы ўчастак пад бульбу, сенакосную дзялку, гарэлкаю расплачваліся за любую помач: біццё кабана, заворванне бульбы, грабленне і стагаванне, рэзку дроў. Гарэлку налівалі на Новы год Дзеду Марозу са Снягуркай, так што да канца вёскі яны даязджалі зусім расхлістаныя, а гармонік у руках Дзеда бязладна стагнаў, звісаючы да зямлі.

### Чыстая ды каляровая

Гарэлка з'явілася ў Вялікім Княстве ў XV–XVI стагоддзях як *Geprant Wein* — гарэлае віно, экзатычны ласунак з Нямеччыны. Гарэлае — значыць дыстыляванае, перагнанае на агні, у дыстылятары. Ёсць звесткі, што гарэлае віно выдумалі галандцы — вялікія вандроўнікі. Звычайнае віно ў падарожжы псавалася, і яны ўздумалі яго пераганяць.

**Права прапінацыі: прыгонных сялян да гарэлкі прывучала шляхта. Так пануючы клас выкачваў грошы**

Адна з першых згадак пра «гарэлае віно» ў нас — 1507 год: ваўкавыскія ўлады выдалі дазвол на перагонку. Спачатку з-за недасканалых перагонных апаратаў гарэлка была далікатэсам. На пляшку слабой, 30%, гарэлкі ішло каля 10 кг жыта.

Аднак працэс удасканальваўся, гарэлка таннела і выцясняла наліўкі, пітныя мяды і піва. З канца XVII стагоддзя нас, беларусаў, можна смела лічыць людзьмі гарэлачнай культуры, у адрозненне ад культур «піўных» і «вінных». Яно і зразумела: суровы клімат, доўгая зіма, мала сонца, траўматычная гісторыя, нялёгкая жытка.

### Гарэлка і традыцыя

Традыцыя прыгатавання і спажывання алкагольных напояў — частка нашай нацыянальнай культуры, замацаваная ў беларускім фальклоры і абраднасці. Паводле легенды, першапачаткова яе нібыта гналі чэрці ў балоце дзеля ўласных патрэб і спакушэння людзей. Бог пастанавіў абясшкодзіць яе, блаславіў і зрабіў вадой жыцця. Аднак злая прырода гарэлкі да канца не сцёртая. Хто не злоўжывае — таму гэта жывая вада, а пры злым ужыванні — мёртвая. Так гаворыць пракаветная беларуская легенда.


WIKIMEDIA COMMONS

У Супраслі, на польска-беларускім памежжы, захаваўся **старадаўні будынак карчмы.**




**Адрыян Броўвер. У шынку.** XVII стагоддзе.

**У Вялікім Княстве абавязковым звычаем становіцца «літкуп»** — ніводзін гандаль ці гешэфт не лічыцца сапраўдным, пакуль яго не «замочаць». Пры наваселлі трэба было «выкупіць суседства» — наліць суседзям. За сялянскія прадукты, якія ішлі ў панскі двор, шляхта таксама старалася заплаціць гарэлкай. Менавіта з прапінацыі, з выкачвання такім чынам грошай з сялян пануючым класам, паходзяць закаранелыя «традыцыі», якія цяпер лічацца стыхійнымі, народнымі.

## Гарэлка і водка

Сёння гэтыя словы ўспрымаюцца як рознамоўныя сінонімы, у той час як гістарычна гэта не зусім адно і тое ж. Пасля ўвядзення ў Расійскай імперыі дзяржаўнай манаполіі ўлады пагналі «казёнку» — рэктыфікат, які рабіўся ў рэктыфікацыйнай калоне без змеевіка. Такая адгонка выдаляе лішнія фракцыі, утварае спірт мацункам у 92–96%. На дзяржаўных гарэльнях той спірт разводзілі і прадавалі. Гэта прадукт значна ніжэйшага класа. Яго і прынята называць рускай водкай.
Беларуская ж гарэлка рабілася шляхам дыстыляцыі — перагонкі зброджанага соладу ў простым перагонным кубе. Для найлепшай якасці перагонку рабілі па 3–4 разы. Дыстыляцыя захоўвае водар кожнага інгрэдыенту. Старыя людзі лічылі, што гарэлка п'яніць марудней, чым водка, і трымае настрой даўжэй, ахінае цяплом і радасцю, не кідае ў агрэсію, мае і смак, і душу.
Таму і амаль усе нацыянальныя брэнды — дыстыляты. Тэкіла, ракія, чача, віскі, грапа, слівовіца, ром, сакэ. У іх шэрагу і беларуская акавіта — гарэлка, калі ўжываць яе ў меру.

Мярца хаваць — гарэлку гнаць, і дзеўку аддаваць — гарэлку гнаць. Хату стаўляць — гарэлку гнаць, і дамавіну* спраўляць — гарэлку гнаць. На хаўтуры і Дзяды ставілі чарку нябожчыку, адлівалі гарэлкі на абрус, лілі або стаўлялі на апошні капец. З гарэлкай хадзілі ў сваты і ладзілі запоіны**, з гарэлкай перагароджвалі рагаткаю вуліцу перад вясельным паяздам***. Гарэлкай віталі калядоўшчыкаў, валачобнікаў, старцаў-вандроўнікаў. Запівалі любую ўгоду і гешэфт, асабліва калі прадавалі жывёлу. Гарэлку пілі пры закладанні трох першых вянцоў зрубу, лілі на кутні камень****.

## Чатыры столкі

Гарэлкі мелі розны мацунак — ад 30% (простая ўзгонка) да ўласна «акавіты» патройнай узгонкі (70%). Гарэлку настойвалі і пераганялі на зёлках і каранях свойскіх і прывазных, на мёдзе, пладах і ягадах, на разынках, на паленым і белым цукры.
Існавалі асабліва вымудраваныя рэцэпты — варта згадаць нямецкі рэцэпт «Чатыры столкі*****» (*Vier Jahreszeiten*). Усе сезонныя ягады і малыя плады па меры выспявання закладалі слаямі ў бутлю і залівалі гарэлкаю, а ўвосень, ▶

* **Дамавіна** — па-беларуску сінонім слова «труна». Дамавінай называлі апошні «дом» нябожчыка.

** **Запоіны** — частка сватання і падрыхтоўкі для вяселля. Выглядзіны, даведкі, сватанне, запоіны, агледзіны і заручыны — у такім парадку дамаўляліся пра шлюб. Калі бацькі нявесты прымалі сватоў, былі зацікаўленыя выдаць дзяўчыну за гэтага хлопца, то наступным этапам збіраліся за сталом, каб «запіць» дамоўленасць, замацаваць яе разам выпітай чаркай.

А ў полі вярба
Нахілёная,
Маладая дзяўчынонька
Заручоная.
Маладая дзяўчынонька
Заручоная.

Заручоная
І запітая,
Тады яе запівалі,
Як сад зацвітаў.
(З песні «А ў полі вярба»)

*** **Паязд** — так называлі вясельны картэж.

**** **Кутні камень** — нарожны, краевугольны камень.

***** **У чатыры столкі** — значыць у чатыры разы, чатыры слаі.

ФОТА ЮРЫЯ ІВАНОВА



**Мсціслаў**, 1980 год.

Як слушна казаў французскі паэт **Агюст Барб'е**, пясняр п'янства, «п'янства — гэта творчасць для жабракоў». Найбольш п'юць там, дзе найменш надзеі — у найбяднейшых раёнах. Калі скласці карту найбольшай беларускай беднасці, то яна супадзе з картай алкагалізацыі. У гэтых мясцінах занепадае і культура піцця. Людзі п'юць танны расійскі кантрабандны рэктыфікат — «максімку». Гарадская бедната — аптэчныя заменнікі, тэхнічныя вадкасці.

«Тыф з чумою на ўсіх кладах
Не паклалі столькі бедалаг,
Ліхаманка ў самы чорны год
Не прынесла гэтулькіх бядот» —

пісаў Барб'е ў 1830-м, апісваючы спусташэнні, якія сеяў у бедных кварталах партовых гарадоў танны джын. У вершы «Джын» апісваюцца маткі, з п'яных рук якіх падаюць немаўляты, матросы, якія забіваюць адно аднаго і сваіх жанчын у п'яных звадах, пагібель у п'яных аварыях (тады яшчэ з удзелам карэт і вазоў, а не аўто). Танны алкаголь, «які д'ябал палошча глотку й смяецца», вечна сее смерць і нягоду. Таму «чарка мае быць маленькай, а жыццё — вялікім».

## Дзядзька Пеця і яго шчупы

Часта кажуць, што беларуская вёска пры позніх саветах не была такой пітушчай, як цяпер. Не. Алкаголікаў было шмат і тады. У «парку», дзе рамантавалі калгасную тэхніку, дзядзька Пеця каваў ахвотным «шчупы» — завостраныя дрыны, якімі мужыкі выпорвалі гарэлку, закапаную жонкамі ў жыта, у муку, у зямлю. Сам дзядзька Пеця так налаўчыўся арудаваць шчупом, што знаходзіў і сваю, і чужую. Ягоная Маня пачала хаваць запасы ў нас, толькі наказвала бабцы: «Сёння мой да вас прыйдзе астаграміцца —налі». Дзядзька Пеця думаў, што п'е нашую, нахвальваў, крактаў, касеў, бажыўся аддаць, а бабка спадцішка прыгаворвала: «Пі, пі, Пецечка, сваю гарэлачку».

пасля адыходу апошніх ягад — брусніц ды журавін, — запячатвалі сургучом. На Каляды бутлю ўрачыста адкрывалі, і з яе вырываліся ўсе водары мінулай вясны, лета і восені. Мне давялося пакаштаваць «чатыры столкі» раз у жыцці: мама зрабіла. Потым яна гэтую забаву кінула — мы з братам употай выпівалі салодкую наліўку з бутлі, а далівалі вадой.

### Дзяржава стварае ўмовы

Часта можна пачуць, што ўсе дзяржавы, якія вялі рэй на нашай зямлі, распойвалі беларусаў. Гэта і так, і не так. Усё ж піццё — выбар асабісты, дзяржава толькі стварае ўмовы.

Гэтак, бюджэт Вялікага Княства і Кароны ў розныя перыяды і па розных падліках на 25–70% складаўся з «гарэлачных грошай».

У XVI стагоддзі ў Рэчы Паспалітай было ўведзена выключнае права прапінацыі (ад лац. *propinare* — «піць за здароўе»), якое давала кожнаму землеўладальніку права гнаць і прадаваць на сваёй зямлі любую колькасць гарэлкі, плацячы падатак дзяржаве.

Землеўладальнік быў не толькі вытворцам, але меў выключнае права прадаваць алкаголь у вёсках на сваёй зямлі. Цэны і нормы якасці ён вызначаў сам. Сойм забараніў дзяржаве ўмешвацца ў адносіны селяніна і землеўладальніка. Гэта адкрыла шырокую дарогу да злоўжыванняў і прымусу.

А сялянам дазвалялася гнаць гарэлку толькі на Вялікдзень, Каляды і вяселле. Астатняе чалавек мусіў купляць у свайго пана, святара ці карчмара. Шляхта гнала гарэлку ракою і сама прыпадала да струменя: бывалі шляхціцы, якія за год выпівалі да 700 літраў піва і да 40 літраў гарэлкі.

### Расійскі ўрад стымуляваў выраб гарэлкі, бо яму было выгадна

«Гарэлачная эканоміка» асабліва ўмацавалася ў 1820-я. Тэхнічны прагрэс спрасціў апараты і дазволіў ціснуць гарэлку з бульбы, што рэзка знізіла яе сабекошт.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай Расійская імперыя пакінула прапінацыю ў 16-ці нованабытых заходніх губернях. На астатняй тэрыторыі працаваў інстытут «водкупу» — падатку, які землеўладальнік мусіў заплаціць дзяржаве за права манапольнага гандлю гарэлкай на сваёй тэрыторыі. Расійскі ўрад стымуляваў выраб гарэлкі, бо яму было выгадна. У 1859 годзе амаль палова (46%) дзяржбюджэту наўпрост папаўнялася з «гарэлачных» падаткаў і акцызаў.

Яшчэ адно абмежаванне на алкаголь спрабавалі ўвесці бальшавікі ў 1923–1924 гадах, аднак хутка ад яго адмовіліся: бюджэт не вытрымліваў.

Апошні сухі закон у расійскай, дакладней, ужо савецкай імперыі ўводзілі перад яе распадам, у 1985 годзе. На той час продаж гарэлкі складаў траціну прыбытку ад харчовай прамысловасці і шостую частку ўсяго савецкага тавараабароту. Спадзяваных вынікаў, аднак, гэта не дало, толькі зноў буйным цветам расквітнела самагонаварэнне.

Паводле гісторыкаў і спецыялістаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, ужо некалькі дзесяцігоддзяў на аднаго дарослага беларуса прыпадае больш за 16 літраў чыстага спірту на год. Беларусы займаюць другое-пятае месца ў свеце па ўжыванні алкаголю. Спаборнічаюць з намі толькі суседзі: літоўцы, украінцы, расейцы і палякі. Наша частка свету — самая пітушчая на планеце.

Беларусы п'юць у некалькі разоў больш, чым носьбіты менш алкагольных культур: сярэдні паказчык у свеце — 6,2 літра. ◆

**На аднаго беларуса прыходзіцца 16–17 літраў спірту на год, а сярэдні паказчык у свеце — 6,2 літра**

Складана падлічыць шкоду, якую прынесла «гарэлачная эканоміка». Кацпер Патоцкі, антраполаг з Познанскага ўніверсітэта, кажа, што ў рэгіёнах, дзе дзейнічала права прапінацыі, дагэтуль захоўваюцца нізкі грамадскі капітал і свядомасць, грамадзянская апатыя, атамізацыя, адсутнасць даверу да прадпрымальнікаў.

Цалкам прапінацыя была скасаваная ў 1894 годзе з ініцыятывы міністра фінансаў Сяргея Вітэ. Адначасна ўвялі дзяржаўную вінную манаполію. Перад Першай сусветнай агульны прыбытак ад віннай манаполіі склаў 26% бюджэту Расійскай імперыі.

З пачатку Першай сусветнай вайны ва ўсёй імперыі ўвялі сухі закон, запасы казённай гарэлкі знішчылі. Але ў выніку скокнула ўгару вытворчасць самагонкі. Гэтак, у 1918 годзе колькасць нелегальных гарэльняў дасягнула 20 тысяч.

# Дзе найсмачнейшая крыніца?

Закон «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі і нехарчовага этылавага спірту» забараняе беларусам гнаць напоі мацункам больш за 7%.
Практыка ж склалася так, што міліцыя заплюшчвае вочы на тых, хто робіць хатняе віно любога мацунку, але ваюе з самагоншчыкамі. Ды і тое галоўным чынам з тымі, зто вырабляе прадукт не для ўласнага спажывання, а на продаж.
Зрэшты, з мэтай адраджэння матэрыяльнай спадчыны дзяржава надала права гнаць традыцыйную беларускую гарэлку тузіну арганізацый і суполак.
Сярод іх — Нацыянальны парк «Белавежская пушча». Белавежа пастаўляе сваю гарэлку ў 75 краін. Гэта дыстылят арыгінальнай рэцэптуры на дражджах, артэзіянскай вадзе, ячмені ці жыце. Ваду вытворцы пампуюць з крыніцы глыбінёй амаль у сорак метраў. Робяць каляровыя гарэлкі і бальзамы на зёлках, пладах і ягадах. Самы вядомы брэнд — «Зуброўка», настаяная на аднайменнай траўцы.
Сваю самагонку і медавуху наліваюць у Каробчыцах пад Горадняй, традыцыйна славіцца гарэлка з Бакштаў на Івейшчыне («бакштанка»).
Адборную гарэлку рабілі беларусы-сакуны, нашчадкі дрыгавічоў. Любань, Глуск, Старыя Дарогі, Ляхавічы, Калінкавічы — месцы асядлення гэтага племені. Адрозніваліся яны саканнем на месцы зваротнай часціцкі пры дзеяслове (наеўса-напіўса — лёг спаць і накрыўса), а таксама фенаменальнай нават для беларусаў закрытасцю і зацятай любоўю да простых, добрых, грубых рэчаў. Носьбіты белых світак, аматары закрытай дваровай пабудовы, сакуны жылі ў замкнёнай крэпасці. Двор пачынаўся з хаты, за ім анфіладаю, вузкім калідорам ішлі сенцы, гумны, стопкі, адрыны, хлявы. Гэтая крэпасць стаяла на голай чорнай зямлі без падмурку, і ў ёй, як у змеевіку, дзеяліся і файныя, і чорныя справы.
Гарэлка сакуна — найперш славутая старадарожская, — гэта падвойная-патройная перагонка з густой, як смала, саладухі-брагі, створанай з рошчы (прарошчанага жыта), з дадаткам тоўчанай бульбы (камакоў). Сакуны закусвалі яе мясам, гарачай капустай, свежым чорным хлебам. Кожная хата мела свой рэцэпт гарэлкі, які перадаваўся ад бацькі да сына.
І гэтыя рэцэпты да канца яшчэ не страчаныя. Магчыма, яны некалі яшчэ пойдуць у рост, як добрая брага.
І ў Беларусі зноў будуць рабіць старку, пейсахоўку з разынкамі, ратафію, крупнік, міндалёўку, анісаўку, галганоўку (на імбіры), кменаўку, кардамонаўку, бярозаўку, кантабас, сінюю з васількоў, чырвоную з глогу, блакітную з крываўніка. Пра крываўнікавую блакітную гарэлку, дарэчы, марыў Уладзімір Караткевіч.

# Піло начальства, а за ім усе астатнія

**Савецкая ўлада глядзела на самагонку скрозь пальцы. Больш за тое, алкаголь быў для селяніна адзіным спосабам вырашыць пытанні з уладай. Піша доктар гістарычных навук Сяргей Токць.**

Надзвычай каларытнае апісанне жыцця пасляваеннай заходнебеларускай вёскі зрабіў партыйны работнік з Мінска, нейкі таварыш Арцёмаў. У канцы 1945 года яго накіравалі ў Берштаўскі сельсавет Скідзельскага раёна Гродзенскай вобласці назіраць за падрыхтоўкай і правядзеннем выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет СССР. Пасля двух месяцаў у Берштаўскім сельсавеце Арцёмаў даслаў падрабязную запіску ў ЦК КПБ, вытрыманую ў надзвычай крытычным тоне: «Кулакі і п’яніцы ў Берштаўскім сельскім савеце і сельпо ўстанавілі свае няпісаныя законы і абдзіраюць савецкіх людзей. Прахвосты, дэзерціры, жулікі застаюцца, як правіла, у больш выгодным становішчы, чым дэмабілізаваныя чырвонаармейцы, бо за самагон, за гарэлку гандлююць дзяржаўнымі інтарэсамі і савецкай палітыкай на ўсе бакі».

### Таварыш з Мінска спрабуе навесці парадак

Забарона прыватнага гандлю прывяла да поўнай дэзарганізацыі ў гэтай сферы. «Настаўнікі, медработнікі і іншыя савецкія служачыя па атрыманне сухога пайка ходзяць пешкі за 36 км у Скідзель, хоць у Берштах маецца кааператыўная крама».

Як высветліў таварыш Арцёмаў, старшыня сельпо «тавары прадае толькі тым грамадзянам, якія наліваюць яму ў фляжку гарэлкі ці самагону».

**Польскі чыноўнік ніколі б не стаў піць з селянінам, а савецкаму гэта не забаранялася**

Арцёмаў вырашыў асабіста навесці парадак у кааператыўным гандлі: «Па маёй просьбе і па прапанове райкама старшыня райспажыўсаюза і загадчык райгандальаддзела 23.1.46 г. прыехалі ў Бершты праводзіць сход членаў-пайшчыкаў, вечарам напіліся і ноччу сп’яна паслалі нарачных склікаць сход, а так як напярэдадні быў пашыраны пленум с/савета з актывам і было вырашана ўсім ехаць на лесанарыхтоўкі, то на сход прыйшло 5–7 чалавек. Сход сарвалі». Спроба мінскага партыйца наладзіць мясцовую спажывецкую кааперацыю правалілася.

### «Напіўся і галасаванне адкрыць не змог»

Права на дармовую выпіўку дамагалася не толькі ўлада, але і «істрабкі» — хлопцы дапрызыўнога ўзросту, арганізаваныя ў так званыя «істребительные батальоны» для барацьбы з дыверсантамі і бандытамі. Гэтыя маладзёны, як цвердзіў Арцёмаў, пачалі тэрарызаваць мясцовых сялян: «Самі на ўскраінах хутароў і ўзлесках праводзяць стральбу з аўтаматаў, кідаюць гранаты, г.зн. інсцэніруюць нібыта барацьбу з бандытызмам, і гэтымі прыёмамі запалохваюць мясцовае насельніцтва, вымагаючы прадукты, самагон, а пры найменшым пярэчанні застрашваюць высылкай на Урал і нават збів+аюць людзей». Кожны дзень «істрабкоў» пачынаўся з пошуку самагону, для чаго яны спецыяльна пасылалі на лясныя хутары «камінараў» (чысцільшчыкаў пячных комінаў), каб тыя разведалі, дзе хто гоніць гарэлку.

Як сцвярджаў Арцёмаў, усе спробы «грамадзян, у тым ліку і дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, скардзіцца на самавольства с/савета і «істрабкоў» у раённыя і абласныя арганізацыі не даюць вынікаў, бо скаргі ў выніку трапляюць у рукі п’яніц, і ўсю агіднасць пакрывае самагон». ▶

**У сялянскіх запасах** гарэлка была заўсёды. Найменш піла заходнебеларуская вёска хіба што за «польскім часам». Тады селянін ашчаджаў кожны грош, а за вытворчасць самагонкі моцна каралі. Затое самагонаварэнне расквітнела ў часы нямецкай акупацыі, у перыяды безуладдзя. Пры адсутнасці трывалай грашовай сістэмы самагонка стала лакальнай валютай, ды і акупанты зусім не цураліся «бімбару».

З-за п'янства актывістаў сарваліся ўсе пяць спроб Арцёмава правесці ў вёсцы камсамольскі сход. Раённы камітэт камсамола, на яго думку, добра ведаў пра стан рэчаў, але ўсё пакрываў. А калі другі сакратар Скідзельскага райкама камсамола Ламака прыехаў 10 лютага ў Бершты для правядзення выбараў, дык так напіўся, што яго ледзьве паднялі ўвечары для падліку галасоў.

П'янства на выбарах было тады неад'емным рытуалам. Але пакаранні накладаліся толькі на тых работнікаў, якія не маглі трымацца на нагах. Як гэта было са старшынёй участковай камісіі Дакудаўскай выбарчай акругі ў Лідскім раёне, інструктарам партыі таварышам Бяловым, які «да пачатку галасавання напіўся п'яны і галасаванне адкрыць не здолеў».

Сам таго не ўсведамляючы, мінскі таварыш зрабіў даволі праўдзівае апісанне рэчаіснасці, характэрнай не толькі для Берштаў. Прыдушаныя высокімі падаткамі і абавязковымі пастаўкамі, сяляне-аднаасобнікі хаця б з дапамогай самагону маглі неяк справіцца са свавольствам чыноўнікаў. Тады з самагонам улады фактычна не змагаліся, іх

**П'янства на выбарах стала неад'емным рытуалам. Пакаранні накладаліся толькі на тых работнікаў, якія не маглі трымацца на нагах**

больш хвалявалі іншыя пытанні. Ды і канкурэнцыі дзяржаўнай вытворчасці спірту самагоншчыкі спачатку не складалі: на душу насельніцтва ў БССР у 1945-м было прададзена толькі 1,6 л казённай гарэлкі. У выніку ў выйгрышы аказваўся той гаспадар, які меў самагонку і здольнасці камунікацыі з прадстаўнікамі ўлады. А ўнізе сацыяльнай лесвіцы апынуліся самыя законапаслухмяныя сяляне, якія лічылі самагонаварэнне амаральным і незаконным. Яны мелі найменш шанцаў дабіцца льгот ад улады, калі нават і мелі на іх правы.

Вышэйшае партыйнае начальства прызнавала, што мясцовае начальства співаецца, але скідвала віну за гэта на «кулакоў». Раённая газета «Красное знамя» пісала ў 1946-м пра вёску Баброўня (радзіму паэтаў Макара Краўцова і Міхася Васілька): «Адзін з найбольш заможных сялян Захар Будзько з плану 1 122 кілаграмы здаў дзяржаве ўсяго 190 кілаграмаў хлеба. Сельскаму савету добра вядомая "дзейнасць" Захара Будзько. Аднак там не спяшаюцца з высновамі. І гэта толькі таму, што кватэра Будзько з'яўляецца пастаянным месцам папоек старшыні сельсавета т. Бухаўкі і агента раённага ўпаўнаважанага



**Абразок з жыцця** пасляваеннай вёскі.

СА ЗБОРУ АЛЕСЯ МАРЫ



Язэп Драздовіч. **Самагоншчык у Галубіцкай пушчы.** 1923 год.

## Начальства ўсё ведала

«Ці ведае пра гэта Скідзельскі райкам партыі і райвыканкам?» — задае рытарычнае пытанне таварыш Арцёмаў. І тут жа адказвае: «Ведае. Па-першае, таму што кіраўнічыя работнікі наш раён Бершты лічаць “апендыцытам”, “Сахалінам” і, баючыся белапалякаў, стараюцца туды не ездзіць. Па-другое, калі ў Берштаўскі сельскі савет некаторыя адказныя работнікі і прыязджаюць, дык не для працы і ліквідацыі недахопаў, а ў госці і на гастролі». Напрыклад, 14 лютага ў Бершты прыехаў з Гродна оперупаўнаважаны НКВД лейтэнант Клімаў. Мясцовы ўчастковы Ляташка, паводле Арцёмава, яго так напаіў, што той «згубіў мундзір і шапку і гэтым змазаў свой аўтарытэт». Пра ўчастковага Арцёмаў напісаў, што «былы партызан і ў мінулым някепскі хлопец, кандыдат у члены ВКП(б) і сакратар камсамольскай арганізацыі атачыў сябе п’яніцамі ... спіўся і канчаткова разбэшчваецца».

Міністэрства нарыхтовак т. Барысёнка».

У выніку кожны, хто меў хоць нейкую ўладу, разлічваў на пачастунак. Без сумеснай выпіўкі не абыходзілася залагодзіць далікатную справу з мясцовым сельсаветчыкам ці падатковым агентам. Прыезд у вёску начальства з раёна ці вобласці таксама суправаджаўся выпіўкай з мясцовым актывам.

Савецкі чыноўнік прынцыпова адрозніваўся, напрыклад, ад польскага з перадваеннага часу. Апошні ніколі не стаў бы выпіваць за адным сталом з беларускім селянінам (гэта строга забаранялася службовымі інструкцыямі). Таму нават пры схільнасці да алкаголю польскі паліцыянт, напрыклад, мог напівацца ў адзіноце дома ці ў вузкім коле сваіх калег. Савецкі чыноўнік быў у гэтых адносінах куды больш дэмакратычны. Больш за тое, ён мог і зваліцца пад стол, добра перабраўшы норму, чым напачатку трохі шакаваў заходнебеларускіх сялян, не прывыклых да такой прастаты начальства.

Само ж заходнебеларускае сялянства ў пасляваенныя гады яшчэ спажывала адносна няшмат алкаголю. Стрымлівалі традыцыі даўнейшага выхавання і штодзённы клопат пра ўласную гаспадарку. Але з правядзеннем суцэльнай калектывізацыі жыццё стала ў нечым прасцейшае. Не трэба было думаць, як захаваць гаспадарку, сплаціць падаткі і выканаць розныя абавязкі перад дзяржавай. Алкаголь у калгаснай вёсцы пачаў выконваць тыя ж функцыі, што і гарэлка з панскага бровара ў часы прыгону: выціскаць грошы з сялянскай кішэні і заглушаць бунтоўныя настроі.

Закладзеная традыцыя камунікацыі з уладай з дапамогай гарэлкі мела далёкасяжныя наступствы: вёска пачала спiвацца. ◆

Мінск, 1987 год.




ФОТА ЮРЫЯ ІВАНОВА

# «Міхаіл Сяргеевіч, дапамажыце бутэлечку без чаргі ўзяць»

## З чаго пачалася і чым скончылася гарбачоўская антыалкагольная кампанія

**Пару месяцаў пасля прыходу Гарбачова да ўлады, і 7 мая 1985 года ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР выпусцілі пастановы «Аб мерах па пераадоленні п'янства і алкагалізму, выкараненні самагонаварэння». З гэтага пачалася самая маштабная антыалкагольная кампанія. Піша кандыдат гістарычных навук Ірына Махоўская.**

### Калі з'явілася чарніла

Гэта была не першая спроба абмежаваць п'янства. У 1958 годзе народныя дружыны патрулявалі вуліцы, каб выяўляць выпадкі незаконнага продажу і п'янага хуліганства. Наступная кампанія пад лозунгам «П'янству — бой!» разгарнулася ў 1972 годзе. Выраслі цэны, гарэлка прадавалася толькі з 11.00 да 19.00, перасталі выпускаць напоі мацункам 50° і 56°. Замест гэтага з'явілася больш віна і піва. Менавіта тады звышпапулярным стала чарніла, «чарлік», «бырла» — «пладова-выгаднае віно». І сёння чарніла вылучаецца яскравымі этыкеткамі і паэтычнымі назвамі: «Зоры ляснічага», «Леташняя кадрыля», «Міраж», «Позняе каханне», «Чароўная флейта»...

У тым жа 1972 годзе з'явіліся лячэбна-працоўныя прафілакторыі (ЛПП). Згадкі пра алкаголь заціралі ў тэлеэфіры, сцэны з ужываннем алкаголю выразалі з кіно. На гадавіну палёту Гагарына ў космас у «Праўдзе» выйшаў фотаздымак, дзе касманаўт з жонкай паднялі рукі ў вітальным тосце, але келіхі на фота замазалі.

**Румачная** — савецкі бар. Тут на разліў, чаркамі прадавалі моцны алкаголь. У румачных стаялі высокія сталы, за якімі людзі стоячы выпівалі чарку і з'ядалі бутэрброд з каўбасой, сырам, вараным яйкам, селядцом або шпротамі. «Слаўная гэта ўстанова — пах гарэлачкі, цыгарэт, адны мужыкі. Кульнуў стопачку, закусіў бутэрбродам, культурна, каротка», — апісвае Данііл Гранін у рамане «Карціна».

Але нягледзячы на ўсё гэта, менавіта ў 1970-я алкагалізацыя дасягнула неверагодных памераў. Спажыванне алкаголю па афіцыйнай статыстыцы дасягнула 10,5 літра ў пераліку на чысты спірт на душу насельніцтва. Савецкі лад увайшоў ў сістэмны крызіс, і многія бачылі галоўную прычыну ў татальным п'янстве.

## Брэжнеў доўга не згаджаўся на рэформы, матывуючы гэта тым, што «рускі народ не можа без гарэлкі»

### Лікёра-гарэлачныя сталі выпускаць газіроўку

Антыалкагольная кампанія 1985 года звычайна звязваецца з імем Міхаіла Гарбачова. Больш за тое, для многіх гэта галоўны




### З успамінаў Васіля Быкава пра Пяты з'езд савецкіх пісьменнікаў (чэрвень – ліпень 1971 года)

На з'ездзе ў зале славутага Крамлёўскага палаца я сядзеў мала, болей бавіў час у кулуарах, а то ў буфеце. Але ў вялізнай зале буфета можна было хіба пад'есці, выпіць жа там не было нічога. І тое абурала шмат каго з прыезджых пісьменнікаў. Асабліва абураўся Віктар Астаф'еў, з якім я ўжо быў знаёмы, і мы займелі намер абмыць сустрэчу. Ды не было чым. І Віктар гучна, бянтэжачы выкшталцоную гэбісцкую абслугу, абвяшчаў, што без гарэлкі не перамаглі б і ў вайну — нават з грымотнымі заклікамі палітрукоў... Пры шыкоўнай закусі ў Крамлі не было чаго выпіць, а буфеты ў гасцініцах ламіліся ад выпіўкі, ды не было закусі. Як заўжды, з закуссю ў краіне была напруга. Раніцай за снеданнем мы доўга вырашалі задачу: як пранесці на з'езд бутэльку. Бураўкін спрабаваў засунуць яе ў кішэню — выглядала падазрона, нібы там бомба. У маёй нутраной кішэні — яшчэ горш. Спрабавалі пакласці ў імпазантную Гілевічаву папку, з якою той нідзе не расставаўся, — таксама нядобра. Маглі адабраць ды яшчэ што прышыць. Правяралі ж нас не адзін раз, у кожных дзвярах, дзе гэбісты звычайна дзяжурылі парамі: пакуль адзін правяраў дакументы, звяраючы фота з арыгіналам, другі рабіў «візуальны вобыск», пільна азіраючы кішэні і рукі. Выйсце знайшлі самае простае — выпіць у гасцініцы, а закусваць бегчы ў Крэмль.

*Васіль Быкаў.*
*«Доўгая дарога дадому»*

ўспамін пра перабудову. Але сам Гарбачоў кажа, што ініцыятыва належала не яму, кампанія рыхтавалася шэсць гадоў. Ужо ў часы Леаніда Брэжнева маштабы п'янства вымагалі нейкіх мер, хоць Брэжнеў доўга не згаджаўся на рэформы: «Рускі народ не можа без гарэлкі». Барацьбу з п'янствам на працоўных месцах распачынаў і Юрый Андропаў, але, прабыўшы пры ўладзе толькі 15 месяцаў, далёка не прасунуўся. Галоўнымі ідэолагамі антыалкагольнай ▸

Скарачаць вытворчасць віна пачалі з высякання вінаграднікаў у Малдове, Крыме, на Каўказе і Кубані. За гады антыалкагольнай кампаніі знішчылі 30% фонду. У Малдове высеклі 80 тысяч гектараў з 210. Знішчылі некаторыя каштоўныя сарты, напрыклад Экім Кара — складнік знакамітага крымскага віна «Чорны доктар». Гэта мела вынікам нават канкрэтную чалавечую трагедыю: не здолеўшы пераканаць партыйнае кіраўніцтва адмовіцца ад ідэі высякання вінаграднікаў і не могучы пераЖыць краху справы ўсяго свайго жыцця, скончыў жыццё самагубствам дырэктар Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута вінаробства і вінаградарства «Магарач» (Ялта) Павел Галадрыга.

▶ кампаніі 1985 года разам з Гарбачовым былі Ягор Лігачоў і Міхаіл Саломенцаў — абодва зрабілі партыйную кар'еру як сакратары абкамаў, адзін у Томску, другі — у Чэлябінску і Карагандзе.

На гэты раз мэтай было не абмежаванне, а выкараненне спіртнога. Перад пачаткам кампаніі ў СМІ масава расказвалі пра сем'і, зруйнаваныя алкаголем, паказвалі дзяцей-інвалідаў, якія нарадзіліся ў пітушчых бацькоў. У газетах публікавалі лісты працоўных, дзе тыя патрабуюць «прыняць меры».




Даходы ад продажу алкаголю заўжды складалі адну з асноў бюджэту, але тут урад свядома пайшоў на скарачэнне. Да 1988 года планавалі поўнасцю прыпыніць выраб чарніла. Лікёра-гарэлачныя і спіртзаводы хутка пераабсталявалі — яны сталі выпускаць газіроўку, сокі, варэнне. Лідскі піўны завод стаў вырабляць безалкагольныя напоі «Усходні», «Раніца», «Рабінавы», «Верасок», «Вячэрні Арбат».

Цэны на алкаголь паднялі ў два-тры разы, самая танная гарэлка стала каштаваць 9 рублёў 40 капеек — 5% сярэдняга заробку. Алкаголь перасталі прадаваць паблізу прадпрыемстваў і будоўляў, школ, ПТВ, садоў, бальніц, санаторыяў, вакзалаў і аэрапортаў.

**Расказваюць, што на адной з сустрэч з народам хтосьці паскардзіўся Гарбачову на гарэлачныя чэргі, на што той прапанаваў: «А вы не стойце!»**

«Неаднаразова паўставала пытанне аб закрыцці піўнога бара на скрыжаванні вуліц Сурганава і Якуба Коласа, які абслугоўвае практычна толькі студэнтаў, паколькі побач размешчаныя інтэрнаты трох ВНУ і ПТВ будаўнікоў...». 13 жніўня 1985 года ў Мінску адным махам закрыліся ўсе румачныя і бутэрбродныя.

Большасць вінна-гарэлачных крам змянілі профіль на «Сокі — воды». Тыя адзінкавыя, што засталіся, працавалі з 14.00 да 19.00. Адсюль і прыпеўка: «В шесть утра поет петух, в восемь — Пугачева. Магазин закрыт до двух, ключ у Горбачева». Да крамаў стаялі кіламетровыя чэргі, іх называлі «пятлёй Гарбачова». Хадзіў анекдот: «Абвестка ў аўтобусе: Прыпынак "Вінна-гарэлачная крама". Наступны прыпынак — "Сярэдзіна чаргі"».

Прадавалі толькі па дзве бутэлькі ў рукі, і народ станавіўся


WIKIMEDIA COMMONS

**Гарбачоў у 1985 годзе.**
За антыалкагольную кампанію ён атрымаў ад удзячнага народа мянушкі **Мінеральны сакратар** і **Ліманадны Джо** (у гонар героя аднайменнага чэхаславацкага вестэрна).

## Вяселлі з чаем

Пакуль газеты апісвалі ідылічныя безалкагольныя вяселлі і юбілеі, людзі прыдумалі пад выглядам чаю разліваць каньяк, у бутэльках з-пад мінералкі ставілі гарэлку, яе ж, трохі падфарбаваную, падавалі як морс. Ці побач з рэстаранам арганізоўвалі «палявую кухню». Успамінае загадчык клуба: «Ідзе вяселле. Закускі — мора! Усе сядзяць, глядзяць адзін на аднаго. Тады шэпчуць: "Ідзіце!" Чалавек пятнаццаць збіраецца — і за рэстаран. Там аўтобус стаіць: бітон самагонкі, агурок, каўбаса. Джык-джык — гэтыя ўжо павесялелі. Потым наступным ціхенька: "Вы ідзіце"». Звычайна на вяселле выганялі 200 літраў самагону.

ў чаргу па некалькі разоў, набываючы ў запас.

Пiць у грамадскіх месцах і нават з'яўляцца ў іх п'яным забаранілі. Гэта каралася штрафам, арыштам на 15 сутак ці 1–2 месяцамі папраўчых работ. За ўжыванне спіртнога на працы пазбаўлялі прэмій, пуцёвак, пераносілі адпачынак на зіму і нават найгоршае — адсоўвалі ў канец чаргі на атрыманне жылля.

### «Вечар завяршыўся традыцыйным чаяпіццем»

Паўстала пытанне, чым заняць народ пасля перамогі над п'янствам. Рэкамендаваліся турпаходы, выезды ў грыбы і ягады, кнігаабмен, выставы асабістых калекцый. Прадпрыемствы рапартавалі аб адкрыцці секцый турызму, кінафотааматараў, вязання, кулінарыі, разьбы па дрэве. Ухвалялася калектыўнае садаводства і агародніцтва.

Было створана Усесаюзнае добраахвотнае таварыства барацьбы за цвярозасць. 16 кастрычніка 1985 года прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Беларускага рэспубліканскага таварыства. Праз год у Беларусі было ўжо 16,6 тысячы арганізацый. Складаліся планы, ладзіліся мерапрыемствы, пісаліся справаздачы, але сэнс гэтай дзейнасці самі сябры таварыства потым назвалі «папяровай бурай».

У СМІ з'явіліся артыкулы з абвяржэннем таго, што п'янства — старажытная славянская традыцыя. У артыкуле «Вірус... чый?» Іосіф Сярэдзіч пісаў: «Сучасныя заходнія русафобы спрабуюць прыпісаць нашым продкам пальму першынства ва ўжыванні моцных спіртных напояў, сцвярджаючы ўсё тую ж нахабную хлусню пра вечна п'яную Русь. З літаратуры,




### Анекдоты часоў антыалкагольнай кампаніі

Мужык выратаваў жыццё Гарбачову, і той кажа: «Можаш прасіць што хочаш: магу на любую пасаду ўладкаваць, машыну, што толькі хочаш». А мужык кажа: «Ну, калі ўжо такая справа, то дапамажыце мне бутэлечку гарэлкі без чаргі ўзяць».

Антыалкагольная кампанія, да Гарбачова ўрываецца старшыня гаркама:
— Міхаіл Сяргеевіч, тэрмінова дайце дазвол завезці гарэлку ў крамы!
Той яму: ты, маўляў, з глузду з'ехаў?
— Мужыкі працвеazelі, пытаюцца, куды падзелі цара.

Чыноўнік бярэ хабар і просіць: «Прыадчыніце, калі ласка, дзверы, а то людзі падумаюць, што мы тут з вамі выпіваем».

іншых крыніц мы ведаем, што ў XIX стагоддзі п'янства на Русі адзначалася даволі шырока. Але зноў жа трэба адзначыць: развівалася гэтая хвароба пад моцным уздзеяннем Захаду, дзе яна ўжо ўяўляла нашмат большую небяспеку».

Газета «Советская Белоруссия» ў кожным нумары давала матэрыялы пад рубрыкай «Цвярозасць — норма жыцця». Часта ў рубрыцы друкавалі лісты працоўных. Дасведчаныя чытачы ўражвалі ведамі статыстыкі: «У Гомелі я жыву доўгія гады і бачу, як гандаль спіртным арганізаваны. Спіртное прапаноўваюць больш за сто крамаў з 233 прадуктовых, сем рэстаранаў, шэсць кафэ з пятнаццаці, чатыры сталовыя, пяць бараў з шасці наяўных у горадзе», — нібыта піша рабочы Гомельскага завода вымяральных прыбораў. У другім лісце ветэран крытыкуе разнастайнасць




і прыгажосць бутэлечных этыкетак і прапаноўвае іх «разэстэтызаваць» і замяніць лаканічнымі злымі тэкстамі і малюнкамі, якія бічуюць п'янства.

Паралельна з крытычнымі рэпартажамі выходзяць тэксты пра поспех безалкагольных святаў. «Традыцыйным чаяпіццем з пірагамі завяршыўся вечар ушанавання перадавікоў вытворчасці ў брыгадзе кавалёў Міхаіла Гамезы з Мінскага аўтазавода. Засядзеліся дапазна: нямала знайшлося тэм для размовы таварышам па працы, пераможцам заводскага спаборніцтва. Не спатрэбіліся майстрам "гарачага" цэха і "гарачыцельныя" напоі, каб сама сабой нарадзілася любімая песня».

### Румачныя на гарышчах

Пра што зусім не пішуць тагачасныя газеты, дык гэта пра татальны дэфіцыт алкаголю і даўжэзныя чэргі са сваркамі і бойкамі. Сустракаюцца толькі ўскосныя сведчанні: «Некаторыя кіроўцы, у прыватнасці М. Папоў (вытворчае аб'яднанне «Гомельдрэў»), свабодна раскатвалі па горадзе на службовых машынах у пошуках чарніла». Расказваюць, што на адной з сустрэч з народам хтосьці паскардзіўся Гарбачову ▶







▶ на гарэлачныя чэргі, а той прапанаваў: «Дык вы не стойце!»

Праблемы з продажам адкрылі новыя бізнэс-схемы. Адна з такіх абкатвалася ля піўнога ларка непадалёк ад мясакамбіната на мінскай вуліцы Казінца. Побач былі рыбная база і хлебазавод. Працоўныя выносілі дэфіцытную закуску, а каля ларка іх сустракалі тыя, каму ўдалося набыць ці выгнаць спіртное. Адбываўся абмен.

Іншы сэрвіс працаваў на гарышчах пад'ездаў. Туды са сваім алкаголем прыходзілі ахвочыя ўжыць, ім выдаваўся посуд і закуска. Узамен — пустыя бутэлькі. Здачай пустой тары зараблялі нямала, прычым сярод «прадпрымальнікаў» было шмат дзяцей.

Тым часам дзяржаўны гандаль цярпеў страты. Раней спіртное давала 25% паступленняў у бюджэт, а дзе-нідзе, напрыклад у вакзальных буфетах, — каля 75% даходу. Пры гэтым ніхто не адмяняў план, сфармаваны без уліку алкагольных страт. Прыйшлося тэрмінова ствараць безалкагольную альтэрнатыву: напрыклад, у Мінску пачалі прадаваць слаістыя кактэйлі «Мазаіка», «Вячэрні», «Асвяжальны». Урад разлічваў, што павышэнне цэн на гарэлку кампенсуе 80% бюджэтных страт, але не — толькі вырасла самагонаварэнне, гнаць пачалі літаральна ў кожнай савецкай сям'і, нават у кватэрах членаў Кампартыі. У 1986-м бюджэт страціў 22 мільярды рублёў, у 1987-м — 25 мільярдаў.

### Быў у лесе ў Баянічах завод...

За выраб самагону пагражала крымінальная адказнасць, за набыццё — штраф. Але народ гнаў: аб'ёмы продажу толькі дражджэй і цукру выраслі на 13–28%. А гналі і з хлеба, мукі, бульбы, варэння, мёду, цукерак, кефіру, яблык, сліў, таматнай пасты. Вельмі хутка ўсе гэтыя прадукты трапілі ў разрад дэфіцытных.

«Пачалі ўсе людзі гнаць самагонку і на гэтым рабіць бізнэс. Раз у краме няма, значыць, ёсць у мяне. На гэтым бізнэсе некаторыя зарабілі яшчэ большыя грошы, чым тыя, што цягалі шмоткі з Польшчы ці Турцыі», — успамінае сельская фельчарка.

У кожнага былі свае рэцэпты. Па адным трэба было сем дзён вытрымліваць, былі і хуткія рэцэпты — за суткі. Якаснай лічылася самагонка з цукру (цукроўка) ці з зерня (хлебная). Для ўнутраных патрэб рабілі ў асноўным такую.

У пушчах разгарнуліся цэлыя заводы-бровары. Яны з цягам часу набылі вядомасць і рэпутацыю. Успамінае намеснік старшыні калгаса на Любаншчыне : «Я ведаю ў Баянічах завод, два разы прыходзілася яго бачыць. Адзін раз знішчыў гэты завод. Другі раз то не знішчыў, бо сам быў датычны. Для рашэння вытворчых пытанняў. Адзін чалавек замуж выдаваў дачку, папрасіў, карацей, добраахвотна-абавязкова: "Дапамажы — бітон самагону". Ну што, я пайшоў да дзеда, папрасіў, выпісаў яму, канечне, зерня. Ён завёз, змалоў. Я пакаштаваў. Даволі-такі складаная тэхналогія. І якасць! Дасць фору любой дзяржаўнай, акрамя брэсцкай і "Крышталя". Градусаў 60, нават паху няма, галава на наступны дзень не баліць. Спецыялісты!»

Хто жыў у 1980-я, памятаюць: ні адной пабытавай праблемы, ад рамонту водаправоднага крана да капання бульбы, нельга было вырашыць без бутэлькі. «Паказваеш бутэльку — і табе за пяць секунд ускапалі агарод, напрыклад. Гэта так і называлася — "вадкая валюта". У тыя часы грошы ніхто не прызнаваў, бутэльку давай — зробім». Успамінае рабочы-будаўнік: «І я, быў грэх, гнаў. Час такі быў. Калі трэба дапамога, хто ў цябе грошы будзе браць? Толькі за бутэльку. Грошай ва ўсіх сваіх хапала».

### І з памёту, і з парашку

На продаж выраблялася не толькі «сумленная» самагонка. Пра «несумленную» ходзяць аповеды, адзін страшнейшы за другі. Пры куплі гарэлку раілі правяраць: капнуць на руку і пацерці. Калі пайшлі бурбалкі — значыць, гнаная з пральнага парашку. Для павышэння мацунку дадавалі курыны памёт. Ці бярозавы кол ставілі спачатку ў прыбіральню, а потым у брагу. Дадавалі перцу для ілюзіі моцнасці. Такі самагон называлі «цыганскі» ці «чардачковы».

## «Ален Дэлон не п’е адэкалон»

«Раней чалавек ідзе з работы, зайшоў у магазін, 150 выпіў, закусіў і пайшоў дадому. Не п’яны і не цвярозы. А калі яны зрабілі сухі закон, народ пачаў упівацца да ўпаду. Бо трэба сёння напіцца: раптам заўтра не будзе», — расказвае сведка.

Спачатку ў ход пайшлі медпрэпараты: настойкі валяр’яны, глогу, півоні. Далей — адэкалоны. «Трайны» адэкалон стала не дастаць, лічылася, там большае ўтрыманне спірту. Хадзіў анекдот: «Чалавек у краме набывае адэкалон. Яму даюць з крыва наклеенай этыкеткай. Пакупнік: “Замяніце мне гэтую бутэльку, тут этыкетка крывая”. Прадавачка: “Якая вам розніца?!” — “Гэта вам няма розніцы! А мне на стол ставіць!”». Тым часам «Наўцілус Пампіліус» спяваў, а ўся краіна падпявала: «Ален Делон, Ален Делон не пьет одеколон. Ален Делон, Ален Делон пьет двойной бурбон...» У 1986 годзе на 150% павялічылася рэалізацыя адэкалону, на 30% — клею. Страшнымі наступствамі антыалкагольнай кампаніі стала таксікаманія.




Пілі шклоачышчальнікі, марылкі для апрацоўкі дрэва, распушчальнікі для фарбаў. Расказваюць, што пасля марылкі людзі па некалькі дзён хадзілі з чорнымі тварамі. Спірт здабывалі нават з гуталіну: гуталін мазалі на хлеб, спірт яго насычаў, тады гуталін счышчалі і елі хлеб. Клей замарожвалі, і так выдзялялі з яго спірт. «З 200-літровай бочкі 5 літраў спірту выходзіла», — успамінае прапаршчык пра тое, як здабывалі спірт у войску. З’явіўся кактэйль «Муха», ці «Тры пшыкі», — у бакал піва тройчы пырскалі сродак ад насякомых «Дыхлафос» для ўзмацнення ап’янення.

Успамінае доктар раённага шпіталя: «Пілі шклоачышчальнік, блакітны такі. Ёд пілі. Ёдам нават некалькі чалавек атруціліся. Не выратавалі, ёд — гэта ж страшна. Пілі ўсё, што гарыць ці пахне алкаголем. Шмат алкаголікаў загінула, яны ж не разумелі, што п'юць. Гемалітычныя яды прымалі, хапалі воцат замест гарэлкі. Потым ныркі адмаўлялі. Не было дня, каб не паступалі, асабліва пасля шклоачышчальніка. Гэта самае моднае было. І марылка».




## Бюджэт не вытрымаў

За год продаж спіртнога ў крамах знізіўся на 50%, але рэальнае спажыванне з улікам самагону зменшылася ў лепшым выпадку на чвэрць. Некаторыя дэмографы кажуць, што антыалкагольная кампанія выратавала прыкладна мільён жыццяў. Фіксаваўся рост працягласці жыцця ў мужчын, нарадзілася на 8% меней дзяцей з захворваннямі, скараціліся смяротнасць, колькасць аварый і няшчасных выпадкаў. Але ўжо ў 1987 годзе зноў фіксуецца рост спажывання алкаголю, а з улікам распаўсюджання таксікаманіі казаць пра станоўчыя вынікі антыалкагольнай кампаніі не выпадае.

Антыалкагольны ўказ заканадаўча быў скасаваны толькі ў ліпені 1990 года, калі Савет Міністраў СССР адмяніў усе абмежаванні на продаж алкаголю. Але фактычна кампанія была спынена ўжо ў 1987-м, пакінуўшы горкую спадчыну ў выглядзе высечаных вінаграднікаў, мільёнаў новенькіх самагонных апаратаў і досведу піцця адэкалону.

Да канца 1986 года дзяржаўны бюджэт абрынуўся. Ураду прыйшлося дадрукоўваць грошы, пачалася інфляцыя. Антыалкагольная кампанія прыспешыла распад Савецкага Саюза, але трагедыю п’янства не выравшыла. ◆

**Этыкеткі з калекцыі Ягора Сурскага.**



**Гара Машэкаўка побач з гарой Гваздоўкай.**
Малюнак Мікалая Львова, канец XVIII стагоддзя.

# Следства пра раптоўную смерць Доні Іванаўны

**Як атручэнне гарэлкай ледзь не скончылася яўрэйскім пагромам, расказвае гісторык Аляксей Бацюкоў.**

Магілёў. Красавік 1639 года. У глыбокай начной цемры група людзей прывезла да гары Гваздоўкі воз з целам нябожчыка. Тоячыся ў змроку, без адпраўлення царкоўнай службы, яны адкапалі ямку пры гары і ўкінулі туды цела. Прыкапалі і растварыліся ў цемры.

Але яны не засталіся незаўважанымі. Раніцай гэтага ж дня мяшчане з Гваздоўкі атакавалі гарадскі магістрат. Усхваляваная грамадскасць ужо ведала імя ахвяры: Доня Іванаўна. Так-так, тая самая, што некалькі гадоў прыслужвала жыдоўцы Леі Ёзэфавай — яна ж Люба Юзэфава, што жыве па адрасе: дом Ульяны Багданавай Бобрыкавай.

І адразу за імі атмасферу ў горадзе распаліў брат нябожчыцы, Фёдар Іванавіч Аршаніца. Ён прыйшоў у магістрат з абвінавачваннем. І кожнае слова гэтага абвінавачвання пагражала зрынуць горад у гарачку яўрэйскага пагрому.

Доня Іванаўна дзесяць гадоў служыла Любе Юзэфавай. Была здаровая — гэта важна. Але ж як і калі Доня Іванаўна памерла, Люба не дала знаць. Так што ні ён, ні крэўнікі, маўляў, не змаглі пахаваць нябожчыцу паводле хрысціянскага звычаю. А значыць, жыдоўка яе замардавала і, утойваючы гэтае злачынства (а можа, яно рытуальнае?), вывезла за горад і закапала ў вале, пахаваўшы хрысціянку сваімі нехрысціянскімі рукамі.

27 красавіка заява была прынятая да разгляду і распачаты скрутыніум — следчая працэдура, што праводзілася ў судах ВКЛ у выпадку асабліва цяжкіх злачынстваў. Следства вялі райца Якім Марціновіч і лаўнік Цімафей Асіповіч, з удзелам пана Даніэля Ляховіча, магілёўскага замкавага панамесніка, а з імі і яшчэ шляхта.

У першую чаргу следчыя прыйшлі ў дом Ульяны Бобрыкавай да Леі Ёзэфавай і спыталі ў яе пра абставіны смерці служанкі. Лея паведаміла, што нябожчыца незадоўга да сваёй смерці піла гарэлку ў кляштарным доме. Пакінуўшы пітную ўстанову, прыйшла сюды, села і, «зяваючы і стогнучы», памерла. Яе словы былі пацверджаныя гаспадыняй дома.

Ульяна Бобрыкава распавяла: ноччу Лея паведаміла ёй, што,

**Гваздоўка** — цяпер раён гарадской бальніцы №1 у Магілёве, месца перасячэння вуліц Боткіна, Карпінскага і Дзябранскага спуска.

упіўшыся гарэлкі, пад брамаю памірае Доня. Апынуўшыся каля брамы, Ульяна знайшла Доню яшчэ жывой. Тая ляжала нагамі ў двор, а галавой на вуліцу, ледзь дыхала, але мову ёй ужо адняло. Разам з сястрой Доні, Марушай Аршанічнай, небараку ўцягнулі ў дом і ўжо на іх вачах, а таксама на вачах сына Доні Грышкі Андрэевіча і яго бабкі і цёткі няшчаснай не стала. Што было далей, Ульяна Бобрыкава не ведала, бо пакінула месца здарэння.

У гэты самы час горад кіпеў і гатовы быў выбухнуць. У такіх умовах яўрэйская грамада дамаглася, каб да следчых быў выкліканы сын нябожчыцы Грышка Андрэевіч.

Інтрыга дасягнула сваёй кульмінацыі. Калі б хлопец падтрымаў абвінавачванне дзядзькі, абвергнуўшы падазрэнні ў п'янстве маці, сітуацыю можна было б разгойдваць надалей і карыстацца гэтым для накручвання антысеміцкага пачуцця і недаверу да ўладаў і следства.

Але Грышка Андрэевіч ва ўсім прызнаўся. Сапраўды, пра стан маці ён даведаўся ад Леі і Ульяны. На целе памерлай ніякіх знакаў гвалтоўнай смерці не бачыў. Сярод ночы, задоўга да ранішняй малітвы, пахавалі маці на Гваздоўцы, каб людзі не бачылі і не няславілі — дастаткова ўжо, што і бацька іх ад гарэлкі памёр. Пахаваць Доню яму дапамагалі брат Тарас, дзядзька Яська Іванавіч з дачкой Марыяй, цётка Маруша і... яшчэ адзін дзядзька, той самы Фёдар Іванавіч Аршаніца, з пазову якога пачалося крымінальнае следства. Цела было захутана ў рагожу і прыкрыта дошкай.

Следства прыняло рашэнне аб эксгумацыі — для заспакаення гараджан неабходна было спраўдзіць, што знакі гвалтоўнай ці рытуальнай смерці адсутнічаюць.

На месцы пахавання Грышка Андрэевіч заўважыў, што дошка пакладзеная не такім чынам, як яе пакідала іх сямейная пахавальная каманда, дый па астатніх прыкметах было заўважна, што гэта ўжо не першая эксгумацыя. Прысутныя схамянуліся. Ці магло гэта сведчыць, што нехта апаганіў (а можа, у рытуальных мэтах?) магілу Доні? Падазрэнне ўзмацнілася, калі следчыя пабачылі пабітую галаву нябожчыцы.

Грышка, аднак, і тут ва ўсім прызнаўся. Галаву пабілі таксама яны, няўдала стукнуўшы дошкай падчас пахавання.

Ну, і папярэдняя эксгумацыя сапраўды была праведзена — засведчыў мешчанін з Нагорскай вуліцы Аляксей Сямёнавіч, які жыў каля шкельніка. Нябожчыцу літаральна перад вамі адкопвала група неабыякавых грамадзян, каб паразглядаць ды засведчыць, ці маюцца на целе знакі рытуальнага забойства і нехрысціянскага пахавання.

Актавыя кнігі магілёўскага магістрата не ўтрымліваюць звестак, ці было прызначана нейкае пакаранне брату ці сыну памерлай за падман грамадскасці. Наўрад ці. Прыпіска, якая завяршае справу, даволі красамоўная: «Што, пра памяць, жыдове да кніг месцкіх далі запісаць». Магістрат, напэўна, палічыў, што, заспакоіўшы грамадскасць і занатаваўшы гэты выпадак дзеля памяці, і так зрабіў дастаткова саступак яўрэйскай грамадзе. ◆





Ян Машкоўскі. **У карчме на Падоллі.**




**Малады Манюшка.**
Партрэт французскага мастака Адольфа Лафоса.

**5 мая спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння вялікага кампазітара. Гісторыкі, рыхтуючыся да юбілею, са здзіўленнем адзначаюць, што жыццё і творчасць Манюшкі досыць кепска вывучаныя. Прысвечаныя яму манаграфіі грашаць фрагментарнасцю, стэрэатыпамі, фантомнымі «фактамі», састарэлымі высновамі. Для чытачоў «Нашай гісторыі» сапраўднага Манюшку спрабуе раскрыць доктар гісторыі Алесь Белы.**

# Станіслаў Манюшка

## сарамлівы, імпульсіўны, безгаспадарлівы

## І Мінск, які ён зненавідзеў

## Гэта было жыццё на мяжы беднасці. Аднойчы Манюшку прыйшлося дырыжыраваць аркестрам у няпарных ботах

Эпісталярная спадчына кампазітара захавалася фрагментамі: першы біёграф кампазітара, Аляксандр Валіцкі, выбраў з лістоў тыя факты, якія палічыў пажаданымі, і пасля гэтага значную частку лістоў знішчыў. Падобным чынам зрабіла і ўдава кампазітара — блізкія не хацелі кампраметацыі Манюшкі ў вачах расійскіх уладаў. Шмат чаго загінула падчас Другой сусветнай вайны.

Яшчэ адна з прычын, чаму жыццё і творчасць кампазітара дагэтуль не вывучаныя як след, — недаацэненасць мінскага і віленскага перыядаў у жыцці Манюшкі, яго зацікаўленасці літоўскай і асабліва беларускай культурамі. Так атрымліваецца, што 40-гадовы Манюшка з'яўляецца на культурным небасхіле Варшавы зніадкуль. Некамунікабельны, дзівакаваты, ён нечакана піша некалькі геніяльных опер і праз пэўны час памірае. Жыццё генія да пераезду ў польскую сталіцу быццам не мае самастойнай вартасці. Мінск жа ў такой перспектыве выглядае мядзведжым кутом, цэнтрам расійскай бюракратыі, месцам асабістых пакут Станіслава. Гэта, канечне, праўда, але не ўся.

### А дражнілі Панічом

Станіслаў Манюшка нарадзіўся 5 мая 1819 года на Ігуменшчыне — у савецкі час Ігумен быў перайменаваны ў Чэрвень. Ён быў адзіным дзіцём у былога напалеонаўскага афіцэра Чэслава Манюшкі і Лізаветы Маджарскай, праўнучкі заснавальніка слуцкай мануфактуры паясоў.

Ад пачатку быў хваравітым, ціхмяным, меланхалічным хлопчыкам, вельмі прывязаным да маці і ўвогуле да сям'і — спачатку бацькоўскай, затым уласнай. З дзяцінства меў звычку хадзіць на дыбачках, каб не прыцягваць да сябе лішняй увагі. Гэтую няўпэўненасць захаваў і ў дарослыя гады.

Вочы меў блакітныя, невялікія, хаця жывыя і выразныя. З маленства насіў акуляры і да таго ж трохі «касавурыў». Быў невысокага росту, схільны да атлусцення. Гэта ў спалучэнні з маларухомым ладам жыцця вяло да букета хвароб, у тым ліку сардэчных, якія істотна скарацілі кампазітару жыццё. Кульгаў на адну нагу, з 25 гадоў пачаў імкліва лысець.

Зразумеўшы, што ў сына нешараговы музычны талент, бацькі перавезлі 8-гадовага Стася ў Варшаву. Там ён правёў 3 гады, пачаўшы вучыцца ў арганіста Аўгуста Фрэера. Аднак варшаўскае жыццё біла па кішэні, і сям'я перабралася ў губернскі Мінск, дзе была, прынамсі, добрая гімназія і цеплілася сякое-такое музычнае жыццё. Душой яго быў Дамінік Стэфановіч, дырыжор мясцовага аркестра, які па святах граў з балкона мінскай ратушы, дзе даваў і прыватныя ўрокі — ён трымаў штосьці накшталт прыватнай музычнай школкі. Стэфановіч быў другім настаўнікам Стася і першым, хто прадказаў яму будучыню славутага кампазітара.

Ад яго гімназічных гадоў засталося мала ўспамінаў: вядома, што Стась амаль не дурэў з аднакласнікамі, пазбягаў рухомых гульняў і меў мянушку Паніч. Шмат чытаў і кожную вольную хвіліну стараўся прысвячаць заняткам музыкай. Хутчэй за ўсё, праз кепскае здароўе сышоў з гімназіі пасля шостага, перадапошняга, класа. Ішоў 1834 год. Часам пішуць, што бацькі забралі яго з гімназіі, бо пасля паразы паўстання там запанавалі русіфікацыйныя тэндэнцыі, але, здаецца, гэта патрыятычны штамп — непасрэдных сведчанняў пра гэта няма.

Усе мясціны ў Мінску, звязаныя з Манюшкам, знаходзяцца на Высокім рынку або суседніх вулках Верхняга горада. Так што помнік, які Манюшка дзеліць з партнёрам па творчасці Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, стаіць не на выпадковым месцы, а акурат у цэнтры ягонага юнацкага сусвету.



**Стасік Манюшка** чытае на ложку ў радавым маёнтку Убель на Ігуменшчыне. Намалявана ягоным бацькам.

### Дырыжор у розных ботах

Калі Мінск — горад дзяцінства, дык Вільня — горад Манюшкавага маладога шчасця. Гэта, без сумневу, адзіны горад, дзе ён адчуваў сябе як дома. Тут і знайшоў каханне. 17-гадовы Станіслаў практыкаваўся на фартэпіяна, і на гукі музыкі цішком зазірнула Аляксандра Мюлер, дачка віленскіх мяшчан, якія трымалі гатэль на вуліцы Нямецкай (па-літоўску *Vokiečių*). Яны пражылі разам 36 гадоў і мелі 10 дзетак (трое з іх памерлі ў дзяцінстве).

Будучая цешча адразу паставіла ўмову: яна не дасць згоды на шлюб, калі хлопец не набудзе прафесіі. Таму з 1837 па 1840 год ён вучыўся ў берлінскай *Singakademie* ў Карла Фрыдрыха Рунгенхагена. ▶

**З дзяцінства Манюшка меў звычку хадзіць на дыбачках, каб не прыцягваць да сябе ўвагі. Гэтая няўпэўненасць захавалася ў ім і ў дарослыя гады**

# Мінск Манюшкі

«Дом масонаў» (сучасны музей тэатральнай і музычнай культуры). Масоны — позняя гарадская легенда, насамрэч у 1840-я **дом належаў адвакату Зімніцкаму**. Станіслаў Манюшка жыў тут, калі прыязджаў у Мінск судзіцца за спадчыну дзеда.

**Дом Ваньковічаў**. Валенцій Ваньковіч быў жанаты з сястрой Чэслава Манюшкі. Ваньковічы ўсяляк падтрымлівалі Манюшку падчас яголых візітаў у Мінск дзеля судовай цяжбы. У прыватнасці, бясплатна дастаўлялі дровы на кватэру Манюшкі ў доме Зімніцкага.

У **«Доме Манюшкі»**, дзе вісіць мемарыяльная дошка, сям'я здымала кватэру ўсяго каля года (1830–1831). Значна большы адрэзак жыцця звязаны з домам Полякаў на Высокім рынку і домам Зімніцкага (ён жа «Дом масонаў»). Але тут у 1850-х месціліся кнігарня і нотная крама Аляксандра Валіцкага, сябра і першага біёграфа Манюшкі. Таго самага, што на ўсялякі выпадак знішчыў большасць лістоў Манюшкі са сваёй калекцыі.

**Былая паштовая станцыя** знаходзілася перад Адміністрацыяй прэзідэнта, на рагу Энгельса і Маркса. Сюды прыбывалі паштовыя дыліжансы, якімі Манюшка рэгулярна прыязджаў з Вільні ў Мінск. Дарога займала 2–3 дні, каля корчмаў рабілі прыпынкі, не раўнуючы як сёння ля запраравак.

**Манюшка бываў у Лошыцы** ў сябра Яўстаха Прушынскага. Цікава, што ў Лошыцы ёсць і «віртуальная» вуліца Манюшкі. Яна атрымала сваю назву 15 гадоў таму, але дагэтуль не пракладзеная, па ёй няма ніводнага дома.

SHUTTERSTOCK.COM, BY WEBHOBBIT

Тут да 1950 года стаяў **барочны касцёл Святога Фамы Аквінскага**. Да 1832 года дзейнічаў як касцёл дамініканскага кляштара, у 1840-я быў закрыты і пазней служыў пажарнай каланчой. Тут знаходзіўся самы вялікі і якасны мінскі арган, паслухаць яго прыходзіў і Манюшка. Вядома, што ў касцёл ён хадзіў штодзень.

**Былая мужчынская гімназія**. Тут Станіслаў, па мянушцы Паніч, адвучыўся 3 гады (1831–1834), з невядомых прычын недавучыўшыся апошні клас. Праз год гімназія, як і большасць будынкаў Высокага рынку, згарэла падчас пажару і была перанесеная на сучасную вуліцу Леніна.

**Гарадскі тэатр** XIX стагоддзя знаходзіўся на месцы сучаснага гатэля «Еўропа». Знеслі яго ў 1984 годзе. Тут 9 лютага 1852 года паставілі першую беларускую оперу «Сялянка» («Ідылія»), музыку да якой пісаў Манюшка.

Цяпер тут пешаходная зона на вуліцы Леніна. А раней стаяў **дом Полякаў** на Высокім рынку, перабудаваны пазней у гатэль «Еўропа». Тут у 1831–1834 гадах жыла сям'я Манюшкаў. Адсюль малады Стась хадзіў у гімназію і ў ратушу да музычнага педагога.

**Помнік «Жыхары Мінска XIX стагоддзя**: кампазітар Станіслаў Манюшка і драматург Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — стваральнікі беларускай нацыянальнай класічнай оперы». Класікі сядзяць на лаве, нібыта абмяркоўваючы будучы сумесны праект. У жыцці адносіны між імі былі няпростыя. Але помнік прымірыў.

Класікі маглі вось так сядзець у доме Дуніна-Марцінкевіча каля ўвахода ў парк Горкага, у пачатку вуліцы Фрунзэ. Там драматург жыў на пачатку 1840-х.

**Ратуша**. У часы дзяцінства і юнацтва Станіслава Манюшкі яна нагадвала пра колішняе гарадское самакіраванне. З балкона другога паверха па святах граў гарадскі аркестр, тут жа месцілася прыватная музычная школка на чале з дырыжорам **Дамінікам Стэфановічам**.

**Гарадское казіно ў доме Гейдукевіча** (цяпер знесены). Станіслаў Манюшка, аматар картаў і більярда, часта яго наведваў і расказваў пра гэтыя паходы жонцы ў лістах.



**Мінск. Касцёл Фамы Аквінскага і дом, дзе жылі Манюшкі ў 1830–1831 гадах.** Цяпер на гэтым месцы газон ля Палаца Рэспублікі. Малюнак Іосіфа Лангбарда.

▶ Утрыманне такой вялікай сям'і (потым з імі жыла і цешча, і аўдавелы бацька) вымагала каласальных высілкаў. Зарабляць музыкай было надзвычай цяжка. Да таго ж, Манюшкі былі не вельмі дбайнымі гаспадарамі, часта марнавалі грошы на выпадковыя рэчы. Напрыклад, аднойчы Станіслаў імпульсіўна купіў некалькі клетак з канарэйкамі.

Нярэдка даводзілася залазіць у пазыкі. Зрэшты, у гэтых справах Манюшка быў чалавекам гонару і заўжды вяртаў, што быў вінен, у адрозненне, напрыклад, ад Дуніна-Марцінкевіча, пра якога кампазітар выказваўся як пра не вельмі прыстойнага чалавека.

18 гадоў Манюшка быў арганістам у віленскім касцёле Святых Янаў ▶



SHUTTERSTOCK.COM, BY PPL



**Маці кампазітара Эльжбета ў кватэры Манюшкаў у доме Зімніцкага.** 1840 год. Малюнак зрабіў яе муж.

пры былым універсітэце, даваў прыватныя ўрокі. Нейкі даход прыносіў продаж ягоных славутых «Хатніх спеўнікаў». Але гэта было жыццё на мяжы беднасці. Аднойчы Манюшку прыйшлося дырыжыраваць аркестрам у няпарных ботах.

Няўпэўненасць і адсутнасць навыкаў адміністратара істотна перашкаджалі ягонай дзейнасці як дырыжора. Але ў прыватным жыцці, сярод людзей, якім давяраў, Манюшка быў вясёлым, лагодным, дасціпным — і прытым далікатным, стараўся не зачапіць пачуцці суразмоўца. Як нярэдка здараецца сярод вялікіх кампазітараў, спяваў досыць няўмела, толькі пры блізкіх, ціхім нястройным голасам, прытым з цыгарай у зубах.

Любіў даваць мянушкі знаёмым людзям і сямейнікам. Жонку Аляксандру ласкава зваў Омкай, а яна яго — Гуця, скарочана ад старабеларускага і польскага слова «когут» — «певень». Хтосьці, здаецца, за вочы называў яго «когут літоўскі».

### І касцёл, і казіно

Ад варшаўскага перыяду, калі Манюшка рабіўся штогод усё вядомейшым, сведчанняў захавалася больш. Прачынаўся вельмі рана, звычайна а 5-й гадзіне, а летам і раней, і ішоў у касцёл на імшу. Увогуле, быў чалавекам вельмі пабожным, верыў, што ўсе жыццёвыя праблемы можна вырашыць малітвай, але пазбягаў пабожнасці паказной, дэманстратыўнай і ніколі нікому ў вочы «святасцю» не тыкаў.

«Пабожны правінцыял» — ахарактарызаваў яго першы біёграф Аляксандр Валіцкі.

А сам Манюшка назваў сябе ў адным з лістоў «мізантропам». Па вяртанні з касцёла засядаў за працу і амаль усё, што выходзіла з-пад ягонага пяра, было напісана ранішняй парой.

Часта Манюшка бываў бездапаможным фізічна: напрыклад, калі ламаўся каляровы аловак, прасіў адну з дачок завастрыць. Абед з'ядаў паміж першай і другой гадзінамі, пасля чаго з гадзіну драмаў, а потым ішоў у адну з улюбёных кавярань на каву і цыгару. Алкаголем не злоўжываў. Тэатральнае жыццё вымушала позна вяртацца. Падчас позняй вячэры Станіслаў еў прагна і часта вельмі сытныя стравы — напрыклад, зразы «па-нельсанску». Здароўя гэта не дадавала.

Усё дарослае жыццё кампазітар любіў карты і більярд. З ягоных лістоў да жонкі мы ведаем, што, будучы ў Мінску, ён часта наведваў «казіно» ў доме Гейдукевіча, якое ў 1840-х было ў горадзе адзіным і выглядала інтэлігентней за сучаснае. Галоўнай гульнёй у гэтай установе быў віст, не падобна, каб тут калі-небудзь стаяла рулетка. Сёння на гэтым месцы выезд з паркоўкі на плошчы Свабоды на вуліцу Леніна і праспект Пераможцаў.

«Сюды не пускаюць хіба што ў ліўрэі. Дзясятак з чымсьці столікаў. Бываюць вечары з дамамі, тады месца картачных столікаў займаюць танцы. Замест гучнай балбатні чуецца шолах і стук абцасікаў. Кавалеры паслужліва падносяць дамам карамелькі і што-небудзь выпіць», — апісваў ён казіно ў лісце жонцы. Верагодна, Манюшку даводзілася даваць канцэрты ў гэтай зале, якую ён згадвае ў лістах досыць з'едліва. Як, з некаторых часоў, і сам Мінск.



SHUTTERSTOCK.COM, BY ASTUDIO



WIKIMEDIA COMMONS

**Касцёл Святых Янаў**, у якім працаваў Манюшка, быў самым высокім будынкам Вільні. **Злева: арган**, на якім іграў Манюшка. Гэты арган быў перавезены сюды ў 1839 годзе з зачыненага касцёла Святога Стэфана ў Полацку.

**«Што за нуда! Што за людзі!»**

Пакінуўшы Мінск дзеля Вільні, Манюшка мо і не вяртаўся б сюды, але ў 1840 годзе памёр ягоны дзядзька Юзаф, які любіў пляменніка і свой маёнтак Скуплін на Барысаўшчыне завяшчаў яму. Дарэчы, Юзаф быў вялікім аматарам тэатра і часта ладзіў у Скупліне аматарскія спектаклі, сведкам якіх бываў юны Стась, — лічыцца, што гэта паўплывала на ягоную любоў да тэатра. Перспектыва атрымаць крыніцу сталага даходу была вельмі прывабнай, аднак удава дзядзькі мела іншыя планы. Давялося весці доўгую цяжбу, да якой Стась Манюшка быў зусім непадрыхтаваны. Расійская судовая сістэма грунтавалася на шматлікіх бюракратычных пастках, што рабіла хабар непазбежным.

# Кампазітар любіў карты і більярд. У Мінску ён быў заўсёднікам «казіно» ў доме Гейдукевіча

Прыязджаючы на суд, Манюшка звычайна спыняўся ў доме адваката Зімніцкага, быццам бы даўняга сябра сям'і, у якога не раз падоўгу здымалі кватэру і бацька, і дзядзькі. Але складаецца ўражанне, што Зімніцкі вёў двайную гульню, патаемна цягнучы грошы і з Манюшак, і з іх апанентаў, наўмысна зацягваючы працэс. А спачатку Стась жыў у доме Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, з якім нават пасябраваў, але потым расчараваўся.

Цяжба за спадчыну прынесла мізэрны вынік — міравое пагадненне, паводле якога Манюшка атрымаў невялікія адступныя.

Мінску з гэтым няўдалым працэсам за спадчыну пашанцавала толькі ў адным: праз яго Станіслаў Манюшка быў вымушаны штогод падоўгу жыць у нашым горадзе і ад няма чаго рабіць пісаў тут невялікія камічныя оперы.

Мінская *легенда* Манюшкі мусіла б канкураваць з віленскай і варшаўскай, адначасова дапаўняючы іх. Біяграфічных матэрыялаў і музычнай спадчыны як «сыравіны» для гэтага дастаткова — але вырашальнае слова тут за гараджанамі.

**Сем дзён малаціла, шух-шах зарабіла**

Ва ўсіх энцыклапедыях можна прачытаць, што Манюшка — аўтар першай беларускай оперы «Сялянка» («Ідылія») паводле камічнай п'есы Дуніна-Марцінкевіча. Сяляне ў п'есе размаўляюць па-беларуску, паны — па-польску. Але Манюшка, відаць, быў не адзіным аўтарам музыкі. Даследчыца Святлана Немагай мяркуе, што ён кінуў працу, недапісаўшы, і астатнюю музыку быў вымушаны дапісваць мінскі кампазітар Канстанцін Крыжаноўскі. А на афішах оперы «Яўрэйскі рэкруцкі набор», музыку да якога таксама прынята прыпісваць Манюшку, значыцца ўвогуле толькі Крыжаноўскі. Карацей, недакладнасцяў і загадак пра мінскі перыяд жыцця існуе процьма. Магчыма, юбілейны год трохі дапаможа нешта паправіць.

Але дакладна вядома, што да беларускай народнай культуры Манюшка меў сантымент. Ён падтрымаў праект беларускамоўнага часопіса, які ў сярэдзіне 1850-х задумала інтэлігенцыя, блізкая да Уладзіслава Сыракомлі і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Апошні на адным урачыстым вечары прывітаў Манюшку наступнымі радкамі:

А трэці дудар меж намі ўзрос,
ён нам братка.
Яму мінская зямелька —
родненькая матка!
Трэці дудар як загудзе
песенькі радненькі,
Бяды дый гора забудзеш,
станеш весяленькі!
А так думкі прыўныўны
соладка спявае,
Што за сэрца, баш кляшчамі,
дзетачкі, хватае! ▶

**Манюшкі не ўмелі гаспадарыць**

Чэслаў, бацька кампазітара, быў мастаком-аматарам, а да гаспадарання не меў ніякага таленту. Збаёдалі і маёнтак дзеда Станіслава. Латыфундыя з цэнтрам у Смілавічах была падзелена паміж шматлікімі сынамі — бацькам і дзядзькамі кампазітара — і паступова сплыла з рук роду. Манюшкі, выхаваныя ў тыпова феадальным светапоглядзе, не змаглі прыстасавацца да новых умоў гаспадарання, якія склаліся пасля скасавання прыгону.
Пры гэтым Станіслаў Манюшка, напісаўшы музыку да опер «Сялянка» і «Галька», засведчыў сваю пазіцыю па сацыяльных пытаннях, зарэкамендаваў сябе прыхільнікам вызвалення сялян. Гэта спалучалася ў яго з непублічнасцю і кансерватызмам, таму кампазітара нельга назваць рэвалюцыйным дэмакратам. Ён хутчэй быў прадстаўніком ідэалістычнай плыні «фізіякратаў», якія выступалі за гарманічныя стасункі паміж шляхтай — носьбітамі вышэйшых ведаў і навыкаў кіравання — і сялянамі, якім мусіў быць адкрыты шлях наверх.


WIKIMEDIA COMMONS

**Помнік Манюшку** перад касцёлам Святой Кацярыны ў Вільні.



Манюшка пражыў 53 гады і памёр ад сардэчнага прыступу. **На фота кампазітару 46.**

«Песенькі радненькі» — гэта прызнанне, што з 250 песень Манюшкі многія прызнаваліся сучаснікамі як беларускія, створаныя пад уплывам беларускага фальклору. Народныя матывы Манюшка ўстаўляў і ў сур'ёзныя творы, напрыклад, парафраз «Лявоніхі» ва ўверцюру да оперы «Плытагон». А вучань Манюшкі Аўгуст Іваньскі ўспамінаў, што ў ліпені 1855-га паехаў з настаўнікам у Мінск, і на прыпынку ў Смаргоні Манюшка паклікаў яго з брычкі ў карчму, «каб я — першы раз у жыцці — пабачыў беларускі танец, які зваўся “Мяцеліцай”». А за некалькі гадоў да таго бацька кампазітара Чэслаў у лісце да сына апісаў гэты танец і песню, якой ён суправаджаўся, — «Сем дзён малаціла, шух-шах зарабіла...».

У адрозненне ад многіх дзеячаў польскай культуры, звязаных з Беларуссю толькі «прапіскай», Манюшка ўсведамляў вартасць беларускай культуры і не лічыў яе чужой. Яго можна паставіць у адзін шэраг з Уладзіславам Сыракомлем, Ігнацыем Ходзькам і іншымі «палякамі-літвінамі» XIX стагоддзя, якія мелі выразны сантымент да беларускай мовы і ўсведамленне асобнай гістарычнай і культурнай традыцыі. ◆

**«Мінск такі глухі… Што за нуда! Што за людзі! Колькі разоў выязджаю з гэтай мясцінкі, заўсёды ў мяне жаданне памыць рукі, твар і абцерці ногі»**

## «Я не літвін»

Цікава, што захаваўся адзін ліст, у якім Манюшка нечакана аспрэчвае сваё літвінскае паходжанне. «Гняздо наша на Падляшшы. А з галінкі, якая адтуль прышчапілася на Літве, я — толькі другое пакаленне». Гучыць не вельмі пераканаўча, бо дагэтуль ён не раз прызнаваўся ў сімпатыях да Літвы, дый Падляшша, векавое гняздо Манюшкаў, да 1569 года было яе часткай. Патлумачыць гэты ліст да польскага знаёмца можна тым, што кампазітар ужо збіраўся ўцякаць ад беднасці ў Варшаву і хацеў стварыць уражанне стапрацэнтнага паляка.

З 1843 года ў лістах Манюшкі да жонкі гучыць усё больш прыкрасці:

> Мінск такі глухі… Здаецца, што спакойны і не чуе, а ў вантробах сваіх ператураўляе і выцiскае. Гэты тыдзень быў для мяне жахлівы, сапраўды пакутніцкі. Што за нуда! Што за людзі! Гвалт. Колькі разоў выязджаю з гэтай мясцінкі, заўсёды ў мяне жаданне памыць рукі, твар і абцерці ногі.
>
> *ліпень 1843 года*
>
> ***
>
> Эх, мая Омка! Што гэта за Мінск! Што гэта за места! Што за жыццё! Што за плёткі! Твой мужанёк выглядае як вожык ці як Яўстах Тыш, калі яму ад бесперапыннага жаху валасы не перастаюць уставаць дыбарам!
>
> *30 лістапада 1843 года*




WIKIMEDIA COMMONS

**Сядзіба Ваньковічаў у Сляпянцы (цяпер вуліца Філімонава ў Мінску)** Тут Ваньковічы часта прымалі Манюшак — захавалася шмат малюнкаў Сляпянкі аўтарства Чэслава Манюшкі. Цяпер у будынку рэстаран.




# «Са слязьмі пакаяння»: *як склаўся лёс паўстанца, які выдаў Каліноўскага*

**Піша даследчык паўстання Васіль Герасімчык.**

5 снежня 1863 года ў Коўне схапілі Людвіка Дзічкоўскага, цывільнага начальніка Ковенскага ваяводства. Яго дапытваў Павел Шалгуноў, будучы мінскі і магілёўскі губернатар. Дзічкоўскі паведаміў, што паўстаннем кіруе Канстанцін Каліноўскі, дапамагае яму сакратар Ціт Далеўскі. Так пасля года беспаспяховых пошукаў жандары выйшлі на след «дыктатара Літвы», а самае галоўнае — здабылі адрасы, па якіх сустракаліся паўстанцы.

7 снежня Шалгуноў вярнуўся ў Вільню, а ўжо назаўтра на кватэры Паўліны Кандратовіч, удавы паэта Людвіка Сыракомлі, на вуліцы Скопаўка быў арыштаваны Ціт Далеўскі. Падчас арышту сакратар Каліноўскага назваўся спачатку Іосіфам Парфіяновічам, затым Іванам Малеўскім. Хутка, аднак, раскрылася праўда. Далеўскі адмовіўся выдаць Каліноўскага і 30 снежня 1863 года быў расстраляны на Лукішскай плошчы.

А следчыя ўчапіліся за два прозвішчы, якімі ён называўся. Яны выявілі, што сярод паўстанцаў і сапраўды быў уплывовы чалавек з прозвішчам Парфіяновіч.

### Каго любіш?

Вітольд Парфіяновіч нарадзіўся ў сям'і мінскага чыноўніка ▶

На пачатку 1863 года Вітольд Парфіяновіч быў у Мінску, у сваякоў. Ён трапіў на здымак, зроблены ў фотамайстэрні Антонія Прушынскага на Францішканскай вуліцы (сённяшняя Леніна). На гэтым здымку ёсць таксама Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1) з дачкою Камілай (2). Тут жа — філолаг Фларыян Чапялінскі (3), паўстанцы Карл Бішаф (4), браты Канстанцін і Рамуальд Рагоўскія (5, 6), Гаўрыла Есьман (7). Вітольд Парфіяновіч сядзіць (8). Валасы зачасаныя назад па тагачаснай модзе. **Тварам ён тут падобны да Каліноўскага, якога ўрэшце выдаў.**

### Якуб Гейштар, адзін з лідараў паўстання, — пра Вітольда Парфіяновіча

Ён надта распытваў вязняў і тое, што даведваўся, паўтараў камісіі. Між іншым, пасадзілі яго з Мілевічам. Той быў у Гродне пры Каліноўскім, і Канстанцін вельмі яго цаніў. Потым выправіў яго ў Вільню, і ён дзейнічаў ужо пры мне; пасля майго арышту ён быў правай рукой Канстанціна. Арыштаваны ў Гродне, ён сядзеў тут і датуль добра спраўляўся. Ён быў знаёмы з Парфіяновічам, ведаў, што той у арганізацыі. Парфіяновіч сказаў яму, што павінен быць вызвалены, бо схапілі яго толькі на падставе пашпарта, дадзенага Ціту Далеўскаму. Прасіў пра загады: што далей рабіць, што распавесці і каму. Мілевіч распавёў яму пра розных асоб: Каліноўскага Юзафа, доктара Мацкевіча, Марыконі і іншых. Назаўтра камісія выклікала Мілевіча і сказала яму ўсё, што ён адкрыў Парфіяновічу. Мілевіч замест таго, каб адпірацца, прызнаўся і дадаў дзясяткі новых ахвяр.

▶ Апанаса Гаўрылавіча Парфіяновіча 4 ліпеня 1844 года. Быў ён ахрышчаны як Вітольд Леў у драўляным касцёле на Залатой Горцы. Пасля заканчэння мінскай гімназіі сям'я пераехала ў Магілёў. Вітольд падаўся ва ўніверсітэт. Хутчэй за ўсё, першапачаткова пецярбургскі (узгадваецца ў пазнейшых дакументах), а затым перавёўся ў кіеўскі.

Да паўстанцаў Парфіяновіч далучыўся яшчэ ў лютым 1863 года, выконваючы распараджэнні камісара Мінскага ваяводства Міхала Аскеркі. У верасні Аскерка ўзяў Вітольда ў Вільню і пазнаёміў з лідарамі паўстання, у тым ліку з Каліноўскім. Парфіяновічу даручылі дамовіцца ў Пецярбургу пра выраб пашпартоў для кіраўніцтва мінскіх паўстанцаў. Вітольд выканаў даручэнне цягам тыдня. Такая спраўнасць зрабіла добрае ўражанне на Каліноўскага, і ён прапанаваў 19-гадоваму хлопцу пасаду камісара Магілёўскага ваяводства.

На Каляды Парфіяновіч у Вільні, пры сустрэчы з сувязной Юзэфай Баневіч ён кажа атрыманы ў Магілёве пароль:

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!

— То ўзаемна!

Гэты пароль вядомы нам з матэрыялаў следства менавіта праз паказанні Парфіяновіча.

І менавіта ў гэты калядны дзень Каліноўскі дапусціць памылку, якая будзе каштаваць яму жыцця, — запросіць Вітольда на сваю канспіратыўную кватэру.

### Знайшоў падыход

А потым Вітольда Парфіяновіча арыштавалі. Здарылася гэта ў Бабруйску ў самым пачатку 1864 года, калі хлопец ехаў з Мінска ў Магілёў да бацькоў. Пры ім быў пачак друкаваных аб'яў, загад аб зборы грошай з насельніцтва на выпадак вайны або працягу паўстання і рэцэпт нябачнага чарніла. Пачалося следства.

Некалькі тыдняў Вітольд, седзячы ў турме, абсталяванай у мінскім бернардзінскім кляштары — цяпер там люксавы гатэль «Манастырскі», — не ішоў са следчымі на кантакт. Аднак палкоўнік Аляксандр Лосеў, любімымі сродкамі ўздзеяння якога былі «слёзы спачування і пацалункі», знайшоў падыход. Урэшце юнак зламаўся.

Пра гэта ён сам напіша ў 1871 годзе: «Два-тры словы, сказаныя штаб-афіцэрам корпуса жандараў у горадзе Вільні палкоўнікам Лосевым і старшынёй камісіі палкоўнікам Шалгуновым, прымусілі мяне са слязьмі дзіцячага пакаяння расказаць усе свае прыгоды». А сакратар Мураўёва Аляксандр Масолаў узгадваў: «Сярод асоб, з якімі меў справу палкоўнік Лосеў, аказаўся малады чалавек, дасведчаны ва ўсіх таямніцах мяцяжу. Палкоўнік Лосеў зразумеў гэта, абяцаў выхадайнічаць яму памілаванне і скарыстаўся з яго шчырых прызнанняў».

Адначасова з Парфіяновічам за кратамі сядзеў мінчук Цэзар Булынка, асуджаны на павешанне. Пакаранне паўстанца Булынкі прайшло ў Мінску 29 студзеня 1864 года. А ў ноч перад выкананнем прысуду Лосеў накіраваў у Вільню закадаваную тэлеграму: «На Святаянскай вуліцы ў Святаянскіх мурах жыве злачынец Каліноўскі, ваявода пад іменем Ігнат Вітажэнец, у Дамініканскім доме жыве спадарыня Баневіч, да яе звяртаюцца агенты з іншых гарадоў для ўказання месца жыхарства Каліноўскага і іншых. Яна ўсё ведае...» Назаўтра дзве роты акружылі Святаянскі квартал і схапілі Каліноўскага.

### Даўся запрэгчы — будзеш цягнуць

У ноч на 30 студзеня, а 1.43, Мураўёў адправіў Лосеву закадаваную тэлеграму: «Каліноўскі прызнаўся. Парфіяновіч усё ж такі патрэбен тут, і таму адправіць яго са строгай вартай у Вільню ў распараджэнне каменданта».

2 лютага Вітольд ужо дае падрабязныя паказанні ў Вільні. 10 сакавіка 1864 года ў 10.30 на Лукішскай плошчы павесілі Кастуся Каліноўскага, а 12 сакавіка Парфіяновіч выдаў і яшчэ аднаго Каліноўскага — Юзафа, вайсковага інжынера. Той, як і Кастусь, быў асуджаны на смерць, але дзякуючы хадайніцтву ўплывовых сваякоў трапіў у ссылку. Юзаф Каліноўскі стане каталіцкім святаром і будзе кананізаваны.

А палкоўнік Лосеў па выніках размоў з Парфіяновічам даваў справаздачу: усяго па Мінскай губерні арыштавана 89 чалавек, секвестравана 28 маёнткаў; захопленыя пячаткі начальніка Мінскага ваяводства, ваяводскага камісара, начальніка горада Мінска, начальніка Мінскага павета, бюро Мінскага ваяводства.

### Асабіста імператару

16 красавіка 1864 года Мураўёў пастанавіў: «Прымаючы пад увагу чыстасардэчнае пакаянне, раскрыццё хаўруснікаў, з якіх многія ўжо арыштаваныя, а таксама прымаючы пад увагу маладыя гады Парфіяновіча, якіх яму 19, абвясціць яму ўсяміласцівае яго імператарскай вялікасці прабачэнне і адправіць на жыхарства ў Томскую губерню пад строгі нагляд паліцыі».

Адразу ж пасля прыбыцця ў Томск Вітольд Парфіяновіч перайшоў




**Шыфраваная тэлеграма пра Каліноўскага.**

у праваслаўе, узяўшы імя Іосіф і ажаніўшыся з удавой Капіталінай Капыловай. Сімвалічна, што менавіта Іосіфам Парфіяновічам назваўся падчас арышту Ціт Далеўскі. Чаму Парфіяновіч адмовіўся ад свайго імя: хацеў пачаць з пачатку ці схавацца ад помсты?

Парфіяновіч не сядзеў без працы. Ён уладкаваўся пісарам у Томскую губернскую будаўнічую камісію. Губернатар Мікалай Радзянка, вядомы сваім змаганнем з карупцыяй, заўважыў маладога чалавека, які «можа служыць прыкладам для іншых».

У маі 1871 года Радзянка пайшоў на вялікую рызыку: ён хадайнічае перад міністэрствам унутраных спраў, каб узяць Іосіфа Парфіяновіча на дзяржаўную службу. Але ў міністэрстве тады не бачылі такой магчымасці. Усё ж Парфіяновіч — неафіт, былы паўстанец, ды не абы-які, а цэлы ваяводскі камісар. Даць адмову было тым прасцей, што ў лістападзе 1871 года Радзянка памёр.

Тады Парфіяновіч звярнуўся па дапамогу да новага губернатара Андрэя Супруненкі. І зноў адмова. Але, відаць, гэтым разам Іосіф атрымаў параду: напісаць асабіста імператару. Гэта ён і зрабіў.

Парфіяновіч жадаў «быць карысным і шчаслівым»: «Я яшчэ такі малады і моцны, што магу забяспечыць сябе, але мне балюча цярпець пагарду за даўно выкупленую віну, мне хочацца ў новым жыцці ўтапіць усё мінулае, якое я пакінуў». Свой сыход у паўстанне Парфіяновіч апраўдваў так: «У 1864 годзе, адразу пасля прыезду майго ў Сібір, я далучыўся да праваслаўя. Не дробныя разлікі, а тое варожае пачуццё, якое я меў да польскага грамадства, было падставаю гэтага ўчынку. Яму, а не сабе, я быў абавязаны сваім падзеннем: ува мне не было ніякіх перакананняў, усё маё дзяцінства прайшло не пад такімі ўражаннямі, каб у будучыні зрабіць з мяне злачынцу; злачынства з'явілася несвядома — гэта быў плён таго ўплыву, які так умела ўздзейнічаў на нас са школьнай лавы».

## «Ваше благородие»

У 1872 годзе Аляксандр II дазволіў прыняць Парфіяновіча на дзяржаўную службу. Ужо ў чэрвені 1873 года ён сярод 131 прадстаўніка губернскай эліты ўдзельнічаў у заснаванні Томскага таварыства для дапамогі вучням. У гэты час быў ужо ў чыне калежскага рэгістратара. Хай сабе гэта і найніжэйшы чын, але ўжо вымушае звяртацца «Ваше благородие».

Парфіяновіч становіцца рэдактарам газеты «Томскія губернскія ведамасці», кіруе і мясцовай друкарняй. У 1877-м ідзе на чарговае павышэнне — уладкоўваецца на працу ў экспедыцыю аб ссыльных. Ён кіруе прыёмам, размеркаваннем, перавозкай людзей, турэмнай паліцыяй... Колькі таварышаў па паўстанні сустрэў на гэтай новай працы?..

А ў 1883 годзе былы паўстанцкі камісар становіцца паліцмайстрам, кіраўніком Табольскага гарадскога паліцэйскага ўпраўлення. «Благочиние, добронравие и порядок». У гэты час ён ужо ганарыцца, што 20 гадоў таму дапамог выкрыць таемную арганізацыю і прыпісвае сабе арышт не толькі Каліноўскага, але і яго сакратара. Хоць Ціта Далеўскага расстралялі яшчэ да арышту Парфіяновіча. ◆

Пал Сіньеі-Мершэ.
**Паветраны шар.**
1878 год.

WIKIMEDIA COMMONS

**Падымі мяне па-над зямлёю**

**У жніўні 1886 года размеранае жыццё сялян у ваколіцах Белавежскай пушчы было парушана нябачаным: некалькі дзясяткаў коней і паўсотні чалавек цягнулі каля іхніх хат велізарны шар. Піша падпалкоўнік Мікалай Кавалёў.**

# Дзе лётаў першы ў Беларусі паветраны шар

Мода на вайсковае паветраплаванне ўварвалася ў Расійскую імперыю ў 1885 годзе. Першы палёт адбыўся ў Пецярбурзе, а ўжо праз год паветраны шар пабачылі нашы людзі. Нагодай сталі манеўры Варшаўскай і Віленскай вайсковых акруг.

## Падрыхтоўка

19 жніўня 1886 года паручніку Аляксандру Каванько даручылі сфармаваць і выправіць на манеўры два часовыя паветраплавальныя паркі. Адзін мусіў накіравацца ў Бельск на Падляшшы, а другі — на станцыю Кляшчэлі Брэсцка-Граеўскай чыгункі. Кожны з паркаў прадстаўляў аднаго з праціўнікаў (Паўночны і Паўднёвы атрады).

Праўда, Паўночны атрад новай вынаходкай цешыўся нядоўга. Ягоны паветраны шар, напоўнены вадародам, неўзабаве парваўся. А вось у Паўднёвым атрадзе шар пратрымаўся да канца манеўраў і напрыканцы нават здзейсніў свабодны палёт над Белавежскай пушчай.

## Баявое хрышчэнне

Шар Паўднёвага атрада мусіў напаўняцца вадародам паміж станцыяй Кляшчэлі і вёскай Дабраводы. Неабходныя матэрыялы былі дастаўленыя 25 жніўня, і ўвесь наступны дзень кіпела праца: з сернай кіслаты здабываўся вадарод, які адразу перапампоўваўся ў шар.

Да раніцы 27 жніўня шар быў гатовы і адразу выпрабаваны. Апарат падняўся на вышыню каля 215 м. Мясцовасць з яго аглядаў камандзір парку, падпалкоўнік генштаба Мікалай Арлоў. Данясенні скідалі ў пустых мяшках ад баласту з невялікай колькасцю пяску. Мяшок адносіла ветрам, але недалёка. Яго падбіраў кур'ер і неадкладна дастаўляў у штаб. У першых жа данясеннях паступілі звесткі пра непрыяцельскую калону, якая ідзе лесам. Пры ясным надвор'і з шара можна было дакладна палічыць колькасць войскаў непрыяцеля.

Лябёдка дазваляла падымаць і апускаць шар даволі хутка. Для пад'ёму на вышыню ад 215 да 430 м (ад 100 да 200 сажняў) патрабавалася тры хвіліны, а на спуск — пяць. Падчас прывалаў шар то падымалі, то апускалі, а каб не адляцеў, клалі баласт ці саджалі людзей.

## «Бурбалка» на маршы

Пасля баявога хрышчэння войскі Паўднёвага атрада атрымалі загад адступаць на поўдзень, да сяла Кузава. Разам з усімі рухаўся і паветраплавальны парк. Тэхналогія перамяшчэння была не адладжаная, вайскоўцы вучыліся на хаду. Спачатку шар прымацавалі да лябёдкі, якую цягнулі шэсць дужых артылерыйскіх коней.

**Паветраны шар —**
лятальны апарат (аэрастат), у якім выкарыстоўваецца газ, лягчэйшы за паветра. Шар складаецца з запоўненай газам абалонкі і каша-гандолы. У адрозненне ад дырыжабляў, паветраны шар не мае рухавіка, таму цалкам залежыць ад напрамку і сілы ветру. Гэта вынаходніцтва 1783 года, яго здзейснілі французы — браты Жазэф-Мішэль і Жак-Эцьен Мангальф'е. Падчас Французскай рэвалюцыі і напалеонаўскіх войнаў паветраныя шары спрабавалі выкарыстоўваць для разведкі і нават скідання бомб. Але толькі пасля Грамадзянскай вайны ў ЗША 1861–1865 і франка-прускай вайны 1870–1871 гадоў паветранымі шарамі ўсур'ёз зацікавіліся вайсковыя інжынеры ўсяго свету.

Потым выявілі, што зручней адлучыць шар ад лябёдкі і цягнуць уручную. Але важна было ісці праз адкрытыя прасторы: абалонка магла пашкодзіцца аб хаты і дрэвы.

У першы ж дзень манеўраў паветраны шар правезлі або пранеслі каля вёсак Дабраводы, Кузава, Ставішча, Хлевішча, Доўбізна, Канюховічы і панскага двара Капылы. Праз некалькі дзесяцігоддзяў, пасля Другой сусветнай вайны, гэтыя мясціны падзеліць мяжа. Тры першыя вёскі сёння знаходзяцца ў Польшчы, а рэшта — на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Натуральна, такое дзіва прыцягвала ўвагу мясцовых. А вайскоўцы ёю карысталіся. Падпалкоўнік Арлоў у справаздачы пісаў: «Сяляне спадарожных вёсак, ураджаныя дзіўнай "бурбалкай", выходзілі насустрач, з асаблівым задавальненнем браліся замест салдат і цягнулі шар вярсты са тры; тут ім праца надакучвала, цікаўнасць была задаволена, і яны паступова кідалі. Звычайна паблізу з'яўлялася яшчэ вёска, і новыя цікаўныя замянялі папярэдніх і весела цягнулі шар. На прывалах жыхары гасцінна частавалі салдат».

Пераначаваўшы каля Капылоў, вайскоўцы пераадолелі яшчэ 28 вёрст, прайшоўшы каля вёсак Бярозаўка, Манчакі, Шастакова, Ратайчыцы да панскага дома Трасцяніца. Мэтай было адступленне за раку Лясную.

Пераход цераз раку адбываўся пад покрывам цемры. Спачатку спрабавалі пераправіцца цераз грэблю каля вёскі Млыны, але ўдалося толькі абозу. Шар пераносіць не рызыкнулі, бо грэбля была абсаджаная вялікімі дрэвамі. Непадалёку знайшоўся брод, праз які каштоўны груз пераправілі без прыгод. Лагерам каля Алешкавіч Паўднёвы атрад прастаяў некалькі дзён. Ля Браневіч шар папаўняўся вадародам.




Пераноска англійскага вайсковага аэрастата ў Трансваалі (1899–1902 гады). **Такім парадкам пераносілі і наш шар у 1886 годзе.**

## Сяляне ўпрагаліся цягнуць шар проста з цікавасці

2 верасня 1886 года манеўры скончыліся парадам каля Шастакова (непадалёк ад Высокага), на полі, якое звалася Шырокім. Парад прымаў імператар Аляксандр III. А пасля адбыўся першы свабодны палёт паветранага шара. Першымі нашымі лётчыкамі-аэранаўтамі сталі падпалкоўнік Мікалай Арлоў і паручнік 8-га сапёрнага батальёна Аркадзь Трафімаў. А варшаўскі фатограф Конрад Брандаль менавіта тады зрабіў першы ў беларускай гісторыі аэрафотаздымак.◆

**63 чалавекі** абслугоўвалі паветраплавальны парк: штаб-афіцэр, чатыры обер-афіцэры і 58 салдат.

**24 кані і 9 вазоў** цягнулі паветраны шар і матэрыялы для запуску.

**2 240 кг** важыла паравая лябёдка, неабходная для ўтрымання шара і наступнага спуску. Для яе працы трэба было назапасіць 1 200 кг каменнага вугалю. Вадарод для напаўнення шара здабывалі з 24 тон сернай кіслаты шляхам хімічнай рэакцыі з 6 тонамі жалезнай стружкі. Адмысловы генератар важыў каля трох тон.

# Слуцкае паўстанне

Сюжэт: **Алесь Зімніцкі, Кастусь Касяк.** Малюнак: **Кацярына Арлюк.**




КРЫНІЦЫ: СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН 1920 Г. У ДАКУМЭНТАХ І ЎСПАМІНАХ / УКЛАД., ПАДРЫХТ. ТЭКСТАЎ, ІЛЮСТ., АЎТ. ЗАЎВ., КАМЭНТ., ПАКАЗ. А. ГЕСЬ, У. ЛЯХОЎСКІ, У. МІХНЮК; ПРАДМ. У. ЛЯХОЎСКАГА. — МЕНСК: МЭДЫСОНТ, 2006.




ЛАТЫШОНАК, АЛЕГ. ЖАЎНЕРЫ БНР. — СМАЛЕНСК: ІНБЕЛКУЛЬТ, 2014.

Беларуская дзяржава. Калісьці была толькі ідэя. Потым гэта стала словамі на паперы і межамі на карце. А праз некаторы час — рэальнасцю, у якой жылі яны і жывём мы. Дзеля гэтага цэлае пакаленне ахвяравала сілы, працу і жыццё. І пра гэта пакаленне — наша выстава.

Іх шмат што падзяляла: асабістыя спрэчкі, палітычныя перакананні, выбар саюзнікаў, фронт, па розныя бакі якога яны змагаліся. Аб’ядноўвала адно — беларускае сэрца. За Беларусь ахвяравалі жыццём слуцкія паўстанцы, якія змагаліся з бальшавікамі, але ідэяй беларускай дзяржаўнасці кіраваліся і тыя, хто будаваў БССР.

Выстава «1919: Беларуская! Рэспубліка» — гэты лагічны працяг выставы «1918: БНР — Ідэя. Край. Дзяржава», якая прайшла ў Нацыянальным гістарычным музеі летась. Абедзве — пра ідэю і пра людзей. Пра тых, хто зрабіў першы крок 25 сакавіка 1918 года, і тых, хто падхапіў штандар дзяржаўнасці 1 студзеня 1919 года. Пра часы, калі адкрываліся беларускія школы і ўніверсітэты, будаваліся заводы, а «ўся ЦК КП(б)Б гаварыла на беларускай мове!». Калі беларусізацыя, не ўціскаючы ні адну нацыянальную меншасць, ахапіла краіну... і пра тое, як яе спынілі.

На выставе вы пабачыце ўнікальныя фотаздымкі, асабістыя рэчы айцоў БНР і БССР (муштук, гадзіннік, акрываўленая кашуля...), той самы Маніхвэст 1919 года... Асабліва спадабаецца школьнікам: усё тут лаканічна, стылёва, а ў дадатак да анатацый — **коміксы**.

Нацыянальны гістарычны музей (вул. Карла Маркса, 12 у Мінску) запрашае штодзень з 11 да 19, выстава дзейнічае да 12 мая.

Беларуская!
1919
выстава
Рэспубліка

Сюжэт: **Алесь Зімніцкі, Кастусь Касяк.** Малюнак: **Кацярына Арлюк.**

# Жылуновіч у «Нашай Ніве»




Крыніцы: Успаміны пра цішку Гартнага : зборнік / складальнікі : Г. Д. Жылуновіч, С. Х. Александровіч. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1984.

Сюжэт: **Алесь Зімніцкі, Кастусь Касяк.** Малюнак: **Кацярына Арлюк.**

# Маніфест

























КРЫНІЦЫ: 1 ЯНВАРЯ 1919 ГОДА: ВРЕМЕННОЕ РАБОЧЕ-КРЕСТЬЯНСКОЕ СОВЕТСКОЕ ПРАВИТЕЛЬСТВО БЕЛОРУССИИ: ДОКУМЕНТЫ И МАТЕРИАЛЫ / СОСТАВИТЕЛИ: В.Д.СЕЛЕМЕНЕВ (РУКОВОДИТЕЛЬ) И ДР. — МИНСК : ЛИМАРИУС, 2005.



# «Гаварыце па-руску», або Як наша мова перажыла XVIII стагоддзе

**У тыя часы мову Расіі ў нас адрознівалі ад «рускай». «Рускай» тады называлі беларускую і ўкраінскую. Яна страціла афіцыйны статус, але ёю працягвалі карыстацца ўніяцкія і праваслаўныя святары, расказвае кандыдат гістарычных навук Дзяніс Лісейчыкаў.**

«Пісар мает па-руску, літарамі і словы рускімі ўсі лісты, выпісы і позвы пісаці, а не іншым езыком і словы». Паняцця дзяржаўнай мовы ў XVI стагоддзі яшчэ не існавала, але Статут Вялікага Княства Літоўскага выразна вызначаў, якой мовай павінны карыстацца дзяржслужбоўцы. І на якой мове мусяць весці дакументы.

Руская мова Статута — гэта мова рускіх, русінаў, усходнеславянскага насельніцтва беларускіх і ўкраінскіх зямель. Розніца ў вымаўленні існавала, аднак на пісьме гэта была адна мова.

З лёгкай рукі акадэміка Яўхіма Карскага рускую мову Вялікага Княства Літоўскага сталі называць «старабеларускай» — каб адрозніваць ад сучаснай яму мовы Расійскай імперыі. Нашы паўднёвыя суседзі называюць яе «стараўкраінскай». І для гэтага таксама ёсць падставы: гісторыя Русі пачыналася з Кіева. Але як ні назавеш рускую мову Вялікага Княства (а многія гісторыкі мяркуюць, што менавіта так — рускай — яе і трэба называць, прычым нават без двукосся), бясспрэчна, што вытокі сучасных беларускай і ўкраінскай моў — у ёй.

### Гавораць продкі

Неспрактыкаваны чалавек бачыць паміж сучаснай беларускай мовай і «старабеларускай» узору XVI–XVII стагоддзяў найперш адрозненні. Прычынай таму сённяшні фанетычны правапіс. Мы прывыклі чытаць так, як напісана — бо ж ведаем, што па-беларуску «як чуецца, так і пішацца». Але ў нашых продкаў было не так. Яны пісалі згодна з тагачаснымі правіламі (хоць далей пабачым, што часам ад іх маглі адыходзіць), і пры чытанні тэкст трохі адрозніваўся ад напісанага. А каб нам пачуць у тагачасным тэксце знаёмую беларускую, трэба проста замяніць у ім «и» на «і», «о» ў адпаведных месцах на «а», «е» на «э» ці «я». Карціна зменіцца на вачах.

Вось, напрыклад, «руская» мова ўзору 1676 года з кніг Полацкага магістрата з адпаведнымі карэкціроўкамі:

«Рэестр нам для памяці. Мне, Мікіце Чарнышу, і мне, Даніле Авсеевічу, як многа мы людзям вінны, і людзі нам, і грошэй гатовых па колька мы палажылі на умесный гандэль.

Мы поспалу злажылі па коп 20, то чыніць коп 40. У Полацку крамнікам



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Святар у чоўне пераплывае раку** Прыпяць каля царквы ў вёсцы Белая Сарока сённяшняга Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці. 1759 год. Малюнак з метрычнай кнігі.

за розны тавар засталі вінны [*далей ідзе доўгі пералік грашовых сумаў*].

У Полацкам ваяводстве на Рудзе Жгунов падданый Пятрок вінен коп 2, Галцяй Федзька пажычыл коп 3, на Ісцы Сідар, баярын на Піліпаве, вінен залатых 9, на Ісцы Горках Павлюк вінен залатых 2, там жэ на Горцы Іван пажычыл залатой 1, на Шалухове Васька пажычыл грошэй 36. Сусед яго Якуб грошэй 24».

**«Полска квітнет лаціною, Літва квітнет русчызною»**, — напісаў паэт Ян Казімір Пашкевіч, верагодна, ураджэнец Ашмяншчыны, у 1621 годзе. Ніякіх звестак пра Пашкевіча не засталося, акрамя аднаго верша:

Полска квітнет лаціною,
Літва квітнет русчызною:
Без той в Полсцэ не прабудзеш,
Без сей в Літве блазнам будзеш.
Той лаціна езык дает,
Та без Русі не вытрвает...
Весялі ж се ты, Русіне,
Тва слава нігды не згіне!

У вершы ідзецца пра тое, што ў Вялікім Княстве немагчыма было не ведаць «рускай» (старабеларускай) мовы. Без яе будзеш блазнам, усе з цябе будуць смяяцца, заўважае паэт. «Радуйся, русіне, твая слава ніколі не згіне».

## Наша мова пратрымалася дзякуючы царкве

Мова нашых продкаў у 1696 годзе страціла афіцыйны статус. Усе дзяржаўныя дакументы адгэтуль павінны былі складацца толькі па-польску.

Сапраўды, у дзяржаўным справаводстве XVIII стагоддзя мы старабеларускай мовы практычна не бачым. Хіба калі пісар робіць копію-выпіску з ранейшага дакумента. Але і называць XVIII стагоддзе бяспісьменным для беларускай мовы нельга: «русчызну» захоўвалі цэрквы грэцкага абраду — праваслаўная і ўніяцкая (грэка-каталіцкая). Абедзве мелі свае разгалінаваныя сістэмы справаводства, уласныя друкарні. Так, апошняя кніга цалкам на «рускай» мове выйшла ў 1722 годзе ў друкарні беларускіх супрасльскіх базыльянаў. А ў 1732 годзе яе перавыдалі ўкраінскія базыльяне з Унева на Львоўшчыне.

Кірылічныя кнігазборы меліся пры кожнай праваслаўнай і ўніяцкай царкве. Святары чэрпалі адтуль кніжную мудрасць і на зразумелай мове даносілі яе да паствы ў час казанняў. Сетка парафій грэцкага абраду, праваслаўных і ўніяцкіх, адлюстроўвае тэрыторыю кампактнага пражывання «народу рускага», так званай русінскай этнаканфесійнай супольнасці — продкаў беларусаў і ўкраінцаў.

Карыстаючыся тэрміналогіяй аператараў мабільнай сувязі, плошча пакрыцця і шчыльнасць базавых станцый на нашых землях у XVIII стагоддзі былі самымі развітымі ва Уніяцкай царкве. Але як адрозніваюцца ў розных мясцовасцях моц сігналу і якасць сувязі, так розная была і сіла традыцыі «рускай» мовы. Ці ёсць у сённяшняга даследчыка магчымасць вызначыць моц гэтага сігналу? Ёсць! Дапамагаюць метрычныя кнігі.

## Рэйды з праверкамі бываюць і на карысць

Доўгі час форма запаўнення метрычных кніг не рэгламентавалася — святары пісалі хто як хацеў, а часта ўвогуле ▶

**Метрычная кніга**, альбо ў побыце **метрыка** — дакумент, у якім настаяцель храма рэгістраваў нараджэнні, шлюбы і смерці парафіянаў. На нашых землях яны вяліся да 1920-х гадоў на ўсходзе і да сярэдзіны XX стагоддзя ў заходніх абласцях. Метрычныя кнігі — адна з асноўных крыніц для тых, хто шукае свае карані.
Найбольш метрычных кніг захоўваецца ў Мінску ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (Крапоткіна, 55). Самыя раннія запісы па каталіцкіх і кальвінісцкіх грамадах захаваліся за пачатак XVII стагоддзя, па ўніяцкіх — за 1630-я гады, па праваслаўных — за 1700-я гады. Мусульмане і іўдзеі на нашых землях уласныя метрычныя кнігі займелі толькі ў часы Расійскай імперыі — у 1820-я і 1830-я гады адпаведна.
На жаль, не ўсе метрычныя кнігі захаваліся. Сёння даследчыкі могуць працаваць з уніяцкімі метрычнымі кнігамі цэнтра і поўдня ВКЛ. Найлепш захаваліся кнігі Лагойскай, Мінскай, Навагрудскай, Палескай часткі Кіеўска-Віленскай мітрапаліцкай епархіі, Пінска-Тураўскай епархіі, часткова Полацкай архіепархіі (Барысаўскі і Чашніцкі дэканаты).


СОБРАНІЕ
ПРИПАДКОВЪ
ПОТРЕБНОЕ
СОДЕРЖАЩЕЕ
ИЗДАННОЕ

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ

**Тытульны аркуш кнігі «Сабранне прыпадкаў кароткае і духоўным асобам патрэбнае».** Супрасль, 1722 год. Гэта кніга не давала святарам забыць «рускую» мову.

ленаваліся пісаць. Для святароў Кіеўскай мітраполіі, куды адносіліся нашы праваслаўныя храмы, узор даў мітрапаліт Пятро Магіла ў «Трэбніку» 1646 года. Але распаўсюджання кніга не атрымала. Затое ўніяцкае «Сабранне прыпадкаў кароткае і духоўным асобам патрэбнае», што выйшла ў 1722 годзе, за кароткі тэрмін дайшло да большасці парафіяльных цэркваў.

«Чы трэба акрышчонага ў метрыкі ўпісаці? Трэба такімі словы: Аз, іерэй, ..., Прэзвітэр Цэркве ..., року, месяца ..., дня ..., акрэсціх у Цэркві ... Раба Божыя ..., раждзеннага ад





Святар царквы ў мястэчку Пагост Аршанскага павета Ян Нарановіч **піша па-«руску» і кірыліцай (уверсе), і лацінкай (унізе).** 1732–1733 гады.

радзіцеляў .... Радзіцеліе крэсныі пры Крышчэнні былі ...». «Сабранне прыпадкаў» мела ў XVIII стагоддзі вялізнае значэнне. У тагачасным спаланізаваным грамадстве кніжка нагадвала святарам, як чытаць і пісаць «па-руску», падказвала словы, выразы, царкоўныя тэрміны. Ёсць нават сведчанні, што на кніжку абапіраліся пры фальсіфікацыі дакументаў, нібыта датаваных пачаткам XVII стагоддзя.

Царкоўнае начальства дбала пра захаванне «рускай» мовы, праяўляла ініцыятыву «зверху». Гэта відаць на прыкладзе святара з мястэчка Пагост (Пагост-Загародскі) на Піншчыне. Метрычную кнігу ён падпісаў па-«руску» лацінскімі літарамі: «*Metrika duchownaia cerkwi Pohoskoy zaczata w roku 1750*». Але вёў яе выключна па-польску. Да 1758 года, калі раптам кожны другі-трэці запіс святар пачынае рабіць па-«руску». У чым прычына такой рэзкай перамены? А ў тым, што ў 1758 годзе ў Пагост з епіскапскай праверкай прыехаў манах-базыльянін Тадэвуш Заруські. Менавіта пасля праверкі ў метрычных кнігах сталі з'яўляцца запісы на «рускай» мове.

Царкоўныя ўлады былі зацікаўленыя ў захаванні асаблівасцей сваёй канфесіі. Адной з іх было выкарыстанне кірылічных тэкстаў — і «рускіх», і царкоўнаславянскіх. Але ступень падтрымання мовы залежала і ад святара. Пагосцкія кнігі зноў пачалі весціся па-польску пасля 21 снежня 1770 года. Стары святар Ян Тарановіч, які выкарыстоўваў «рускую» мову, памёр 26 студзеня 1771-га. Відавочна, час поўнага пераводу кніг на польскую супадае з пачаткам смяротнай хваробы Тарановіча. Ён адышоў ад спраў, а яго месца заняў ужо цалкам польскамоўны Адам Шамятыла.

Цікавая гісторыя двух пакаленняў святарскага роду Мігаёў — бацькі Лявона і сына Аляксея. Айцец Лявон у пачатку 1750-х быў святаром у Рэчыцы. Ён вёў метрычныя запісы па-«руску». Пазіцыі русчызны тут былі моцныя, і яна была запатрабавана не толькі сярод духавенства, але і сярод паствы. Пасля смерці айца Лявона яго сын Аляксей быў пераведзены ў вёску Грэбень на Пухавіччыне. Тут айцец Аляксей сутыкнуўся з зусім іншай моўнай сітуацыяй. Пазіцыі пісьмовай русчызны на поўдні Міншчыны былі ўжо страчаныя. Аляксей Мігай па-«руску» запоўніў тытульны аркуш, але ўсе метрычныя запісы грэбенскай царквы вёў ужо выключна па-польску (хоць у жыцці карыстаўся іншай мовай, мы ведаем гэта са шматлікіх ягоных «проб пяра», у тым ліку ў выглядзе прымавак).

## Грыпіна, Ёўга і Яжэп

Паўстае пытанне: наколькі святары валодалі «рускай» мовай? Магчыма, меў месца фармальны падыход да справы? Ёсць патрабаванне весці нататкі «па-руску» — ёсць і адпаведныя запісы!

На справе большасць святароў, нягледзячы на ўплывы польскай культуры, *просту мову* — было тады і такое яе акрэсленне — не забывалі. Гэта відаць з іх пісьмовых імправізацый: святары падганялі фармуляр запісу пад традыцыі жывога маўлення сваіх прыхаджан.

Напрыклад, амаль заўсёды царкоўнаславянская фармулёўка *родітеліе крестныі* замянялася звыклым *кум* і *кума*. Для пазначэння жыхароў вёскі Гарадзец Пінскага павета святар выкарыстоўваў словы *тутэйшы* і *тутэйша*. Ён жа сведкаў пры шлюбе называў *сваты*. Святары царквы ў вёсцы Грушнае Оўруцкага павета (цяпер Брагінскі раён) для пазначэння парафіян-сялян ужывалі тэрмін *працавітыя*.

А найбольш творча святары падыходзілі да напісання імёнаў. Не спрашчалі да царкоўнаславянскай нормы, а пакідалі тую форму, якой чалавека клікалі ў яго мясцовасці. Вось хто сустракаецца ў метрычных кнігах: *Аўдоця* (*Аўдзюха*), *Агапа*, *Алена (Олена)*, *Алеся (Олеся)*, *Амялян (Омелян)*, *Апанас*, *Арына* (*Орышка*), *Атрахім* (*Атрошка*), *Ахрэм*, *Васіль* (*Васька*), *Гаўрыла*, *Ганна*, *Гарасім*, *Грыпіна*, *Грышка* (*Грыц*), *Даніла*, *Яжэп*, *Ігнат*, *Ёўга*, *Кацярына* (*Кацюха*), *Кірыла* (*Кірыло*, *Курыла*), *Крыся*, *Ксеня*, *Лявон*, *Люба*, *Мікалай*, *Навум*, *Настася*, *Паўлюк*, *Палагея*,



НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

Святар царквы ў мястэчку Пагост-Загародскі Пінскага павета Ян Тарановіч пасля правядзення праверкі ў 1758 годзе **пераходзіць у метрычнай кнізе з польскай на «рускую» мову**.

*Памфіла*, *Параска*, *Пятро*, *Прося*, *Сайка*, *Самусь* (*Самойла*), *Стахей*, *Сцяпан*, *Тася*, *Цярэшка*, *Цімох*, *Хведар* (*Хвеська*), *Хвеся*, *Хіма*, *Яўмен*, *Яўхім* (*Аўхім*), *Якім*, *Ярмола*, *Яська* (*Еська*).

Жывая традыцыя русчызны праяўлялася і ў прозвішчах замужніх жанчын, якія пісалі паводле прозвішча ці імя мужа, але дадавалі традыцыйныя канчаткі *–іха*, *–ыха*: *Алексіха*, *Бараніха*, *Багатырэвічыха*, *Балабаніха*, *Грыгорыха*, *Занюцічыха*, *Кірыковічыха*, *Казачыха*, *Комчыха*, *Коржыха*, *Кароліха*, *Любімчыха*, *Матвеіха*, *Наварычыха*, *Акунчыха*, *Алешчыха*, *Паўловічыха*, *Панцялеіха*, *Пракопіха*, *Равячыха*, *Рубасіха*, *Рудзіха*, *Саўчыха*, *Саковічыха*, *Сяменіха*, *Січэвічыха*, *Саланевічыха*, *Сухавершыха*, *Талабаіха*, *Цімошыха*, *Хвядорыха*, *Хведчыха*, *Хомічыха*, *Янковічыха*, *Ярмошыха*.

І ў правапісе, і ў лексіцы прабіваліся рысы беларускай мовы. Сустракаецца: *давъ шлюбъ*, *кумамъ бивъ*. Святары вёскі Белая Сарока выкарыстоўвалі выразы *дні неделніе і свята урочістые*, пры апісанні месца пахавання ўжывалі выраз *на могілках*. Праяўляліся і асаблівасці вымаўлення: дзеканне (*попадзя*, *дзевка*), цеканне (*Улиционок*, *Сцепан*, *Цимох*), аканне (*Барыс*, *Патап*, *Слабодка*), яканне (*Амялян*, *Чамяры*), цвёрдыя *р* і *ч* (*вступуючы*, *Грышка Рабы*, *метрыка*, *Окунчыха*). Перадача гука *щ* на пісьме часта ішла праз *шч*: *Олешчыха*, *Шчука*. Гук *ф* нярэдка перадаваўся праз спалучэнне *хв*: *Никихвор*, *Пархвен*, *Хведор*. Святар царквы ў мястэчку Пагост Аршанскага павета да сваёй жонкі ў метрычнай кнізе ўжываў азначэнне *Арына, пападзя*. Нібы сучасны чалавек прамаўляе, а не продак з XVIII стагоддзя!

### Хто ўсе гэтыя людзі

Русчызна трымала моцныя пазіцыі перш за ўсё на землях Пінска-Тураўскай епархіі (Мазырскі, Пінскі і поўдзень Навагрудскага павета). Тут «руская» мова выкарыстоўвалася найдаўжэй. Апрача гэтага, святары епархіі засведчылі ўменне самастойна складаць «рускамоўныя» фармуляры для фіксацыі шлюбаў і пахаванняў. Святар царквы вёскі Азяраны Пінскага павета Якуб Грудніцкі распрацаваў асобную мілую форму для запісаў аб хрышчэнні ўласных дзяцей: «*Року 1753 месяца юля дня 23 урадзілася мі дшчэр на імя Анна. Кумам быў Людвісь Арэшка, кумою Марыя Грудніцкая*».

Многія ўсё ж паступова пераходзілі на польскую, процістаяць агульным тэндэнцыям было досыць складана — у XVIII стагоддзі польская ўжо стала мовай эліты, шляхты і магнатаў, а «руская» ўжывалася ўсё больш лакальна, паміж сваімі. Дакументы выразна паказваюць гэты драматычны пераход. Так, святар з Жыткавіч Рыгор Завітневіч вёў запісы па-«руску», але з 1762 года перайшоў на польскую. Тым не менш у яго пісьме застаюцца рудыменты русчызны: «*Ja, yerey Hryhory*» («Я, ерэй Грыгоры»). Але праз 8 гадоў ён ужо піша па-польску і сваё імя: «*Ja, Grzegorz Zawitniewicz*». Тым не менш доўгі час айцец Рыгор практыкаваў білінгвізм: запісы аб нараджэнні складаў па-«руску», а запісы аб бласлаўленні шлюбаў, якія не мелі вызначанага ўзору, па-польску.

Важнае пытанне: кім былі носьбіты пісьмовай традыцыі русчызны, гэтыя людзі, якія ўсё XVIII стагоддзе трымаліся сваёй мовы? Аналіз паказаў, што ўсе святары, якія пакідалі «рускамоўныя» запісы ў метрычных кнігах, былі прадстаўнікамі мясцовых святарскіх дынастый. Многія належалі да царкоўнай іерархіі сярэдняга звяна: былі пратапопамі (дэканамі) альбо гэтыя пасады займалі іх дзеці. То бок у параўнанні з астатнім святарствам узровень адукацыі ў іх быў даволі высокі, гэта не былі малаадукаваныя маргіналы, вымушаныя выкарыстоўваць «рускую» мову, паколькі іншай не валодалі. Гэта быў свядомы выбар.

Усё XVIII стагоддзе ўніяцкія і праваслаўныя святары захоўвалі моўную традыцыю на пісьме. У многім дзякуючы іх упартасці ў XIX стагоддзі руская мова Вялікага Княства развілася ў тую беларускую мову, якой мы карыстаемся цяпер. ◆

Выказваю падзяку **Ганне Мажэйка**, **Змітру Віцько** і айцу **Расціславу Бандарэнку** за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.

# «Я зайздрошчу тваёй чарнабурцы, што цябе абнімае за шыю»

**Пяшчота, выпрабаванні і разрывы. Пра самыя яркія пары ў беларускай літаратуры піша музеязнаўца і экскурсавод Павел Каралёў.**

### «Вучыў цалавацца»: яшчэ той рамантык Янка Купала

Яна Луцэвіча і Уладзіславу Станкевіч пазнаёміла Алаіза Пашкевіч (Цётка). А ў 1916 годзе Янка і Уладка ажаніліся ў Маскве, дзе разам вучыліся ва ўніверсітэце Шаняўскага. Канстанцыя Буйло ўзгадвала: «Уладка мне расказала, як яны, сустрэўшыся ў Маскве з Янкам, адчуліся раптам вельмі блізкімі адно да аднаго, як Янка атуліў яе, адзінокую, на чужыне падмогай і апекай і як урэшце яны вырашылі пажаніцца».

Купала быў яшчэ той рамантык! Запрашаў Уладзіславу ў тэатр, пасля праводзіў дадому ў іншы канец горада, а на раніцу дасылаў з кур'ерам кветкі і новы верш. Так быў напісаны верш «Снег», які лічыцца ўзорам любоўнай лірыкі.

Уладка стала для Купалы анёлам-апекуном, асабліва ў страшныя 1930-я. Яна выратавала мужа падчас спробы самагубства (прадчувала кепскае, зазірала ў пакой і, пабачыўшы Купалу ў крыві, паспела выклікаць доктара). Магчыма, калі б яна была ў Маскве ў 1942 годзе, Купала не загінуў бы. Яна з горыччу прызнавалася потым сяброўкам: «Падумаць толькі, заўсёды і ўсюды з ім ездзіла, і вось упершыню ён паехаў адзін — і такое няшчасце! Чаму і навошта я адпусціла яго аднаго?»

Ёсць легенда, што музай Купалы была Паўліна Мядзёлка. Аднак пра гэту сімпатыю вядома толькі з успамінаў яе самой. Прычым легенда склалася на падставе некалькіх эпізодаў: у 1913 годзе пры падрыхтоўцы да прэм'еры «Паўлінкі» ў Санкт-Пецярбургу Купала дапамагаў ёй ужыцца ў ролю — «вучыў цалавацца». Гэтыя захады маладога Купалы Мядзёлка спыніла. Таксама ў знакамітай віленскай кавярні «Чырвоны штраль» ён нібыта зрабіў ёй прапанову выйсці замуж, але яна адмовіла, бо кахала іншага. Пра гэта яна, відаць, потым моцна шкадавала: як мы ўжо ведаем, яе асабістае жыццё не склалася. А Купала спаткаў сваю Уладку Станкевічанку.



### Чыстае каханне Максіма Багдановіча і Зоські Верас

Максім пражыў 26 гадоў, але ў літаратуры стаў феноменам. Мала хто ведае, што гэты прыгожы хлопец быў вельмі сціплым. Сучаснікі прыгадвалі, што Максім саромеўся знаёміцца з дзяўчатамі. Ён хварэў на сухоты і быў перакананы, што не павінен ствараць сям'ю, каб не зламаць дзяўчыне жыццё. Гуляў з чужымі дзецьмі і ўсведамляў, што ніколі не будзе калыхаць сваіх. Аднойчы чытаў






**Уладзімір Жылка і яго жонка Рыма** пазіруюць у Ялце незадоўга да разводу. 1930 год.

Змітраку Бядулю свой верш «Страцім-лебедзь» і агаварыўся: «Ад усіх цяпер патомкі ёсць, ды няма адных — Максімавых» (замест Страцімавых).

«Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы» — неперавыданы Максімаў твор. Па менскіх вуліцах 1916 года класік гуляў з Людмілай Войцік (яна ж Зоська Верас). Апісваючы прагулкі з Багдановічам, яна ўспамінала, як ён нерваваўся і раздражняўся пры любых намёках на ўласную сямейную будучыню. Аднойчы на дапытлівае пытанне, ці цалавалася з Максімам, Людміла адказала: «Не. Але я была б і не супраць, ды Максім быў шчыры і сур'ёзны хлопец. Ён ведаў, што хворы, таму не хацеў, каб ад яго перадалася гэта хвароба».

## Уладзімір Жылка і Рыма Маневіч: нявечнае каханне

Хворы на сухоты выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Карлава ўніверсітэта вырашыў прыехаць з Прагі ў Мінск, «каб яшчэ раз пабачыць Беларусь, надыхацца яе паветрам і спакойна памерці». Але па вяртанні сустрэў студэнтку музычнага тэхнікума Рыму Маневіч. Неўзабаве яны ажаніліся.
У 1930-м Жылку арыштавалі, а ў 1931-м асудзілі на 5 гадоў высылкі. Незадоўга да арышту жонка яшчэ прыязджала да мужа ў Ялту, але пасля арышту адраклася і знайшла іншага мужчыну. Жылка памёр у горадзе Уржум Кіраўскай вобласці, так і не пабачыўшы трохгадовай дачушкі Беаты.
Як рэліквію захоўваў ён цацку-бразготку і кудзерку яе валасоў, перавязаных тасёмкай.
Прыйдзе час, і Беата (Наталля Лазарава) зробіць усё магчымае, каб ушанаваць памяць бацькі.
А на яе магіле ў Полацку напішуць татавы словы: «У маім маленні адзіная ты».

## Змітрок Бядуля і Марыя Шыркес: пазнаёміліся ў пральні

Сусед Багдановіча Змітрок Бядуля быў не менш сарамлівы. З будучай жонкай пазнаёміўся ў 1916 годзе. Яны сустрэліся, калі абое прывезлі на вайсковую базу здаваць бялізну для параненых франтавікоў.

Марыя Шыркес пакінула цікавыя ўспаміны: «Я прыкмеціла там маладога чалавека з пышнай густой шавялюрай, яго кучаравыя валасы былі быццам толькі што пасля завіўкі. Калі маю партыю прынялі без усялякіх затрымак, то ў маладога чалавека атрымалася больш складана. Штосьці бракавалі, штосьці прапаноўвалі скласці больш акуратна. Мне стала шкада бездапаможнага ў такіх справах чалавека, і я без яго просьбы, па сваёй ініцыятыве стала дапамагаць яму. Калі мы ўжо выходзілі з базы, ▶


ПРЫЕМ
прев. №
Прыняў
ПЕРАДАЧА
у прев. №
Перадаў
200 ВИТЕБСКА 23,16,16,11, 23,= МЕНСК ЛЕНИНСКАЯ 25,КВ 4,
Служ. адзнак
ПФЛЯУМБАУМ :
КАВАЛАЧАК ЗИМОВАГА БЛАКИТУ З ВЯСНОВАИ ЯСНАТОЮ ТАБЕ
КАБ НЕ ЗАБЫВАЛАСЯ---+
ПФЛЯУМБАУМ

**У лютым 1933 года Максім Лужанін адправіў жонцы з Віцебска тэлеграму.** Яўгенія Пфляўмбаўм сваё жыццё прысвяціла мужу. Можа, таму адораная паэтка некалькі дзесяцігоддзяў не друкавала вершы. Ужо на схіле дзён яна ўклала паэтычны зборнік «Сувой жыцця». Яго дапамагаў рыхтаваць Лужанін. Можа, ён і падштурхнуў парушыць шматгадовае маўчанне.
У дароўным надпісе мужу — падзяка «за вызваленне радкоў».


На Рэвалюцыйнай, у будынку пасольства Швецыі (справа), месціўся Інбелкульт. **Тут пачаўся раман Змітрака Бядулі.**


**Змітрок Бядуля і Марыя Шыркес.**

ён горача падзякаваў мне і назваў сябе:

— Будзем знаёмы. Бядуля, беларускі пісьменнік.

І, развітаўшыся, пайшоў».

Наступная сустрэча адбылася ажно праз 10 гадоў і таксама выпадкова. Марыіна знаёмая мусіла перадаць Бядулю ліст і распытвала, ці ведае Марыя такога пісьменніка. Жанчына згадала колішнюю сустрэчу і вырашыла правесці знаёмую ў Інстытут беларускай культуры, дзе працаваў Бядуля. Пісьменнік далёка не адразу пазнаў госцю, але прыняў вельмі прыязна, а на развітанне прапанаваў сустрэцца яшчэ раз. Гэта быў пачатак рамана.

У іх нарадзілася двое дзяцей. І сёння іх сын Самуіл Плаўнік здзіўляе сваёй актыўнасцю, пачуццём гумару. У ім лёгка пазнаць бацьку.


**Канстанцыі Буйло**, якая казала: «Самае вялікае шчасце — гэта сям'я», — самой давялося сям'ю страціць. У 1933 годзе, пасля 17 гадоў шлюбу, ейны муж Віталь Калечыц быў арыштаваны і асуджаны. Канстанцыя змагла дабіцца, каб яго вярнулі ў Маскву для перагляду справы. Але пасля забойства Кірава рэпрэсіі набываюць новую сілу, і ў 1938-м Віталій асуджаны паўторна. У канцы 1950-х жонцы прышлюць даведку, што ён памёр у 1942 годзе ад «паралічу сэрца», хоць сапраўдным годам смерці, відаць, быў той жа 1938-ы. Канстанцыя Буйло зноў выйдзе замуж, новы муж будзе раіць кідаць паэзію. Але назаўсёды застанецца вясельны фотаздымак і памяць пра забітае рэпрэсіямі каханне. «Я больно ранена на всю жизнь этим периодом», — пісала яна пра сталінізм.

## Паўліна Мядзёлка і Тамаш Грыб: турэмнае каханне

Паўліна Мядзёлка, якую часам называюць музай Янкі Купалы, насамрэч мела каханага мужа, Тамаша Грыба — праўда, ніколі не была з ім распісаная. Лідар беларускіх эсэраў не раз за сваю дзейнасць трапляў у турму. У Гродне яго адведвала сяброўка па беларускай справе Мядзёлка. Калі следчы не пускаў яе ў першы раз, яна назвалася нявестай. Пры спатканні Тамаш паказаў ёй прыватны дзённік, дзе пісаў аб сваім палымяным каханні. Пры наступным спатканні Паўліна перадала яму адказ, што з гэтага дня ён можа лічыць яе сваёй жонкай.

Прыгожая гісторыя? Але быў у ёй і трэці бок. Каханай Грыба сябе лічыла і іншая беларуская патрыётка — эсэрка Палута Бадунова. Яна наведвала турму, таксама выдаючы сябе за нявесту рэвалюцыянера. Па словах

Мядзёлкі, Грыб пазбягаў сустрэч з аднапартыйкай і нават уцякаў ад яе.

Калі палякі акупавалі Мінск у 1919 годзе, Тамаша і Паўліну зноў арыштавалі і пасадзілі ў розныя мінскія турмы. Спаткацца можна было толькі на богаслужэнні. У прасторнай царкве мужчын і жанчын аддзяляў ланцужок вартавых. А вось у маленькай турэмнай каталіцкай капліцы набівалася столькі людзей, што вартавыя ўсярэдзіну не змяшчаліся. «Народу столькі, што цесна стаялі адзін пры адным. Нам з Тамашом удалося стаць побач. Узяліся за рукі. Убачыўшы гэта, нейкая дасужая турэмная служка падскочыла і пачала сілай разнімаць нашы рукі.

— Не перашкаджайце нам маліцца, — голасна агрызнулася я. — Што гэта? У касцёле забараняецца пацеры шаптаць? — узняўшы ўгору вочы, як да малітвы, я пачала расказваць Тамашу аб нашых падзеях».

Дарэчы, наглядчык турмы здзівіўся, што Паўліна пазіцыянавала сябе беларускай, да таго ж наведвала спачатку царкву, пасля касцёл. Таму здзекліва запытаўся: «А дзе беларусы моляцца: у царкве ці ў касцёле?» — «Усюды, дзе Бог ёсць», — адказала Мядзёлка, магчыма, сама не разумеючы значэння свайго адказу.

На жаль, сумесны шлях Мядзёлкі і Грыба быў нядоўгі. Тамаш быў праціўнікам савецкай улады. Нягледзячы на ўгаворы каханай, вырашыў не вяртацца ў Савецкую Беларусь і ў 1938 годзе памёр у Празе. (Суперніцу Мядзёлкі Бадунову ў тым жа годзе ў Мінску расстралялі.) Сама Паўліна засталася ў Савецкай Беларусі, і ў 1930-м яе арыштавалі. У маскоўскай Бутырскай турме яна робіць спробу самагубства, выжывае. Затым высылка ў Казань, імаверна, вярбоўка НКВД і таму — жыццё. Масква, вяртанне ў Беларусь. Памерла Мядзёлка ў 1974 годзе ў Будславе.

Пра незвычайнае каханне беларускай Паўлінкі і Тамаша Грыба хацела напісаць твор Ларыса Геніюш. Але не спраўдзілася.



**Дубоўкі.** 1927 год.

## «Вусны твае кармазынам асмужаны»: Уладзімір Дубоўка і Марыя Кляўс

Паэт сустрэўся з будучай жонкай Марыяй у Маскве, у Беларускім клубе, дзе выкладаў беларускую мову для настаўнікаў. Марыя была яго студэнткай. «Пасля заняткаў мы з ім падоўгу блукалі па Маскве, дакладней, ён праводзіў мяне, а дарога ад Арбата да Старой Сіманаўкі далёкая. Хадзілі мы па тэатрах і канцэртах, пасля ажаніліся, і пачаўся новы перыяд майго жыцця, неадлучны ад яго лёсу».

Да такой жонкі якраз і прыглядаўся — прызнаўся некалі Дубоўка свайму сябру Максіму Гарэцкаму. ▶







**Гродзенская турма**, якая «ажаніла» Паўліну Мядзёлку і Тамаша Грыба.

Дарэчы, Марыя была супраць рэгістрацыі шлюбу, казала: «Гэта не зменіць нашых адносін», але Дубоўка настаяў. Пасля яно стала ў нагодзе: перадачы ў турму, дазвол на спатканні...

Пасля першага арышту Марыя будзе шукаць мужа па ўсіх турмах, панясе яму ў турму НКВД томік Байрана (і ён перакладзе «Шыльёнскага вязня»), а пасля паедзе за ім з высылкі ў высылку. Рэдка калі яны не былі побач. У Другую сусветную сям'я страціла сына Альгерда, які падарваўся на міне. Толькі каханне падтрымлівала гэтых людзей. Ужо пасля вяртання з «вечнага пасялення» Марыя напіша ўспаміны пра цяжкія дзесяцігоддзі сталінскага пекла.

Захавалася некалькі запісак, якімі абменьваліся Марыя і Уладзімір у сямейным жыцці. На пасланні жонкі Дубоўка адказваў вершамі. «Я зайздрошчу тваёй чарнабурцы, што цябе абнімае за шыю...» — напісаў ён аднойчы.

### «Несярэдняе каханне» Максіма Танка і Любові Асаевіч

Будучую жонку Максім Танк сустрэў падчас вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі, але яны былі землякамі, родам з суседніх вёсак. Любоў насіла Максіму перадачы ў польскую турму. Ад яго ў лістах і паштоўках да «Лю» — вершы-прысвячэнні, вершы-развагі:

Каторы дзень шуміць пагода,  
Шалее, лютуе зіма,  
Аж сосны хіляцца да долу.  
Каторы дзень цябе няма.

«Сярэдні верш пра каханне» — адзін з самых незвычайных і адлюстроўвае зусім несярэднія пачуцці Танка:

Я сёння хацеў напісаць  
Верш пра цябе  
І прапусціць праз яго радкі  
Мільёнавольтны ток маёй любові,  
Ад якой перагарэлі б  
Усе ізалятары ўмоўнасці,  
Усе заштампаваныя рыфмы і рытмы.

Не менш чулыя лісты пісала жонка: «Выбачай, даражэнькі, што не адпісала Табе на першую картку, хоць моцна хацелася яшчэ раз сказаць, што люблю больш усяго на свеце, больш як цэлы свет. Пішучы да Цябе, здаецца, маю Цябе блізка і магу песціць і туліць да сэрца» (ліст ад 26 ліпеня 1939 года). Перапіска сямейнай пары налічвае сотні аркушаў


ЯКУБ КОЛАС

СУД
У ЛЕСЕ

ПАЭМА

Найвялікшаму другу
Марусі
Якуб Колас
31 мая 1943 –

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б
«СОВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»
1943

«Найвялікшаму другу Марусі».


WIKIMEDIA COMMONS

У гэтым доме ў Пінску два гады пасля вяселля жыў **Якуб Колас з жонкай Марыяй.**

ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІТАРАТУРНА-МЕМАРЫЯЛЬНЫ МУЗЕЙ ЯКУБА КОЛАСА

**Маруся Міцкевіч не паспела пабачыць шыкоўную сталовую** ў сядзібе паэта ля Акадэміі навук.




Вулкі Вільні памятаюць, **як Гарэцкі насіў букеты сваёй Леаніле.**

і паштовак, а нам прыадчыняе цэлы сусвет пяшчоты і клопату.

### Якуб Колас і «найвярнейшы друг Маруся»

Пісьменнік пазнаёміўся з будучай жонкай у 1912 годзе ў Пінску. Маладых аб'ядноўвала прафесія: абое — настаўнікі. З чэрвеня 1913 года пара павянчалася ў Праабражэнскай царкве Пінска. Захаваўся дом, дзе два гады жыла сям'я Міцкевічаў.

У іх нарадзілася трое сыноў, якіх знаёмыя і суседзі называлі «каласкамі». Цяжка перажывалі бацькі страту Юркі, які прапаў без звестак у гады вайны, пры абароне Масквы. Пасля вайны каля сядзібы Колас пасадзіў чатыры дубы і бярозу як сімвал сваёй сям'і. Адзін з дубкоў не прыжыўся, нібы паўтарыўшы лёс сярэдняга сына.

Да жонкі Колас звяртаўся ў лістах «мая дарагая Маруся». Гэтыя ж словы з'явіліся і на надмагільным помніку Марыі Дзмітрыеўны на Вайсковых могілках. Праз некаторы час побач быў пахаваны і Колас.

### Максім Гарэцкі і Леаніла Чарняўская: прыносіў кветкі пад кулямі

Пісьменнік пазнаёміўся з будучай жонкай у Вільні, па знакамітым адрасе Віленская, 22 — гэта быў цэнтр беларускага руху і кватэра братоў Луцкевічаў. Леаніла прыйшла шукаць працу і неўзабаве стала выкладчыцай беларускай гімназіі. Там жа працаваў Гарэцкі. Праз шмат гадоў Леаніла расказвала дачцэ Галіне: «Як прызнаўся Максім потым, што, калі ўпершыню глянуў на мяне, мільганула думка: "Гэтая дзяўчына будзе маёй жонкай"». Вядома і пра заляцанні Максіма, якія прыпалі на 1919–1920 гады: «Ружы насіў часам пад посвіст куль на вуліцы, бо той час быў неспакойны».

Разам закаханыя працавалі над кнігай «Дзяціныя гульні» (Вільня, 1919). На старонках асобніка яна зрабіла надпіс: «Максіму ў памяць таго часу, як чыталі разам рукапіс гэтай кніжкі». А Максім прысвяціў Леаніле грунтоўную працу «Гісторыя беларускай літаратуры». 16 ліпеня 1919 года яны павянчаліся ў Прачысценскім саборы Вільні. У тым жа храме былі ахрышчаныя іх дзеці.

Цудам збераглося апошняе ліставанне Максіма Гарэцкага і яго жонкі. Максім пісаў з турмы, што яму не трэба пастаянна дасылаць ежу, а толькі зрэдзьчасу, калі дазваляюць сродкі. Апошні зварот пасля смяротнага прысуду быў: «Клапаціцеся пра сябе». У лютым 1938-га наш класік быў расстраляны ў Саратаве.

Незадоўга да сваёй смерці ў 1976 годзе Леаніла Чарняўская-Гарэцкая прамовіла: «Ніколі, ні разу не пашкадавала, што выйшла замуж за Максіма, хоць і нялёгкім аказаўся мой лёс».

### «Ніна і Нонік»: Пятро Глебка і Ніна Бялькевіч

Гэта сямейная пара звяртала на сябе погляды сучаснікаў. Пятро і Ніна любілі выглядаць прыгожа, багемна. А пазнаёміліся яны на вечары паэзіі, калі Глебка вучыўся на другім курсе педтэхнікума,



**Закаханы Рыгор Барадулін жартоўна ператвараў прозвішча жонкі Валянціны Манасзон у англійскую фразу «маё адзінае сонейка» — «my only sun».** А яшчэ менавіта дзякуючы жонцы Барадулін кінуў піць, пражыў доўгае і вельмі плённае жыццё.

а Ніна на першым. Пасля першай сустрэчы Глебка ўжо праводзіў Ніну дадому.

Сур'ёзныя выпрабаванні іх адносіны зведалі ў вайну.



**Пятро і Ніна Глебкі.**

Ніна Глебка засталася ў акупаваным Мінску, працавала на падкантрольным немцам радыё, перад адступленнем нямецкіх войскаў выехала ў Кёнігсберг. Пры гэтым супрацоўнічала з антыгітлераўскім падполлем.

Пятро Глебка знаходзіўся ў тыле, працаваў у ваенных газетах. Ён вярнуўся ў Мінск, а яе няма... Былі праблемы ў адносінах.

У пачатку вайны Ніна ўдачарыла яўрэйскую дзяўчынку Ларысу. Выхоўвалі прыёмную дачку з вялікай любоўю, так што Ларыса пасля вайны нават адмовілася вярнуцца да роднага бацькі.

Сваіх дзяцей у пары не было. Хоць усе вакол актыўна ім таго жадалі, нават у вершах-прысвячэннях.

Пятро меў сямейную мянушку Нонік. Напярэдадні 10-годдзя шлюбу Янка Купала з Кіславодска адправіў Глебкам паштоўку:

**Нінцы і Нонцы**

Белая сняжынка
Коціцца па гонце.
Любіць Нонця Нінку,
Нінка любіць Нонцю.
Далей болей, далей
Сыпіцца сняжынка.
Нінка Нонцю хваліць,
Хваліць Нонця Нінку.
Сыпіцца па гонце
Снежная парошка,
А пад Нінкай з Нонцем
Скрыпіць смачна ложка...
Далёкі ж знаёмы
Чуе ўсё здалёку...
З голаю... саломай
Спіць ён адзінока.

*Матэрыял сабраны паводле выставы «Ісці супольна праз усё жыццё», якая экспанавалася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.*



**Уладзімір Караткевіч і Валянціна Ватковіч** пазнаёміліся на сустрэчы з чытачамі. Шлюб быў доўгачаканы, занадта доўга Караткевіч хадзіў у халасцяках — да 41 года. Можа, таму нехта падпісаў фота: «Збылося». Пісьменнік прысвячаў жонцы творы — «Валіньцы ад Уладзіміра». Сумеснае жыццё аказалася кароткім, усяго 12 гадоў. Цяжкае ракавае захворванне жонкі, яе трагічная смерць стала адной з прычын дачаснай смерці Караткевіча.

# Беларускі Паўлік Марозаў



## за свае даносы атрымаў пуцёўку ў «Артэк», але і яго лёс склаўся трагічна

**Як сталінскі рэжым выкарыстоўваў дзяцей, піша доктар гістарычных навук Аляксандр Гужалоўскі.**

У 1930 годзе на Усебеларускім конкурсе дзіцячай кнігі прэмію атрымала аповесць Алеся Якімовіча «Перамога». Яе галоўны герой, падлетак Сцёпка, паведамляў старшыні калгаса пра шкодную дзейнасць свайго бацькі. Гэта першы беларускі твор, які адкрыта заклікаў дзяцей да даносу на ўласных бацькоў. Фінал аповесці шчаслівы: атрымаўшы 5 гадоў умоўнага зняволення, падкулачнік-бацька ўступіў у калгас.

Сталінская ідэалогія выхоўвала «новага чалавека» — фізічна і разумова развітую асобу, якая прытрымліваецца прынцыпаў калектывізму, падпарадкоўвае ўласныя інтарэсы грамадскім і гатовая ахвяраваць сябе і сваіх родных у імя ідэі пабудовы бяскласавага грамадства. Асабліва каштоўным матэрыялам для сістэмы былі дзеці ды падлеткі.

Савецкая прапаганда стварала вобраз Сталіна як калектыўнага бацькі. Ён, маўляў, падараваў сваім сынам і дочкам шчаслівае дзяцінства, абараняе іх ад знешняй і ўнутранай пагрозы, а за гэта патрабуе поўнай адданасці. Нязломная воля і непахіснасць у дасягненні высокай мэты павінны былі стаць узорам для ўсіх дзяцей краіны.

Такая прапаганда давала плён. Той час нарадзіў нямала дзяцей, якія фанатычна верылі ў Сталіна, і гэтая вера была ім важнейшая за сям'ю.

### Будзем як Паўлік!

У верасні 1932 года ў адной з далёкіх уральскіх вёсак быў забіты піянер Паўлік Марозаў. З гэтага пачаў фармавацца культ піянера-пакутніка, які не пашкадаваў уласнага бацькі дзеля пабудовы «светлага заўтра». Пра «мужны ўчынак» Паўліка школьнікам распавядалі на ўроках. Пра яго складалі паэмы, пісалі песні і нават оперы. Праводзілася кампанія збору сродкаў на помнік Марозаву пад дэвізам «Будзем як Паўлік».

Беларускі піянерскі друк шмат пісаў пра Паўліка Марозава, паведамляў і пра іншых піянераў-пакутнікаў, якія, натхніўшыся «подзвігам» Паўліка, даносілі ў НКВД пра сваякоў. Гэта правакавала беларускіх дзяцей на аналагічныя ўчынкі. Літаратар Алесь Рылько, які нарадзіўся

> **«Аднойчы, прыйшоўшы са школы, сеў пісаць на бацьку заяву»**

ў 1923 годзе на Віцебшчыне, распавядаў пасля Янку Брылю, што ў 1930-я гады і ён, «начытаўшыся ды наслухаўшыся пра подзвіг Паўліка Марозава, пачаў сачыць за сваім бацькам». Калгасны конюх, бацька прыносіў часам кішэню аўса, з якога, растоўкшы ў ступе, маці варыла нейкую поліўку. І вось аднойчы, прыйшоўшы са школы, малы сеў пісаць на бацьку заяву. «Думаў, думаў, — успамінаў ён ▸

потым, у пяцідзясятых, —
а пасля як стала мне страшна, як расплакаўся я за сталом!..»

У 1937 годзе прапагандысты КП(б)Б здолелі нарэшце знайсці і раскруціць свайго «Паўліка Марозава». Ім стаў 14-гадовы вучань 2-й барысаўскай рускай школы, піянер, выдатнік і сын шаўца Меер Меркінд.

### Меер Меркінд — «Паўлік Марозаў» з Барысава

У 1936 годзе пры дапамозе іншага школьніка, які добраахвотна дапамагаў міліцыі, Меера завербавалі. Ціснулі на падлеткавае абвостранае пачуццё справядлівасці, нецярпімасць да крывадушнасці і фальшу. Пасля размовы пра «перавыхаванне злачынцаў, што з'яўляецца адной з найважнейшых умоў пабудовы сацыялістычнага грамадства», хлопец пагадзіўся даносіць на свайго бацьку.

Меркінда-старэйшага барысаўская міліцыя даўно падазравала ў сувязі з кантрабандыстамі: хадзілі чуткі, што шавец робіць і прадае абутак з кантрабанднай скуры. Як у сапраўдным дэтэктыве, Меер сачыў за бацькам, падслухоўваў яго размовы, таемна сустракаўся з агентамі крымінальнага вышуку, каб перадаць інфармацыю. Самае галоўнае — ён знайшоў у хаце рэчавыя доказы злачынства: схованкі з кантрабанднымі скурамі.

Згадкі пра гэту гісторыю пакінуў тагачасны аператыўны ўпаўнаважаны крымінальнага вышуку Стара-Барысава Васіль Брыжэўскі (яго ўспаміны апублікаваў краязнавец Андрэй Цісецкі). Брыжэўскі піша, што разумеў смяротную небяспеку для свайго малалетняга агента. Калі б

**Паўлік Марозаў** (1918–1932) нарадзіўся і пражыў сваё кароткае жыццё ў сяле Герасімаўка на Урале (цяперашняя Таўдзінская гарадская акруга Свярдлоўскай вобласці Расіі). Ягоны бацька, Трафім Марозаў, быў паводле паходжання беларусам, які перасяліўся ў Герасімаўку разам з сям'ёй у 1910 годзе, падчас правядзення сталыпінскіх аграрных рэформаў. Трафім быў старшынёй Герасімаўскага сельсавета, а Павел — кіраўніком мясцовай піянерскай арганізацыі. Падчас калектывізацыі Трафім Марозаў выдаваў раскулачаным даведкі, якія дазвалялі ім пасля пакінуць месца высылкі. За гэта яго асудзілі — нібыта пасля даносу сына. За данос Паўла разам з малодшым братам Фёдарам забілі сваякі. Сёння сапраўднасць афіцыйнай версіі смерці Паўліка Марозава падвяргаецца сумневам. Цалкам верагодна, што крывавы канфлікт, які сапраўды меў месца ў сям'і Марозавых, узнік на бытавой, а не ідэалагічнай глебе. Як бы там ні было, гэтую трагедыю ўзяла на ўзбраенне савецкая прапаганда і напоўніцу выкарыстала ў сваіх інтарэсах.




**На вокладцы часопіса Сталін выяўлены з сямігадовай Геляй (Энгельсінай) Маркізавай** — дачкой наркама земляробства Бурат-Мангольскай АССР Ардана Маркізава. Хоць гэта фотакартка актыўна выкарыстоўвалася прапагандай як сімвал савецкага шчаслівага дзяцінства, у самой Гелі яно было зусім нешчаслівае. Бацька яе восенню 1937 года быў арыштаваны і праз паўгода расстраляны, а маці з дзецьмі сасланая ў Сярэднюю Азію, дзе неўзабаве трагічна загінула. Асірацелую дзяўчынку выгадавалі сваякі. Пасля Энгельсіна Маркізава (па мужу Чэшкава) стала гісторыкам-усходазнаўцам, спецыялістам па гісторыі Камбоджы.

кантрабандысты яго выкрылі, яго не пашкадавалі б. Таму ў абмен на пісьмовую заяву аб незаконнай дзейнасці бацькі барысаўская міліцыя дала Мееру гарантыі канфідэнцыйнасці. Яму таксама абяцалі не прыцягваць у якасці сведкі падчас судовага працэсу. Аднак гарантыі аказаліся пустымі словамі.

Пасля арышту кантрабандыстаў і Меркінда-старэйшага кіраўніцтва БССР вырашыла зрабіць працэс адкрытым. 11 мая 1937 года ў перапоўненай зале Дома селяніна барысаўскі суд пачаў слуханне справы. Брыгадзіра шавецкай арцелі «Чырвоны воін» Лейбу Меркінда абвінавачвалі ў крадзяжы скуртавараў, вырабе абутку і продажы па спекулятыўных цэнах.

Да таго часу партыйныя прапагандысты ўжо прапанавалі суду іншую версію падзей, якая гераізавала дзеянні піянера. Так, карэспандэнт «Звязды» паведамляў з перапоўненай залы суда: «Меер Меркінд яшчэ ў 1936 годзе заявіў міліцыі аб злачынстве бацькі, але міліцыя ніякіх мер не прымала. У пачатку 1937-га піянер Меркінд прыйшоў да ўпаўнаважанага крымвышуку і, расказаўшы падрабязна пра злачынствы бацькі, дадаў: «Калі і на гэты раз будзеце маўчаць, я выкрыю і вас перад галоўным кіраўніцтвам міліцыі».

### Дзяржзаказ на даносы

Галоўны герой паэмы Андрэя Александровіча «Шчаслівая дарога» (1934), сын кулака Грышка, паведамляе органам пра бацьку і старэйшую сястру, якая паспрабавала ўцячы ад калектывізацыі ў Польшчу. У выніку Грышку перадалі ў інтэрнат, а ягоныя арыштаваныя бацька і сястра зніклі ў нетрах ГУЛАГа. Падобны сумны лёс напаткаў і героя драмы Эдуарда Самуйлёнка «Пагібель воўка» — лесніка Багдана Харкевіча, якога публічна выкрыла як «дыверсанта і класавага ворага» дачка-студэнтка.


ПОСТУПИЛО
6 ФЕВ 1940
ЦК ВКП(б)

29/I 1940 года

75

Дарагі наш бацька Сталін!
Мы дзеці Беларусі пішым да Цябе пісьмо
і дзякуім Табе і Чырвонай Арміі за вызваленя
нас с пад панскаго гнёта. Мы радуімся што
вольныя а смуцімся што галодныя. цяпер у нас
німа дзе купіць хлеба. У нас хлеп дарагі адзін
пуд жыта стоіць 25 рублей. а на 25 рублей
наш бацька працуя 5 дзён. Наш бацька ні
можа зарабіць хлеба для нас бо нашая
маці хворая а нас чацьвёра і усе малыя
я маю 14 год мая сястра 12 год. адзін брат
10 а другі 7. Сястра мая ходзіць да 4 класа
пачатковай школы а я хачу хадзіць да 5


класа пачатковай школы.
Я хачу быць лётчыцай славнай у цэлы
свеця. Мая сястра хоча быць капіта-
нам на караблі. Мы моцна хочым вучыцц
мы спадзяёмся што нашыя мары збудуцц
праўдай.
Мы Табе наш бацька жэлаем доўгаго жыцця
Евгенія і Олга Мусніцкія
БССР вобласць Баранавічы.
уезд Валожына
валасць Прабы
вёска Сінкіната.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РБ. ФОНД 4П, ВОПІС 1, СПРАВА 13350, АРКУШ 75.

Меера абавязалі выступаць на судзе ў якасці сведкі супраць уласнага бацькі. Паводле слоў карэспандэнта «Звязды», дзякуючы ягонаму выступу суду ўдалося выявіць і новых фігурантаў для крымінальных спраў.

**Меера абавязалі выступаць на судзе ў якасці сведкі супраць уласнага бацькі. За гэта ён атрымаў пуцёўку на адпачынак у піянерскі лагер «Артэк»**

Працэс барысаўскіх кантрабандыстаў-спекулянтаў шырока асвятляўся ў беларускім друку. У кожным рэпартажы ўпор рабіўся на «гераічным учынку» барысаўскага падлетка, за які ён атрымаў пуцёўку на адпачынак у піянерскім лагеры «Артэк». Газета «Піянер Беларусі» адкрытым тэкстам назвала хлопца «беларускім Паўлікам Марозавым».

### Замест бацькоў — прочыркі

Меркінд-старэйшы атрымаў працяглы тэрмін зняволення і прапаў у ГУЛАГу. А Меера пасля вяртання з «Артэка» перадалі на выхаванне ў віцебскі дзіцячы дом. У апошні перадваенны год ён паступіў вучыцца ў Мінскі педінстытут. А ў жніўні 1941-га Меер Меркінд загінуў на фронце, кажа барысаўскі краязнаўца Аляксандр Разэнблюм. Паведаміць пра гэта не было каму, бо ў ягоных дакументах у графах «бацька» і «маці» стаялі прочыркі... ◆

### Калыханка Эдзі Агняцвет

Эдзі Агняцвет у тыя гады напісала такую калыханку:

*Спі, дачушка мая Валя,*
*І равеснік твой Віталій,*
*Вас жа любіць мудры Сталін.*
*Хачу, каб вы падрасталі,*
*Перад вамі шчасця далі,*
*Вас жа любіць мудры Сталін.*

Калегі-пісьменнікі падазравалі, што Агняцвет была адной з тых, па чыіх даносах былі арыштаваныя дзясяткі людзей.



**Князь Людвік Чацвярцінскі** ў Орлі над Нёманам. 1930-я гады.

SHUTTERSTOCK.COM, LENALANETTE

# ЖАЛУДОК *і яго залаты век*

**Перад вайной мястэчка Жалудок на Гродзеншчыне называлі месцам, дзе супалі інтарэсы пана і селяніна. Але пройдзе ўсяго некалькі гадоў, і гэты свет знікне без знаку, піша гісторык Андрэй Вашкевіч.**

Напрадвесні 1936 года ў мястэчка Жалудок Шчучынскага павета прыехаў з Вільні вядомы журналіст і фатограф Фелікс Дангель. Пасля на старонках кракаўскага часопіса «*As*» ён з захапленнем апісаў цудоўны палац і парк князёў Чацвярцінскіх, а таксама іх вялізную гаспадарку. Гаспадарка тая размяшчалася на васямнаццаці тысячах гектараў наднёманскіх пушчаў, палёў і рыбных тоняў. Яна мела некалькі тартакоў, гарэльні, фермы па гадоўлі галандскіх кароў, конезаводы... А ўласнік усяго гэтага дабра, князь Людвік Чацвярцінскі, інвеставаў у новыя прыбытковыя галіны гаспадаркі, даючы пры гэтым добра зарабіць мясцовым сялянам. Журналіст апісаў усё ўбачанае як «зараджэнне новай Рэчы Паспалітай», дзе супадаюць інтарэсы буйнога землеўласніка і беларускага селяніна.

Тады яшчэ ніхто не ведаў, што існаваць гэтаму свету застаецца ўсяго некалькі гадоў...

### Ад баяраў літоўскіх да маскоўскіх

Жалудок — адзін з самых старых населеных пунктаў Беларусі. Прычым першая згадка пра яго — незвычайная. Крыжакі, якія ў XIII–XIV стагоддзях бесперапынна ваявалі з Вялікім Княствам Літоўскім, пастаянна пасылалі ў Прынямонне сваіх шпіёнаў, якія пад выглядам купцоў разведвалі дарогі да вялікіх гарадоў — Горадні, Вільні,

Наваградка, Коўна. Вярнуўшыся ў Ордэн, шпіёны апісвалі пройдзеныя маршруты, згадваючы ўсе паселішчы на сваім шляху. Якраз у адной такой справаздачы канца XIV стагоддзя крыжацкі шпіён згадаў пра «Сцегевілендорф Шалутка» (*Stegewillendorf Szolutka*) па дарозе да Ваўкавыска. У вольным перакладзе на сучасную беларускую мову — гэта вёска Жалудок, якая належала Сцегевілу. Сцегевіл быў, відаць, нейкім літоўскім баярынам, якіх было нямала. Іх абавязкам было забеспячэнне аховы велікакняскіх замкаў.

У 1530-я гады вялікі князь Жыгімонт Стары перадаў Жалудок Івану Васільевічу Лядскаму — маскоўскаму баярыну, які ўцёк у Вялікае Княства, патрапіўшы ў няміласць да сваіх уладароў. Да ўцёкаў у Беларусь Лядскія былі блізкімі сваякамі баяраў Захар'іных і Раманавых. Гэтыя роды належалі да першага эшалону маскоўскага прывілеяванага саслоўя, і з іх выводзіліся будучыя расійскія імператары. Менавіта са слоў Івана Васільевіча Лядскага ў сярэдзіне XVI стагоддзя была надрукаваная першая карта Масковіі, якую больш за сто гадоў передрукоўвалі шматлікія еўрапейскія выдаўцы.

Свае вайсковыя таленты Лядскія прымянялі супраць многіх ворагаў ВКЛ — у тым ліку і маскоўцаў. Сын Івана Васільевіча, Іван Іванавіч Лядскі, у адрозненне ад большасці шляхты Вялікага Княства, дысцыплінавана выстаўляў вояроў на попісы войска. У 1567-м са сваіх уладанняў, замест належных 40 коннікаў, ён выставіў ажно 61 добра ўзброенага вершніка і 30 пешых драбаў з рушніцамі. Сам згаданы Іван Лядскі вызначыўся падчас Інфлянцкай вайны, а ягоны сын Фёдар назаўсёды ўвайшоў у летапіс вайсковай славы Рэчы Паспалітай. Яго рота з двухсот крылатых гусараў, сярод якіх былі і шляхціцы з ваколіц Жалудка, паставіла рашучую кропку ў бітве са шведамі пад Кірхгольмам у верасні 1605 года.

І хоць у XVII стагоддзі Лядскія страцілі Жалудок, аднак памяць пра іх засталася на Шчучыншчыне ў выглядзе назваў вёсак Лядск і Высокі Лядск.

**Бацькаўшчына Тызенгаўзаў**

У пачатку XVIII стагоддзя Жалудок стаў уласнасцю роду Тызенгаўзаў. Найбольш вядомым уладальнікам мястэчка сярод прадстаўнікоў гэтага роду курляндскага паходжання быў Антоній Тызенгаўз — адміністратар, рэфарматар і палітык. Кіруючы велізарнымі абшарамі велікакняжацкіх эканомій (пра гэта падрабязней можна пачытаць у № 1 «Нашай гісторыі» за 2018 год), ён не забываўся і пра свае прыватныя ўладанні. Менавіта Тызенгаўз надаў Жалудку ўнікальную для Беларусі радыяльную планіроўку: ▶

**Першым пра Жалудок згадвае крыжацкі купец-шпіён**




**Жалудок захаваў радыяльную структуру, а адна з вуліц па-ранейшаму вядзе да палаца.** Хоць «калхознага» вакол за XX стагоддзе дадалося нямала.

▶ ад круглай плошчы ў цэнтры мястэчка ў розныя бакі, як промні ад сонейка, разбягаліся вуліцы, адна з якіх упіралася ў браму гаспадарскага маёнтка. Гэтая круглая плошча ў цэнтры дагэтуль захавалася, цяпер на ёй «Еўраопт» і банкамат «Беларусбанка».

Калі Тызенгаўз страціў ласку караля і быў зняты з усіх пасадаў, менавіта ў Жалудок ён перавёз большую частку сваёй маёмасці, якая пасля ягонай смерці была апісаная за даўгі. Сярод іншых рэчаў пасля Антонія Тызенгаўза ў Жалудку застаўся набор прылад для піцця кавы, пра які мы ведаем з аднаго з інвентароў. Апрача кубачкаў са сподачкамі, у набор уваходзілі некалькі імбрычкаў, млынок для памолу кавы, посуд для шакаладу і цукру, каробка і медны кацялок для чаю. Абсмажвалася і гатавалася кава на спецыяльнай печцы. Няма сумневу, што гарадзенскі стараста быў вялікім аматарам гэтага напою і яўна разбаўляў ім месяцы адзіноты ў жалудоцкім двары.

**Антоній Тызенгаўз надаў Жалудку ўнікальную для Беларусі радыяльную планіроўку: ад круглай плошчы ў цэнтры, як промні ад сонца, разбягаліся вуліцы**



ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ

**Прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі** перад палацыкам Тызенгаўзаў у Жалудку. 1930-я гады.

Паколькі Антоній Тызенгаўз не меў дзяцей, пасля яго смерці Жалудок перайшоў у спадчыну пляменнікам. Іх нашчадкі спачатку па мужчынскай, а пасля па жаночай лініі валодалі мястэчкам аж да 1939 года. Менавіта тут у 1786 годзе нарадзіўся ўнучаты пляменнік Антонія Тызенгаўза Канстанцін — адзін з першых прафесійных даследчыкаў птушак на нашых землях, а разам з тым і досыць таленавіты мастак. І хоць большая частка жыцця Канстанціна Тызенгаўза звязана з Рокішкамі ў Літве, у Жалудку прайшлі ягоныя маладыя гады. Дарэчы, паміж беларускім Жалудком і літоўскімі Рокішкамі шмат супольнага як ва ўладкаванні мястэчка, так і ў выглядзе гаспадарскага двара.

Двор Жалудок стаў радзімай яшчэ для аднаго вядомага дзеяча. У снежні 1836 года ў сям'і аканома Тызенгаўзаў Антона Урублеўскага нарадзіўся хлопчык Валяр'ян (Валеры), які стане адным з правадыроў паўстання 1863 года (пра яго чытайце артыкул Віталя Чырвінскага ў №2 «Нашай гісторыі» за 2018 год).

### Палац, як у сталіцы

Германцыя Тызенгаўз (па мужу Уруская) памерла ў 1891 годзе, і Жалудок перайшоў у спадчыну да яе дачкі Марыі, якая была замужам за Уладзімірам Чацвярцінскім. Святаполк-Чацвярцінскія належалі да старажытнага княжацкага роду, яны вялі сваё паходжанне ад турава-пінскай галіны Рурыкавічаў. Сыны Уладзіміра, Севярын і Людвік, бралі актыўны ўдзел у палітычным жыцці Расіі, а пасля міжваеннай Польшчы, цікавіліся тэхнічнымі навінкамі. Сярод іншага, яны спрычыніліся да стварэння трамвайнай сеткі ў Варшаве. З іменем малодшага з братоў, Людвіка, якраз і звязаны росквіт Жалудка, пра які пісаў у канцы 1930-х гадоў віленскі журналіст.

Асноўным жылым будынкам на тэрыторыі панскага двара ў Жалудку доўгі час быў аднапавярховы палацык у неагатычным стылі, змураваны яшчэ на пачатку XIX стагоддзя з цэглы і бутавага каменю. Вежа палацыка завяршалася металічным флюгерам у выглядзе сцяга з гербам Тызенгаўзаў.

Людвік Чацвярцінскі ў пачатку XX стагоддзя вырашыў узвесці ў парку шыкоўны двухпавярховы палац, які зрабіў бы гонар не толькі беларускай правінцыі, але і Варшаве з Кракавам. Па адных звестках, аўтарам праекта палаца стаў знакаміты варшаўскі архітэктар Уладзіслаў Марконі, які спраектаваў і вядомы гатэль «Брыстоль» на Кракаўскім прадмесці ў Варшаве. Па другой версіі, Марконі толькі дапрацаваў праект іншага не менш знакамітага архітэктара Тадэвуша Растварoўскага, аўтара некалькіх вялікіх будынкаў у Вільні — напрыклад, галоўнага офіса Палескай чыгункі на Пагулянцы.

Аднак не паспелі Чацвярцінскія скончыць свой палац, як пачалася

Першая сусветная вайна. Нямецкія тылавікі, якія любілі фатаграфаваць хаты бедных беларускіх сялян, былі моцна здзіўленыя гэтай шыкоўнай пабудовай і таксама фатаграфаваліся на яе фоне дзясяткі разоў.




Палац у Жалудку ў апошнія некалькі гадоў **быў здымачнай пляцоўкай фільмаў «Масакра» і «Кіндэрвілейскі прывід».**

### Гаспадарчая імперыя

Пасля вайны Чацвярцінскія ў палацы не жылі. Князь Людвік і яго жонка Разалія пасяліліся ў афіцыне на тэрыторыі парку. Тут былі сабраныя старая мэбля і нешматлікія творы мастацтва. Палац толькі зрэдку прыстасоўвалі пад гасціныя пакоі для моладзі, якая летам з'язджалася ў Жалудок. Затое Чацвярцінскі засяродзіўся на развіцці сваёй гаспадаркі, якая па памерах значна пераўзыходзіла нават некаторыя еўрапейскія дзяржавы.

Праз пушчу праклалі некалькі дзясяткаў кіламетраў добрай дарогі. Усе фальваркі Чацвярцінскіх былі злучаныя тэлефоннай сувяззю і працавалі паводле аднаго гаспадарчага плана, за рэалізацыю якога адказвалі ўпаўнаважаны князя Юзаф Славінскі і галоўны ляснічы Францішак Пясецкі. У навакольных вёсках Орля, Зачэпічы, Багданаўка і ў самім Жалудку працавалі тартакі, бровары, фермы, рыбныя і паляўнічыя гаспадаркі.

Забяспечваючы недалёкі Мастоўскі фанерны завод драўнінай, Чацвярцінскі хутка зрабіў свае ўладанні аднымі з самых прыбытковых у Заходняй Беларусі. У Лідзе па вуліцы Сувалкаўскай, 40 функцыянаваў гандлёвы дом Людвіка Чацвярцінскага. Тут прадавалі будаўнічыя матэрыялы, а таксама разнастайную сельскагаспадарчую прадукцыю. Аптовыя гандляры збожжам маглі скарыстацца складамі Чацвярцінскага ў Лідзе па вуліцы Вакзальнай.

Князь наладзіў медыцынскую службу для рабочых, адкрыў некалькі школак і нават дзіцячы садок. Аднаго ляснога рабочага Петрука, калі ён захварэў, нават адправілі на лячэнне ў Закапанэ за кошт князя. Усяго князь выплачваў сваім рабочым больш за 700 тысяч злотых за год.

### Эпоха не пашкадавала

Сам Людвік Чацвярцінскі, як і належала «крэсоваму зубру», вельмі любіў коней і паляванне. Асабіста ён застрэліў больш за сотню ваўкоў. Але адначасова рабіў і прыродаахоўныя захады. Сярод іншага, ён клапаціўся пра стварэнне ўмоў для таго, каб у наднёманскія лясы вярнуліся вынішчаныя раней ласі і мядзведзі.

Прыйшоў верасень 1939 года, і ўся маёмасць Чацвярцінскіх была нацыяналізаваная. Людвіка разам з жонкай новыя ўлады арыштавалі, і сем месяцаў яны правялі ў савецкай турме. Былыя ўладальнікі Жалудка былі вызваленыя толькі дзякуючы заступніцтву італьянскага караля Віктара Эмануіла.

Чацвярцінскія выехалі з СССР на тэрыторыю, акупаваную немцамі, дзе жылі ў роднага брата Людвіка — Севярына. Праўда, шчасця гэта ўсё адно ім не прынесла. Вясной 1941-га Людвіка Чацвярцінскага арыштавалі ўжо немцы. Праз некалькі месяцаў ён загінуў у канцлагеры Аўшвіц. А потым пачалася вайна немцаў з саветамі, і стары Жалудок падчас нямецкай бамбардзіроўкі згарэў амаль цалкам. ◆




**Гаспадарчыя пабудовы былога Жалудоцкага двара,** цяпер уласнасць мясцовага свінакомплексу. У гэтых мясцінах нарадзіўся Валеры Урублеўскі.

# Легендарны шарлот

**Гэты яблычны пірог ведаюць ва ўсім свеце. Некалькі краін — Англія, Францыя, Расія і Амерыка — прэтэндуюць на яго вынаходніцтва. Толькі вось гатуюць яго ў гэтых краінах па-рознаму і называюць па-рознаму. Піша шэф-кухар Алена Мікульчык.**

## Англійская версія

Англійская гісторыя шарлоту пачалася з пудынгу. Ці, правільней будзе сказаць, з эканомнасці англічан, якія прыдумалі, як ужываць недаедкі. Кавалкі хлеба перакладалі рознымі начынкамі, часта мяснымі, ды запякалі. Дадавалі і чарнасліў — кіслыя інгрэдыенты падаўжаюць тэрмін прыдатнасці стравы. 400 гадоў таму пудынг быў закускай.

А што здарылася потым, гісторыя маўчыць. Аднак ужо ў XVIII стагоддзі ён быў дэсертнай стравай. Можа, які кухар аднойчы вырашыў дадаць у пудынг цукар?

А гатавалі новы дэсерт так. На дно змазанай маслам формы выкладалі кавалкі белага хлеба, вымачанага ў малацэ ці ўзбітых яйках (і нават у віне), потым начынку і зноў вымачаны хлеб. Колькасць слаёў магла быць любой. У гэты час у страву яшчэ дадавалі гародніну, рыбу, ракаў, але ўсё часцей — ягады, садавіну, розныя мусы і шакалад.

Пудынг запякалі, падавалі гарачым і абавязкова з соусамі і вяршкамі.

Як кажа легенда, дадаваць яблыкі ў пудынг прыдумала Шарлота, жонка англійскага караля Георга III (кіраваў з 1760 па 1820 год). Каралева была добра адукаваная, любіла мастацтва, музыку, брала актыўны ўдзел у стварэнні Каралеўскага батанічнага саду. Варыянт пудынгу з яблычным пюрэ ўдзячныя англічане сталі называць «шарлот» у гонар любімай каралевы.

## Французская версія

Калі прасачыць паходжанне англійскага слова «пудынг» (*pudding*), то акажацца, што англічане пераняли яго з французскай — ад слова *boudin* (так французы называлі малочныя

## Амерыканскі шлях

У XIX стагоддзі рэцэпт шарлоту разам з эмігрантамі трапіў у Новы Свет і атрымаў новую гісторыю. Назву сталі тлумачыць ад горада Шарлот у Паўночнай Караліне, дзе нібыта ўпершыню пачалі падаваць такі дэсерт. Амерыканскі шарлот замешваюць са здобнага ці пясочнага цеста, дадаюць масла, начынку з яблыка прыпускаюць цукрам, каб яблыкі карамелізаваліся, дадаюць трошкі карыцы і крухмалу. На дно формы выкладаюць раскатаны пласт цеста, яблыкі і зноў цеста. Запякаюць да залацістай скарыначкі. Падаюць халодным з вяршкамі, марожаным і шакаладам.

каўбаскі *boudin blanc* або крывянку *boudin noir*). Пра тое, як французскі пудынг стаў дэсертам, расказвае легенда. Жыў сабе кухар-кандытар, і закахаўся ён у дзяўчыну, якую звалі Шарлот. Каб заваяваць яе сэрца, кухар прыдумаў дэсерт: ён замяніў у пудынгу мяса на яблыкі і вяршкі і назваў страву ў гонар каханай. Такі варыянт шарлоту, падобны на сумесь тырамісу і пудынгу, дагэтуль падаюць у Францыі пад называй *charlotte à la parisienne*.

Можа, на гэтым гісторыя шарлоткі і скончылася б, каб не вайна, якую развязаў Напалеон Банапарт. Французскі імператар прайграў, і калі расійскі цар Аляксандр I у 1814 годзе ўвайшоў у Парыж, яго сустракалі як пераможцу. Для цара рыхтаваў прыём знакаміты французскі кухар Мары-Антуан Карэм, «кароль усіх кухараў і кухар усіх каралёў».

На дэсерт Карэм вырашыў падаць яблычны шарлот, але, як майстар сваёй стравы і прафесіянал, ён змяніў рэцэпт: замест хлеба ўзяў бісквіт і дадаў баварскі крэм (заварны крэм, прыпраўлены лікёрам), што надало страве больш вытанчаны смак. Не будзем апісваць складаную тэхналогію Антуана Карэма, бо галоўнае ў тым, што французскі кухар назваў дэсерт *charlotte russe*. Так у Францыі дагэтуль называюць звыклую шарлотку — яблычны бісквіт.

Паводле іншай версіі, Антуан Карэм пазнаёміў царскую сям'ю з дэсертам шарлот у 1817 годзе, калі па запрашэнні Аляксандра I прыехаў у Расію. З цягам часу рэцэпт выйшаў за сцены царскіх пакояў і распаўсюдзіўся па ўсёй Расійскай імперыі.

Як бачым, рэцэпт шарлоту ўніверсальны. Акрамя яблык, можна выкарыстоўваць іншую садавіну, ягады, варэнне, мусы і крэмы. Цеста для шарлоткі можа быць бісквітнае, здобнае і пясочнае, таксама гэты дэсерт можна гатаваць з белага хлеба і гатовага бісквіту. Можа, менавіта ў такой адаптыўнасці да розных культурных і эканамічных умоў і ёсць сакрэт папулярнасці шарлоту. ◆



## Рэцэпт

Адразу некалькі парад.

Аддзяляць бялкі ад жаўткоў трэба вельмі акуратна, каб у бялкі не трапілі нават найменшыя кавалачкі жаўтка.

Чым лепей узаб'юцца бялкі, тым больш пульхны і далікатны будзе шарлот. Каб бялкі ўзбіліся ў моцную пену, іх трэба спачатку ахаладзіць. Міска і венчыкі для ўзбівання бялкоў павінны быць чыстымі, сухімі і халоднымі. Часта гаспадыні робяць такую памылку: мыюць венчыкі ў гарачай вадзе і адразу бяруцца ўзбіваць бялкі.

Заліваць гатовае цеста трэба ў цёплую форму.

Ставіць форму з цестам абавязкова ў разагрэтую да 180 градусаў духоўку.

Калі шарлот будзе гатовы, не вымайце яго адразу з духоўкі, дайце яму астыць.

А цяпер, калі вы ведаеце ўсе тонкасці, пачынаем гатаваць.

*Для яблычнай шарлоткі вам спатрэбіцца*:

- 6 яек
- 250 г цукру
- 140 г пшанічнай мукі вышэйшага гатунку
- 3 сярэднія яблыкі
- 1/3 маленькай лыжкі карыцы
- 10 г манных крупаў або сухароў
- 20 г масла
- дробка солі

Яблыкі разрэзаць на чатыры часткі, выдаліць сярэдзіну, парэзаць тонкімі долькамі. Бялкі аддзяліць ад жаўткоў. Бялкі астудзіць і ўзбіць з дробкай солі і 0,5 нормы цукру ў моцную пену. Асобна ўзбіць з рэштай цукру жаўткі. У бялкі акуратна ўліць жаўткі, прасеяную муку і замясіць цеста. Форму для запякання злёгку прагрэць у духоўцы, вышмараваць маслам дно і борцікі, абсыпаць маннымі крупамі або сухарамі, уліць трохі цеста. Затым выкласці пласт яблыкаў, заліць яго невялікай колькасцю цеста, на якое змясціць долькі яблыкаў, пакінуўшы трохі для ўпрыгожвання, а верх пакрыць цестам. Шарлот абсыпаць невялікай колькасцю цукру і карыцы, верх пірага выкласці долькамі яблыкаў. Выпякаць у разагрэтай да 180 градусаў духоўцы 20–25 хвілін. Гатоўнасць правяраць драўлянай палачкай. Падаваць шарлот з узбітымі вяршкамі, марожаным, ягадамі і мятай.

# За гарамі, за daламі

**Самыя блізкія ад Беларусі горы — Карпаты. Летам там прахалодна, восенню — буйства фарбаў, зімою — гарналыжныя трасы. Захапляльны турыстычны *destination*. Калі вы едзеце ў Карпаты, варта і спусціцца з гор. Закарпацце — рэгіён з незвычайнай кухняй, мінеральнымі водамі, вінамі «Ізабэла», а таксама экзатычнай для беларусаў венгерскай спадчынай. Гэта таксама цікавы кірунак для «лінгватурызму» і «антрапатурызму». У Закарпацці дагэтуль жывыя непаўторныя дыялекты і існуе культурна-палітычны рух «русінаў». Піша беларускамоўны экскурсавод са Львова Андрэй Кусій.**

Закарпацкая вобласць зусім невялікая: яе плошча — 12,8 тысячы км². Гэта як траціна сярэдняй беларускай вобласці. Але пры гэтым Закарпацце мяжуе адразу з чатырма дзяржавамі: Румыніяй, Венгрыяй, Славакіяй і Польшчай. І ніводзін іншы ўкраінскі рэгіён не можа пахваліцца такой канцэнтрацыяй прыродных цікавостак.

## Закарпацце
- незвычайная кухня
- мінеральныя воды
- вадаспады
- віны «Ізабэла»
- венгерская спадчына
- русіны

SHUTTERSTOCK.COM, BY VOLODYMYR TVERDOKHLIB

Гэты край раней называлі «Срэбнай зямлёй». Паэтычная назва паходзіць ад легенды пра царкоўны звон, адліты са срэбра ў Кіеве ў 1034 годзе. Звон з'явіўся на закарпацкай зямлі як падарунак дачкі князя Яраслава Мудрага Анастасіі, якую выдалі за вугорскага караля Андраша I. Калі напалі манголы, звон мясцовыя жыхары закапалі ў зямлю. Але нават пад зямлёй ён не пераставаў гучаць, папярэджваючы пра небяспеку.

### Хрысціліся раней за Кіеў

Пад Карпаты падыходзілі розныя народы. Тут бывалі і кельты, і фракійцы, і дакі, і рымляне, і гуны, і балгары.

У сярэдзіне IX стагоддзя гэтая зямля ўвайшла ў склад значнай славянскай дзяржавы — Вялікай Маравіі. І менавіта ў гэты час, у 863 годзе, сюды прыйшло хрысціянства. Закарпатцы ганарацца тым, што іх продкі прынялі хрышчэнне раней, чым гэта зрабілі ў Кіеве. Прытым раней не на год-другі, а на цэлых 125 гадоў! Дзень хрышчэння Закарпацця штогод адзначаецца ў горадзе Мукачава 25 мая. У гэтым горадзе стаіць і помнік святым Кірылу і Мяфодзію, з імёнамі якіх звязваецца тое хрышчэнне.

### Пад венграмі, туркамі...

Пераломным момантам для «Срэбнай зямлі» стаў 896 год, калі на Дунайскую раўніну неспадзявана ўварваліся плямёны венграў, якія дагэтуль качавалі сабе далёка ў Паволжы. Іншыя качэўнікі звычайна раптоўна набягалі і неўзабаве сыходзілі ў іншыя краі, але з венграмі выйшла зусім іначай. Яны перайшлі да аселага ладу жыцця і заснавалі ўласную дзяржаву, падпарадкаваўшы славян і валахаў (продкаў румын), якія жылі тут раней. Пасля смерці князя Уладзіміра Вялікага ў 1015 годзе венгерскі кароль Іштван I Святы канчаткова далучыў Закарпацце да сваёй дзяржавы. І яно ўваходзіла ў склад Венгрыі наступныя амаль 700 гадоў. Праўда, і сама Венгрыя, а разам з ёй і яе ўскраіна, у XVI стагоддзі патрапіла пад турэцкую акупацыю.

Наступны раз гаспадар закарпацкіх земляў змяніўся толькі пры канцы XVII стагоддзя: пасля вызвалення з-пад турэцкай улады яны ўвайшлі ў склад Аўстрыйскай імперыі, якой кіравала славутая дынастыя Габсбургаў. Венгерскія магнаты, праўда, былі гэтым незадаволеныя і паднялі паўстанне, але прайгралі яго. У новай дзяржаве землі на Закарпацці перадаваліся іншым уладальнікам, даволі часта нямецкім каланістам. ▶

### Асноўныя даты з гісторыі Закарпацця

**1 мільён год таму** — прыблізны ўзрост першай стаянкі чалавека, выяўленай археолагамі каля сяла Каралёва

**863** — прыняцце хрысціянства. Закарпацце ў той час уваходзіла ў склад Вялікай Маравіі

**896** — на тэрыторыю краю прыйшлі качавыя плямёны венграў

**1010–1020-я** — венгерскі кароль Іштван I Святы далучыў рэгіён да сваёй дзяржавы

**1541** — туркі захапілі цэнтральную Венгрыю, большая частка Закарпацця апынулася пад асманскім ярмом

**24 красавіка 1646** — у Ужгарадзе заключана царкоўная унія паміж праваслаўем і каталіцтвам

**26 студзеня 1699** — паводле ўмоў Карлавіцкай мірнай дамовы Венгрыя і Трансільванія (а адпаведна, і тэрыторыя Закарпацця) пераходзілі ад Асманскай да Аўстрыйскай імперыі

**1867** — ствараецца дуалістычная Аўстра-Венгерская імперыя, Закарпацце ў яе складзе робіцца часткай Венгерскага каралеўства

**1918–1919** — Аўстра-Венгерская імперыя распадаецца

**10 верасня 1919** — паводле ўмоў Сен-Жэрменскай мірнай дамовы Закарпацце ўключана ў склад Чэхаславацкай Рэспублікі, дзе стала называцца «Падкарпацкай Руссю»

**2 кастрычніка 1938** — абвешчана незалежная дзяржава пад назвай «Карпацкая Украіна»

**Сакавік 1939** — тэрыторыя «Карпацкай Украіны» анексаваная Венгрыяй

**Лістапад 1944** — тэрыторыю Закарпацця занялі савецкія войскі

**29 чэрвеня 1945** — у Маскве падпісана савецка-чэхаславацкая дамова, паводле якой Закарпацкая Украіна адыходзіла да СССР

**22 студзеня 1946** — утворана Закарпацкая вобласць у складзе Украінскай ССР

**1991** — Украіна набывае дзяржаўную незалежнасць

## Селменцы і іншыя

У адну з раніц 1945 года суседзі па закарпацкай вёсцы Селменцы нечакана прачнуліся ў дзвюх розных дзяржавах: СССР і Чэхаславакіі. Да Краіны Саветаў адышла траціна сяла (каля 300 дамоў), на чэхаславацкім баку апынулася большая яго частка (каля 600 дамоў). Так траціна селмянчан уваднача стала ўкраінцамі, а іншыя дзве траціны — славакамі. Прытым што большасць жыхароў вёскі былі этнічнымі венграмі. Пераход з адной часткі сяла ў другую для яго жыхароў (нават найбліжэйшых сваякоў) стаў немагчымы. Калі ў адным з сёлаў было пахаванне, то працэсія з нябожчыкам падыходзіла да калючага дроту, а з другога боку людзі стаялі моўчкі, зняўшы шапкі. Пасля кароткай паўзы бакі разыходзіліся. Каб паведаміць навіны, перакідалі цераз граніцу курэй з прывязанымі пад крыламі цыдулкамі. Бабулі назіралі з-за дроту, як растуць іх унукі…
Сітуацыя палепшала толькі ў 2005 годзе, калі Украіна са Славакіяй дамовіліся пра адкрыццё пешаходнага перахода паміж дзвюма дзяржавамі. Гэта нарэшце дало магчымасць злучыць дзве часткі раней адзінага сяла.
Селменцы — не адзінае падзеленае сяло. На мяжы з Румыніяй па розныя бакі ракі Ціса ёсць яшчэ Цячаў і Малы Цячаў (Тесеu Mic), Луг і Луг-над-Цісаю (Lunca la Tisa), Вялікі Бычкаў і Бачкою-Марэ (Bocicoiu Mare). У савецкія часы тут былі тыя ж праблемы — труну з памерлым неслі да Цісы, каб з таго боку сваякі маглі развітацца, а ездзіць у госці адзін да аднаго (калі ўдавалася атрымаць дазвол) даводзілася праз горад Вадул-Сірэт на Букавіне. Што складала ў адзін бок 550 км!

▶ Падчас аўстрыйскага панавання ў Закарпацці расквітнела Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква. Гэта, аднак, была не тая самая унія, якая пашыралася ў той час і ў Беларусі. Яна была заключана не ў Брэсце ў 1596 годзе, а ў Ужгарадзе ў 1646-м у выніку рашэння 63 мясцовых праваслаўных святароў, якія прызналі перавагу Папы Рымскага, але захавалі візантыйскую абраднасць.

### Ад «Вясны народаў» да Падкарпацкай Русі

Не ўсе былі задаволеныя аўстрыйскімі парадкамі. Асабліва востра гэта праявілася ў 1848–1849 гады падчас агульнаеўрапейскай рэвалюцыі — так званай «Вясны народаў». Венгерская інтэлігенцыя тады захапілася ідэямі свабоды, роўнасці, братэрства. І незалежнасці Венгрыі. У той жа час русіны-ўкраінцы, якія складалі большасць насельніцтва Закарпацця, трымаліся пераважна ўбаку ад гэтага паўстання, захоўваючы лаяльнасць Вене.

Рэвалюцыя была задушана аўстрыйскімі ўладамі пры дапамозе расійскіх войскаў. Але адным з вынікаў паўстання было абвяшчэнне ў Ужгарадзе 27 сакавіка 1848 года «Закона аб ліквідацыі прыгоннага права і феадальнай павіннасці сялян».

Праўда, скасаванне прыгону становішча сялян палепшыла не надта. Яны маглі мець уласную зямлю, але пашы ды лясы засталіся ўласнасцю магнатаў, і за карыстанне імі плаціліся немалыя падаткі. Да гэтага дадалося высяканне лясоў, якое выклікала рэгулярныя моцныя паводкі. Усё гэта змушала мясцовых сялян масава эміграваць за акіян. Дагэтуль у ЗША існуе вялікая «русінская дыяспара», з яе выйшаў і Андрэй Варгола — славуты майстар поп-арту Эндзі Уорхал.


SHUTTERSTOCK.COM, BY MYKOLA IVASHCHENKO

## Драўляныя храмы

Асабліва цікавыя старажытныя храмы ў розных стылях: гуцульскім, барочным, гатычным... Сёння ў Закарпацкай вобласці налічваецца 110 драўляных цэркваў. Сярод іх асабліва цікавыя: царква Святога Велікамучаніка Дзмітрыя ў Альховіцы (XVII стагоддзе), царква Святога Духа ў сяле Гуклівае, храм Раства Прасвятой Багародзіцы ў сяле Піліпец.

Малая радзіма ягоных бацькоў, праўда, апынулася па-за межамі сучаснага Закарпацця, на ўсходзе Славакіі, але гістарычна гэта быў адзін рэгіён.

Першая сусветная вайна прывяла ў 1918 годзе да распаду Аўстра-Венгерскай імперыі, а адначасова дала шанц многім народам на атрыманне ўласнай незалежнасці. Не засталіся ўбаку і закарпацкія ўкраінцы. У 1919 годзе ўкраінскія закарпацкія дзеячы арганізавалі ў горадзе Хуст з'езд, на якім заявілі пра жаданне далучыцца да Украіны. Але ў той час Закарпацце было ўжо падзеленае: усход акупавалі румынскія войскі, захад — чэхаславацкія, а зона, дзе жыло найбольш венграў, сённяшні Берагаўскі раён, знаходзілася пад кантролем Будапешта. У выніку баёў і дыпламаты Закарпацце ўрэшце ўключылі ў склад Чэхаславаччыны.

У ЗША рада эмігрантаў Закарпацця і палітычны лідар ▶





**Царква ў Калодным.** Упершыню збудавана ў 1470 годзе, перабудавана ў XVI стагоддзі. Агульны выгляд і яе ганак.

WIKIMEDIA COMMONS



## Даліна нарцысаў

Даліна, дзе растуць маляўнічыя нарцысы вузкалістыя — дзікія, высакагорныя, — знаходзіцца за 4 км ад горада Хуст. Увогуле, нарцысы растуць у Альпах, на Балканах і ў Карпатах высока ў гарах. Унікальнасць закарпацкай нарцысавай даліны — вышыня тут усяго толькі 180–200 м над узроўнем мора. На думку навукоўцаў, у выніку раставання ледавіка з гор некалі споўз вялікі кавалак зямлі з рэдкімі раслінамі.



Аляксандр Духновіч. 1865 год.

## Масквафільства і русінства

Цікавым феноменам Аўстра-Венгерскай імперыі было шырокае развіццё тут ідэйнай плыні «русафільства», ці «масквафільства».

Абуджаючыся разам з іншымі паняволенымі народамі і адчуваючы сваю яўную адметнасць ад чэхаў, славакаў ці палякаў, частка мясцовай «рускай» інтэлігенцыі не хацела развіваць уласную ідэнтычнасць на падставе мясцовых мовы і культуры. Больш прывабнай падалася ідэя, што мясцовыя русіны з'яўляюцца часткай вялікага расійскага народа, а мясцовая гаворка — адзін з рэгіянальных варыянтаў расійскай мовы. Таму варта перадусім вывучаць і папулярызаваць літаратурную расійскую мову, а таксама пашыраць расійскую свядомасць.

У другой палове XIX стагоддзя гэтая ідэалогія была вельмі папулярная ў Галіччыне, на Букавіне і Закарпацці. Мясцовыя дзеячы мелі на гэтым шляху і пэўныя лакальныя поспехі, хоць у выніку «масквафільства» гістарычную спрэчку з украінскай ідэяй прайграла. Гісторык Яраслаў Грыцак лічыць, што прайграла перадусім таму, што на «ўкраінскім баку» з'явіўся геній — журналіст і пісьменнік Іван Франко.

Пра Івана Франко чытайце больш у кнізе: **Ярослав Грицак. Пророк у своїй вітчизні** (на ўкраінскай мове)

Парадаксальна, але менавіта ў найбольш аддаленым ад Расіі Закарпацці «масквафільства» знайшло самую прыдатную глебу. Ягонымі паслядоўнымі прыхільнікамі былі аўтарытэтныя мясцовыя дзеячы — Аляксандр Духновіч (1803–1865) і Адольф Дабранскі-Сачураў (1817–1901). Яны здолелі закласці на сваёй радзіме настолькі моцную русафільскую традыцыю, што гэтая ідэйная плынь захавала свае пазіцыі і праз стагоддзе.

Яшчэ ў часы міжваеннай Чэхаславакіі на Падкарпацкай Русі дзейнічала ўплывовае Рускае культурна-асветніцкае таварыства імя Аляксандра Духновіча. Яго членамі былі мукачаўскі грэка-каталіцкі епіскап, стараста (мэр) Мукачава, дырэктары гімназій і семінарый, прафесары, святары, настаўнікі. Былі ў Закарпацці і расійскамоўныя пісьменнікі, выходзілі перыядычныя выданні па-расійску. Русафілы вялі непрымірымае змаганне з украінскай ідэяй, якая развівалася тут паралельна. У 1932 годзе ў Мукачаве адбыўся «Усенародны карпата-рускі кангрэс», які прайшоў пад лозунгамі «Хай жыве расійская мова!» і «Далоў украінцаў!».

Прыход у 1945 годзе савецкай улады закарпацкая русафільская інтэлігенцыя збольшага вітала. Пры гэтым некаторыя з іх непрыхільна прынялі далучэнне да УССР, жадаючы ці асобнай рэспублікі, ці далучэння да РСФСР. Але ніхто іх, натуральна, не пытаўся. Таварыству імя Духновіча пры саветах нават не дазволілі працягваць дзейнасць.

За дзесяцігоддзі ў складзе УССР, а пасля незалежнай Украіны русафільская ідэалогія страціла тут колішні ўплыў. Але і сёння мясцовая свядомасць мае асаблівасці. Як у ніякім іншым рэгіёне Украіны, тут атрымала развіццё мясцовая рэгіянальная ідэнтычнасць у форме «русінства». Найбольш радыкальныя прыхільнікі гэтай ідэалогіі лічаць сябе асобным ад украінцаў народам і сярод іншага імкнуцца развіваць у якасці літаратурнай мовы мясцовую гаворку. «Русінства» неаднароднае, яно мае ўнутры сябе розныя плыні, у тым ліку і прарасійскую. Які будзе лёс гэтага праекта — пакажа час.

▶ Чэхаславакіі Томаш Масарык падпісалі пагадненне, адной з умоў якога было наданне Закарпаццю статуса аўтаноміі з назвай Падкарпацкая Русь. Але рэальнай аўтаноміі чэхі так рэгіёну і не далі, адно толькі афіцыйна замацавалі за ім гэтую назву. Праўда, у Падкарпацкую Русь увайшлі не ўсе землі, населеныя русінамі-ўкраінцамі. Частка краю на поўдзень ад ракі Цісы адышла да Румыніі. У той жа час да Падкарпацкай Русі далучылі паласу этнічна венгерскіх тэрыторый, праз якія праходзіла чыгунка.

## Дух ускраіны

Знаходжанне Закарпацця ў складзе Чэхаславакіі нярэдка называюць «Залатым векам». Фермеры тады расквітнелі, у гарадах выраслі новыя кварталы. У Ужгарадзе, напрыклад, паўстаў квартал Малая Прага, дзе жылі пераважна чэшскія чыноўнікі.

Пасля былі ганебныя мюнхенскія пагадненні 1938 года, Чэхію анексавала Германія, а на тэрыторыі Славакіі была створана падкантрольная немцам самастойная дзяржава. Палітычныя лідары Падкарпацкай Русі таксама вырашылі дзейнічаць і 11 кастрычніка 1938 года абвясцілі пра стварэнне незалежнай Карпацкай Украіны. Сабралі добраахвотніцкае войска — «Карпацкую сеч», якая налічвала каля 5 000 байцоў. Але процістаяць венгерскай арміі яны не здолелі. Ужо 2 лістапада 1938 года венгры акупавалі большую частку Закарпацця. А неўзабаве Адольф Гітлер пагадзіўся аддаць Будапешту ўвесь гэты край. Нягледзячы на ўзброены супраціў украінцаў, венгерскія войскі ўвайшлі ў Хуст, сталіцу Карпацкай Украіны, 14 сакавіка 1939 года. Украінскаму ўраду Аўгусціна Валошына давялося эміграваць.

Да 1944-га Закарпацце ўваходзіла ў склад Венгрыі. Пасля таго як венгерскі ўрад паспрабаваў «выйсці з нямецкай гульні», вясной 1944-га Закарпацце, як і Венгрыю, акупавалі гітлераўскія войскі. Гэта азначала катастрофу для мясцовых ▶

## Тэрмальныя басейны

Пласт вулканічнай магмы з зямных глыбінь цалкам натуральным чынам падаграе ваду. Праз узаемадзеянне з кіслародам яна набывае «ржавы» колер. Спецыфічны колер і пах абумоўленыя наяўнасцю серавадароду, які на паверхні акісляецца і раскладаецца. Размешчаныя тэрмальныя басейны (крытыя і адкрытыя) у горадзе Берагава, сяле Косіна (Берагаўскі раён), а таксама ў сяле Вяляціна (каля горада Хуст) ды ў горадзе Вінаградаў (санаторый «Цяпліца»).

## Замак Сэнт-Міклаш

Пабудаваны ў XV стагоддзі ў сяле Чынадзіева ў Мукачаўскім раёне ў 1670 годзе замак трапіў ва ўласнасць найуплывовейшай у Венгрыі сям'і Ракацы. Прадстаўніца гэтага роду Ілона Зрыні закахалася тут у свайго другога мужа, кіраўніка антыгабсбургскага руху Імрэ Тэкелі, на 13 гадоў за сябе маладзейшага. Паддаўшыся ўсёахопнаму каханню, найбагацейшая жанчына краю кінула ўсё і выехала з каханым за мяжу.

## Замак Паланак (на фота)

Замак на гары ўзвышаецца на 68 м над горадам Мукачава. Таўшчыня бастыёнаў дасягае 3,5 м.

## Замак-палац графа Шэнбарна

Унікальны палац, а каля яго — сажалка, якая па форме супадае з межамі былой Аўстра-Венгерскай імперыі. У будынку цяпер размясціўся санаторый «Карпаты». Ёсць і крыніца з вадой, якая змяшчае трохі гліцэрыну і таму мае «амаладжальны эфект».



**Возера Сінявір**

Вядомаму возеру каля 10 000 гадоў (з гледзішча навукі, яно не такое ўжо і старое). Возера размешчана пад гарой Азёрнай (1495 м), на вышыні 989 м над узроўнем мора.

**Вадаспад Шыпіт (на фота)**

На рацэ Плошанка каля вёскі Пiлiпец — вядомага лыжнага курорта і маўнтбайк-парку. Агульная вышыня вадаспаду — 15 м.


SHUTTERSTOCK.COM, BY IRYNA NAZAROVA

яўрэяў, іх вывезлі ў Аўшвіц. А ўжо восенню 1944-га ў Закарпацце ўступіла Чырвоная армія. Спачатку сюды вярнулася чэхаславацкая адміністрацыя, але ў 1945-м Чэхаславакія і СССР падпісалі дамову аб перадачы Закарпацця СССР. У пачатку 1946-га была створана Закарпацкая вобласць з цэнтрам у горадзе Ужгарад.

Да 1991 года Закарпацце знаходзілася ў складзе СССР, традыцыйна для сябе з'яўляючыся ўскраінай дзяржавы — гэтым разам заходняй для Краіны Саветаў.

### У чым Закарпацце самае-самае

- гэта мясцовасць Украіны, дзе найчасцей праходзяць навальніцы (асабліва ў паселішчах Вялікі Беразны і Рахаў, дзе ў год бывае да 43 дзён з навальніцамі);
- тут знаходзіцца (праўда, толькі часткова) найвышэйшая гара Украіны — Гаверла (2061 м над узроўнем мора);
- гэта найбольш заснежаная мясцовасць Украіны (у сяле Руская Мокрая снег ляжыць 116 дзён на год);
- тут знаходзіцца найбольшае горнае возера Украіны (Сінявір);
- тут месціцца найглыбейшая лячэбная ўстанова Украіны — алергалагічная клініка ў гарадскім пасёлку Салотвіна, у саляной шахце на глыбіні 300 м;
- тут граюць на найдаўжэйшым у свеце музычным інструменце — трэмбіце, якая дасягае 4 метраў. Трэмбіта апавяшчала пра выхад авечак на паланіну, адыход чалавека на той свет ці нараджэнне ў сям'і дзіцяці. Пры яе дапамозе запрашалі на вяселлі. Трэмбіта была адзіным сродкам сувязі пастуха-аўчара з сялом;
- тут знайшлі найстаражытнейшую ў Цэнтральнай Еўропе стаянку чалавека — у сяле Каралёве;
- гэта самае паўночнае месца ў свеце, дзе вырошчваюць чай — гара Красная Горка каля горада Мукачава;
- тут месціцца найдаўжэйшая ў Еўропе (2,2 км) ліпавая алея — у Ужгарадзе, на набярэжнай Незалежнасці. ◆


SHUTTERSTOCK.COM, BY TIMOLINA

### Закарпацкая кухня

Кухня краю спалучыла стравы розных народаў. Беларусам тут будуць асабліва цікавыя стравы з венгерскай кухні, якая для нас экзатычная.

**Бограч (на фота ўверсе)** — духмянае варыва з мяса, гародніны ды вострых прыпраў. Венгерская нацыянальная страва. Яе назва перакладаецца як «казан». Гэта была ежа колішніх качэўнікаў, якая ў казанах і варылася.

**Боб-левеш** — наварысты венгерскі суп, які гатуюць з фасолі, вэнджаных свіных рэбраў і хатняй каўбаскі. Да стравы часта асобна падаюць прыправу з чырвонага перцу, майце гэта на ўвазе.

**Банаш (на фота ўнізе)** — кукурузная каша, якая варыцца на смятане (!). Падаюць банаш са скваркамі, брынзаю, вэнджаным салам, смажанаю цыбуляй ці белымі грыбочкамі.

Ёсць яшчэ адна падобная страва — **такан**. Яна таксама з кукурузных крупаў, толькі варыцца каша на вадзе...

**Рокат-крумплі** — бульба, якую адварваюць у мундзірах, а потым запякаюць у смятане з каўбаскамі, яйкамі і сырам.

**Піканіца** — даволі вострая хатняя каўбаса.

**Крэмзлікі** — дранікі, але не простыя, а з начынкаю з баравікоў.


SHUTTERSTOCK.COM, BY ALP AKSOY

# Забытае золата

**Каноплі, некалі вядомая кожнаму селяніну культура, сустракаюцца сёння толькі на старонках крымінальнай хронікі. Некаторы час таму ў СМІ нават прагучала прапанова забараніць выявы канопляў у сеціве, на кашульках і кепках. А некалі ж каноплі былі галоўным экспартным таварам Беларусі. Піша гісторык Андрэй Вашкевіч.**

## «Ой, расціце, канапелькі, вы не густа і не рэдка»

У пачатку XIX стагоддзя экспартныя тавары вывозіліся з нашага краю па рэках. Калі сыходзіў лёд, па высокай вадзе віціны, паўвіціны і платы везлі да мора збожжа, крупы, тытунь, гарэлку, паташ, вугаль, сала, ільняны алей і... пяньку. Вывозілі не толькі пяньку-сыравіну, але і рагожу — грубую тканіну з пянькі, — і пяньковыя мяшкі, і пяньковую паклю...

**Каноплі** (лац. *Cannabis*) — аднагадовая травяністая расліна. Існуюць тры падвіды: каноплі пасяўныя, каноплі індыйскія і каноплі пустазельныя. У Беларусі культываваліся каноплі пасяўныя (лац. *Cannabis sativa*), пашыраныя ў Еўропе і Цэнтральнай Азіі. Каноплі могуць дасягаць вышыні да 4 м. Сцябло ў іх прамое, пакрытае залозістымі валаскамі. Існуюць мужчынскія асобіны — маніцы і жаночыя — мацёркі. Адрозніць іх можна па кветках. Кветкі маніц у мяцёлчатых суквеццях, мацёрак — у галоўчатых. Плод канопляў — аднанасенны арэшак. У гаспадарцы каноплі выкарыстоўваюцца як лубнавалакністая, алейная і прадзільная расліна. Яны даюць валакно — пяньку. З насення атрымліваюць алей, канапляная макуха — каштоўны корм для жывёлы, а з канаплянай кастрыцы вырабляюць паперу і будаўнічыя матэрыялы.

### Наш унёсак у магутнасць брытанскага флоту

Што ж гэта за пянька, якая пастаянна сустракаецца ў гандлёвай статыстыцы? Гэта паўфабрыкат, які атрымліваюць з канапляных сцяблін шляхам часання і трапання. Падобным чынам апрацоўваецца і лён.

Пяньку выкарыстоўвалі для вяровак, канатаў, палавікоў, дарожак, мяшкоў, дадавалі ў шарсцяныя і льняныя тканіны. Калі прамысловая магутнасць Англіі грунтавалася на авечках і воўне, то багацці Расійскай імперыі — на пяньцы. Дзяржава спачатку мела манаполію на гандаль пянькой, а пасля брала з гандлю вельмі высокія падаткі. У эпоху ветразевага мараплавання пянька была стратэгічным таварам: на абсталяванне 44-гарматнага вайсковага фрэгата ішло да 60 тон канатаў і вяровак з пянькі.

Галоўным спажыўцом канапляных вяровак была Вялікабрытанія. Канапляныя валокны вельмі ўстойлівыя да салёнай вады, таму маракамі вырабы з іх цаніліся вельмі высока. Канаты круцілі з беларускай пянькі ўжо на Туманным Альбіёне, дадаючы да іх толькі адну чырвоную нітку з англійскай воўны. Па той нітцы адразу было бачна: канат з'яўляецца ўласнасцю брытанскага ваенна-марскога флоту. З гэтай чырвонай ніткі і пайшоў літаратурны выраз, што недзе «чырвонай ніткай праходзіць нейкая там ідэя».

Гандаль пянькой з Расіі, Беларусі і Украіны меў настолькі важнае значэнне, што нават у Тыльзіцкай дамове 1807 года паміж Расіяй і Францыяй Напалеон падкрэсліў: Расія не павінна гандляваць пянькой з Вялікабрытаніяй. У выніку за чатыры гады ў Расіі ўзнік дэфіцыт бюджэту ў 150 мільёнаў залатых рублёў. Гэта рабіла вайну 1812 года непазбежнай: калі б Напалеон не пайшоў на Расію сам, яго атакаваў бы Аляксандр I.

### Ад росквіту да заняпаду

Беларусы вырошчвалі каноплі з даўніх часоў. З канаплянага семя цiснулі алей, а з канапляных


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Жанчыны апрацоўваюць каноплі** ў адным з беларускіх калгасаў. 1950-я гады.

Шляхператварэння канапель у пяньку, цяпер ужо забыты, застаўся ў народных песнях. Вось, напрыклад, з Барысаўшчыны:

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Пасеяці канапелькі абяцаўся.
Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелькі браць абяцаўся.
Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелькі мачыць абяцаўся.
Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелькі мяць абяцаўся.
Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелькі віць абяцаўся.
— Ты кума, ты душа,
Ты кругом хараша.

валокнаў ткалі грубую тканіну. Доўга пянька служыла і ў вайсковай справе. Гэта быў танны і лёгкі даспех (пяньковая вяроўка нашывалася на вопратку), які мог абараніць ад удару шаблі і нават стрымаць кулю. У 1855 годзе, абараняючы Севастопаль, расійскія маракі закрывалі ўмацаванні пяньковымі канатамі, знятымі з караблёў.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя канапляводства было важнай сферай сельскай гаспадаркі. У Клінцах на Браншчыне, на мяжы з Беларуссю, працаваў нават канапляводчы (пяньковы) тэхнікум. Некалькі ўсходніх паветаў Магілёўскай губерні — Чэрыкаўскі, Клімавіцкі, Быхаўскі — трымаліся галоўным чынам на вытворчасці льнянога алею ды пянькі.

У савецкі час выдатным канапляводам выдавалі спецыяльныя значкі, друкавалі плакаты з іх партрэтамі. Па стане на 1956 год СССР займаў першае месца ў свеце па вырошчванні канопляў. Асноўнымі раёнамі канапляводства былі цэнтральныя нечарназёмныя рэгіёны РСФСР, асабліва Мардоўская АССР. Але і ў калгасах БССР каноплі таксама вырошчвалі дастаткова інтэнсіўна, хоць чым далей, тым іх вытворчасць няўхільна падала. Да паступовага заняпаду канапляводства спрычыніліся наплыў таннай бавоўны з Сярэдняй Азіі, агульны заняпад сельскай гаспадаркі ў цэнтральных рэгіёнах СССР, а таксама, што асабліва важна, — распаўсюджанне на нашых землях раней незнаёмых індыйскіх канопляў, якія некаторыя вучоныя лічаць асобным відам гэтай расліны. Справа ў тым, што індыйскія каноплі ўтрымліваюць у 20–30 разоў больш псіхатропных рэчываў, чым звычайныя «пасяўныя», таму іх актыўна пачалі выкарыстоўваць для курэння як наркотык.

**У эпоху ветразевага мараплавання канапляная пянька была стратэгічным таварам**



**Прапагандысцкі плакат** Леаніда Замаха. 1954 год.

Усходнія паветы Магілёўскай губерні — Чэрыкаўскі, Клімавіцкі, Быхаўскі — трымаліся на вытворчасці канаплянага алею ды пянькі

У прыватных гаспадарках пасля Другой сусветнай вайны вырошчванне канопляў ужо было рэдкасцю — мяшкі ды вяроўкі стала пастаўляць савецкая прамысловасць. Дый разгуляцца на дазволеных дзяржавай невялікіх прысядзібных участках ды сотках не было як — каб хапіла месца хоць пад бульбу і гародніну. Але цікава, што яшчэ ў 1960-х гадах на Гродзеншчыне вырошчвалі каноплі для вырабу... рыбалоўных сетак.

### Ці чакаць адраджэння?

Яшчэ ў савецкія часы з-за выкарыстання ў якасці наркотыку вырошчванне канапель прыватнымі асобамі стала незаконным. Дзяржаўныя ж пасевы пад звычайныя каноплі скараціліся за трыццаць гадоў аж у сем разоў. Але сёння цікавасць да пасяўных канопляў як тэхнічнай культуры патроху адраджаецца. Ужо больш за дзесяць гадоў у Расіі і Украіне афіцыйна дазволена вырошчваць пасяўныя каноплі — праўда, толькі спецыялізаваным гаспадаркам і пад адпаведным наглядам. На канапляны алей, пяньку на канаты, тканіны з выкарыстаннем канапляных нітак ізноў ёсць попыт.

У аграрных ВНУ і каледжах адчыняюцца спецыяльнасці канапляводаў. Вытворцы падкрэсліваюць экалагічнасць, гіпаалергеннасць і шматлікасць кірункаў выкарыстання канопляў. Пянька выкарыстоўваецца ў вытворчасці цэментнавалакністых пліт, брызентаў высокай якасці, высакаякаснай паперы і нават грошай. У Беларусі ж пакуль цалкам забаронена вырошчваць і каноплі, і снатворны мак. Але беларускія навукоўцы пра каноплі памятаюць і гавораць, што самы час вярнуць пасяўныя каноплі і нам. Інакш суседзі зоймуць увесь перспектыўны рынак гэтай не менш важнай, чым лён, расліны, а мы, спазніўшыся, будзем кусаць локці. ◆

**Будучы нясвіжскі ардынат Альбрыхт Радзівіл** з будучым давыд-гарадоцкім ардынатам Каралем Радзівілам з маленства гулялі ў тэніс.

# Тэніс
## спорт Радзівілаў

**Назіраючы трыумф беларускіх тэнісістаў Вікторыі Азаранка і Максіма Мірнага на Алімпіядзе 2012 года ў Лондане, я задумаўся: а калі ў нас у Беларусі з'явіўся першы тэнісны корт? І наогул, дзе шукаць вытокі алімпійскіх відаў спорту ў Беларусі? Піша гісторык з Нясвіжа Уладзімір Караленак.**

ГАЛОЎНЫ АРХІЎ СТАРАЖЫТНЫХ АКТАЎ У ВАРШАВЕ

Вядома, што ў канцы XIX стагоддзя спорт з захаплення арыстакратаў і багацеяў пачаў пераўтварацца ў справу для ўсіх. Нават беларускі селянін пачаў знаходзіць час для заняткаў спортам. Хоць фізічныя гульні былі ў беларусаў здаўна. Этнографы захавалі такія назвы, як гуські (зімовая гульня), апука (сялянскі бейсбол), гула (камандная гульня).

І ў беларускіх арыстакратаў былі свае гульні. У адну з іх, *pallone col bracciale*, ці ў перакладзе з італьянскай «мяч з бранзалетам», дакладна гулялі і нашы Радзівілы. З'явілася гульня ў XVI стагоддзі ў Італіі і патрабавала ад гульцоў умення карыстацца асаблівым драўляным бранзалетам, якім трэба было адбіваць мяч. Адзін з радзівілаўскіх камплектаў для гульні захаваўся да нашага часу, і я не здолеў адмовіць сабе ў задавальненні выкарыстаць яго па прызначэнні.

Гульня была надзвычай папулярная ў Еўропе, а прафесійныя гульцы зараблялі больш, чым сённяшнія топавыя тэнісісты і футбалісты. Але менавіта з-за папулярнасці тэніса і футбола ў першай палове XX стагоддзя *pallone col bracciale* знікае. Сучаснаму чалавеку ўжо прыходзіцца паламаць галаву над тым, што гэта за дзіўны камплект супергероя.

### Літаратура як спорт

Пасля віхуры напалеонаўскіх войнаў эпоха вялікіх паркаў пад Нясвіжам адышла ў нябыт. Толькі маўклівыя старажытныя дубы ўспаміналі пра святкаванні ў гонар апошняга караля Рэчы Паспалітай і прагулкі расійскага імператара Аляксандра І у Завушшы. Ды, можа, яшчэ старая таполя на дарозе ад Паповай горкі да замка нагадвала пра былыя часы, прыгорбіўшыся на краёчку эпохі. Не засталося і знаку ад парку тыпу квінкункс насупраць замка.

Між тым каля спусцелага замка віравала жыццё. Тут праходзілі знакамітыя кірмашы, куды збягаў з працы малады Людвік Кандратовіч, супрацоўнік ляснога аддзела радзівілаўскай адміністрацыі. Тут, сярод крамак, раіліся, як пчолы, гісторыі з усёй акругі. Пажылы архіварыус нясвіжскага архіва Рамуальд Сымановіч смяяўся, слухаючы пераказы анекдотаў з вуснаў будучага пісьменніка, і ўважліва прыглядаўся да яго замалёвак наваколля. Хто ж ведаў тады, што гісторыі радзівілаўскага стажора-юрыста праславяць яго як вялікага пісьменніка Уладзіслава Сыракомлю. Магчыма, пазней прыязджаў сюды з бацькам — галоўным арандатарам маёнткаў нясвіжскай ардынацыі Люцыянам Неслухоўскім — і малады Іван, будучы паэт Янка Лучына. А пра тое, што ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі вучыўся Канстанцін Міцкевіч — класік беларускай літаратуры Якуб Колас, — нагадвае яго бюст на алеі памяці побач з замкам. ▶

**Усяго праз дваццаць гадоў пасля стварэння першага корта для тэніса такі ж корт з'явіўся ў Нясвіжы**





Аўтар артыкула паспрабаваў **згуляць у мяч з бранзалетам.**



**Гульцы ў мяч з бранзалетам (pallone col bracciale)** у парку на пачатку XVII стагоддзя.

**Квінкункс** — пасадка дрэў у шахматным парадку або ў выглядзе ігральнай косці пяцёркі.

Для Радзівілаў было вельмі важным уменне добра кіраваць канём. Многія з іх маглі скакаць па валах нясвіжскага замка з заплюшчанымі вачыма. **Для практыкаванняў у верхавой яздзе ў парку высаджвалі купкі дрэў**, гэта добра бачна на здымку з аэраплана 1927 года.

ІНСТЫТУТ СЛАВІСТЫКІ ПОЛЬСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Але Нясвіж слаўны не толькі тым, што натхняў паэтаў ды літаратараў. Нясвіж — гэта самы спартыўны заштатны горад Мінскай губерні XIX стагоддзя!

Мы нездарма зрабілі такі рэверанс у бок дзеячаў культуры! Мала хто ведае, але з 1912 да 1948 года на Алімпіядах узнагароджвалі не толькі спартсменаў. Галоўным пажаданнем бацькі алімпійскага руху барона П'ера дэ Кубертэна было гарманічнае спалучэнне спорту з мастацтвам. Менавіта таму ён прапанаваў увесці ў праграму Алімпійскіх гульняў мастацкія конкурсы. Разыгрываліся камплекты медалёў сярод архітэктараў, літаратараў, музыкаў, мастакоў і скульптараў. Дарэчы, сам П'ер дэ Кубертэн атрымаў залаты медаль па літаратуры за сваю «Оду спорту».



З 1900 па 1936 год у праграму Алімпійскіх гульняў уваходзіла коннае пола. Яго вялікім аматарам быў **князь Леан Канстанцін Радзівіл — прадстаўнік французскай галіны роду (на партрэце).** У гонар Леана Канстанціна перад Першай сусветнай вайной у Канах нават праводзіўся турнір па конным пола.

## Радзівілы садзяць паркі і займаюцца спортам

Але вернемся ў Нясвіж! У 1870-х, пасля доўгага перапынку, тут ізноў з'явіліся Радзівілы. Нібы птушкі, вылецелі яны са свайго шматгадовага гнязда — палаца ў Берліне, дзе жалезнай рукой кіраваў трынаццаты нясвіжскі ардынат Вільгельм Радзівіл. Пасля яго смерці ў 1870 годзе маладыя прадстаўнікі роду накіраваліся ў свае забытыя маёнткі на Беларусі і Украіне.

Гэтым скарыстаўся германскі канцлер і кіраўнік МЗС Ота фон Бісмарк, які доўгія гады тачыў зубы на берлінскія ўладанні Радзівілаў, бо радзівілаўскі парк разразаў клінам на дзве часткі парк яго міністэрства. Парк выкупіла дзяржава. А ў Нясвіжы пра тыя часы нагадвае непрыкметны камень ля ўвахода ў парк. На ім напісана, што першыя саджанцы былі прывезены з берлінскага парку Радзівілаў.

Зразумела, шукалі саджанцы таксама ў беларускіх лясніцтвах, аб гэтым сведчаць мемуары Марыі Дароты Радзівіл, жонкі XIV нясвіжскага ардыната Антонія Вільгельма. Гэтыя першыя дрэўцы — прадвеснікі будучага выдатнага парку — можна пабачыць на карціне Напалеона Орды. Менавіта дзякуючы Марыі Дароце вакол замка з'явіліся паркі, па якіх турысты



ГАЛОЎНЫ АРХІЎ СТАРАЖЫТНЫХ АКТАЎ У ВАРШАВЕ

шпацыруюць і сёння. Француженка была закаханая ў прыроду і часта сама падбірала расліны для сваіх тварэнняў — паркаў у Нясвіжы, Манькавічах (цяпер частка Століна) і Кленіцах (у гэтай «даліне Радзівілаў» у лукавіне ракі Одры Марыя Дарота правяла свае апошнія гады).

Што такое парк у XIX стагоддзі? Гэта найлепшая пляцоўка для спорту! Лозунгі француза П'ера дэ Кубертэна « О спорт, ты справядлівасць! О спорт, ты гонар! О спорт, ты радасць! О спорт, ты мір! О спорт, ты прагрэс!» былі абсалютна зразумелыя для француженкі Марыі Дароты Радзівіл. У нясвіжскіх парках былі створаны пляцоўкі практычна для ўсіх дысцыплін першых Алімпійскіх гульняў, якія прайшлі ў 1896 годзе ў Афінах.

### Першы тэнісны корт знаходзіўся пры замкавым рове

Нясвіж можна лічыць радзімай беларускага тэніса, бо яшчэ ў 1890-х тут з'явіўся першы тэнісны корт на Беларусі. Як і *pallone col bracciale*, пра якую мы згадвалі ў пачатку артыкула, тэніс — даволі старая гульня, вытокі якой губляюцца ў Сярэднявеччы. У тыя часы ў тэніс гулялі ў памяшканнях. Самыя старыя залы для гульні ў тэніс захаваліся ў англійскіх і шатландскіх палацах XVI стагоддзя. Лаўн-тэніс,


Для самых маленькіх Радзівілаў на стайні жылі поні, на якіх можна было катацца верхам і ў спецыяльных брычках. **На фота маленькія князі Альбрыхт і Караль ды іх поні.**


ГАЛОЎНЫ АРХІЎ СТАРАЖЫТНЫХ АКТАЎ У ВАРШАВЕ

**Маленькі Альбрыхт Радзівіл** катаецца на ровары па нясвіжскіх парках.

альбо па-нашаму тэніс на лужку, з'явіўся толькі ў 1870-я. Мадэрнізацыя, праведзеная англійскім афіцэрам Вальтэрам Клоптанам, дазволіла вывесці яго любімую гульню з душных залаў на свежае паветра. Усяго праз дваццаць гадоў пасля стварэння першага корта для лаўн-тэніса ў Англіі такі ж корт з'яўляецца ў Нясвіжы.

Мяркуючы па фотаздымках, першы корт у Нясвіжы быў тыпу хард, гэта значыць меў грунтавое пакрыццё. Праз сорак гадоў каля яго з'явіўся яшчэ адзін, які выкарыстоўваўся да канца 1930-х. У савецкі час, калі ў нясвіжскім палацы быў створаны санаторый, на гэтай пляцоўцы гулялі ў валейбол.

А першы тэнісны корт знаходзіўся проста каля замкавага рова. У савецкі час ён быў забетанаваны і стаў танцпляцоўкай, а сёння там знаходзіцца летняя кавярня.

### Што яшчэ

Акрамя тэніса, падчас першых Алімпійскіх гульняў у Афінах адбываліся спаборніцтвы па плаванні. Гэты від спорту Радзівілы таксама горача любілі. Каля палаца была купальня — абсталяваны пляж з добрым спускам у ваду і кабінкамі для пераадзявання. А бліжэй да горада мясцоваму яўрэю Фейгільману Радзівілы дазволілі збудаваць купальню для гараджан.

Тут жа, у нясвіжскіх парках, нараджаўся беларускі веласпорт. Па дарожках рассякалі прадстаўнікі роду Радзівілаў, палохаючы гімназістак жаночага вучылішча мадам Розенберг, якія некалькі разоў на тыдзень разам з педагогамі адпраўляліся сюды на прагулкі.

А яшчэ ў нясвіжскіх парках займаліся фігурным катаннем. Доўгі час я не мог зразумець прызначэнне невялічкіх валоў на спартыўнай паляне. Аказваецца, яны служылі бартамі для коўзанкі. Акрамя гэтага, канькабежцы выходзілі трэніравацца на заледзянелыя ставы на рацэ Уша. А летам каталіся тут на лодках.

У часы апошняга нясвіжскага ардыната Леана Радзівіла ў 1936–1937 гадах у палацы з'явілася абсталяванне для гольфа.

Сёння спорт пераўтварыўся з арыстакратычнай забавы ў агульнанацыянальную мару. Мы ганарымся нашымі пераможцамі і з захапленнем назіраем за ўсім, што яны робяць. А алімпійскія прынцыпы сталі сэнсам жыцця для мільёнаў.

З 1896 года алімпійскі спорт прайшоў шлях ад фізічных гульняў аматараў да сапраўднай індустрыі. Але нават калі вы не прэтэндуеце на высокія дасягненні, раю вам гэтым летам узяць ровар і праехацца па сцежках нясвіжскіх паркаў — проста і з усмешкай, як Радзівілы 130 гадоў таму. ◆

Болей пра нясвіжскія паркі чытайце ў кнізе **Уладзіміра Караленка «Нясвіж. Палацава-паркавы ансамбль. Сады і паркі»**.


Прынцыпы сучаснага алімпізму былі сфармуляваныя ў канцы XIX стагоддзя. Новы алімпізм у сваёй пачатковай задуме імкнуўся паставіць спорт на службу гарманічнага развіцця чалавецтва.

# Філосаф Майман з партовай вёскі Жукаў Барок

**Яго лічылі роўным сабе Кант і Фіхтэ, ім цікавіліся Гётэ і Шылер. Яго «Аўтабіяграфію», першую частку якой мы цяпер маем па-беларуску, сучаснікі параўноўвалі з творамі Русо. Пра Саламона Маймана і ягоныя ўспаміны піша Андрэй Скурко.**

Філосаф Саламон Майман (сапраўднае прозвішча — Гайман, 1753–1800) нарадзіўся і першую палову жыцця (23 гады з 46) пражыў у Вялікім Княстве Літоўскім.

«Аўтабіяграфія», выдадзеная дбаннем перакладчыка Мітрафана Патоцкага і рэдактара Антона Бархаткова, розніцца і ад дзённіка народжанай на пакаленне раней Саламеі Пільштыновай, у якім яшчэ бушуе Сярэднявечча, і ад «Літоўскіх абразкоў» Ігнацыя Ходзькі, складзеных на пакаленне пазней і прасякнутых рамантызмам. Гэта твор эпохі Асветніцтва, з яго культам спасціжэння ісціны.

Дзіцячыя і юнацкія гады аўтара прайшлі ў ваколіцах Міра і Нясвіжа. Але карціна жыцця тых ваколіц часам далёкая ад нашых уяўленняў. Вось вёска Жукаў Барок у валоданнях князя Радзівіла: сюды па Нёмане прыплываюць караблі з Кёнігсберга і Прусіі. У вёсцы пару сялянскіх хат ды вадзяны млын, але ёсць «лагістычны цэнтр» — склады для заморскага тавару. Або вёска Магільна, арандатар якой, маючы выдатны карабельны лес за Нёманам, узбагачаўся дзякуючы суднабудаванню.



**Яўрэй, які вяртаецца з сінагогі.** XVIII стагоддзе. Малюнак Яна Пятра Норбліна.




**«У дом маіх бацькоў узялі служанкаю бедную, але надта прывабную дзяўчынку** прыкладна майго ўзросту. Дзяўчынка спадабалася мне надзвычайна. Ува мне прачнуліся жаданні, якіх я дагэтуль не ведаў. Але паводле строгае рабінскае маралі я мусіў сцерагчыся, каб уважліва не паглядзець на дзяўчынку, каб не загаварыць з ёй...

Аднойчы здарылася так, што ўсе жанчыны з дому пайшлі ў лазню, якая паводле мясцовага звычаю ладзіцца пару разоў на тыдзень. А як мой інстынкт падсвядома прыгнаў мяне выпадкова ў тую мясцовасць, дзе была лазня, то я адразу ўгледзеў гэтую прывабную дзяўчынку, як яна з парыльні ўскочыла ў рэчку...

Гэты выгляд прывёў мяне ў захапленне; калі я апрытомнеў, то, памятаючы пра талмудысцкія законы, хацеў бегчы назад, але не мог. Я стаяў на месцы, як аслупянелы».



**Яўрэйская жанчына.** XVIII стагоддзе. Малюнак Яна Пятра Норбліна.

Такое ўражанне, што чытаеш пра Нідэрланды. Для поўнага падабенства не хапала, бадай, свабоды і чалавечых правоў для абсалютнай большасці насельніцтва. А адсюль і супольнай волі да барацьбы за сваю дзяржаву. Гэта была адна з прычын таго, чаму выстаялі Нідэрланды, але заняпала Рэч Паспалітая.

Яўрэйская грамада, у якой гадаваўся аўтар — нават «багатыя» арандатары, — была гэткая ж бяспраўная перад любым панам, як і прыгоннае сялянства. Арэндадаўца быў абавязаны сваім коштам рамантаваць масты і дарогі, але калі карэта чарговага грознага пана ляцела ў раку з гнілога моста, бізуноў атрымліваў бедны арандатар. Не раз яўрэйская сям'я начавала ў хмызняку, чакаючы, пакуль з'едуць абражаныя паны, знішчыўшы арандатарскія запасы ежы і пітва.

У кнізе знаходзіцца месца для апісання адзежы, звычак, элементаў сямейнага выхавання, узаемадачыненняў яўрэяў, сялян ды паноў. Таксама ёсць і шырокі малюнак часу, у якім давялося сталець аўтару.




**Літоўская (беларуская) сялянка.** XVIII стагоддзе. Малюнак Яна Пятра Норбліна.



**Літоўскі (беларускі) селянін**. XVIII стагоддзе. Малюнак Яна Пятра Норбліна.

Разруха ў краіне, страшныя расійскія ваякі, якія спусташаюць маёнткі князя Радзівіла, што далучыўся быў да антырасійскай канфедэрацыі, і могуць схапіць любога на вуліцы за праваднікa, каб здзекавацца з яго і ўрэшце забіць. І сам князь Радзівіл Пане Каханку, які «праз занядбанае выхаванне і брак навучання быў адным з самых распусных князёў, якія калі-небудзь жылі на свеце».

Вялікая частка кнігі прысвечаная тагачаснай яўрэйскай сістэме адукацыі з яе культам Талмуда, дзе «самыя дзіўныя рабінскія выдумкі праводзіліся з вытанчанай дыялектыкай, а найнікчэмнейшыя даследаванні — з найвышэйшым напружаннем духоўных сілаў». Аўтар таксама раскрывае спосабы самаадукацыі, якімі ён карыстаўся. І тут не месца лішняй сціпласці: Майман, умеўшы чытаць толькі яўрэйскія літары, самастойна засвоіў лацінскі алфавіт і навучыўся чытаць па-нямецку.

Кніга напісаная з выдатным гумарам. Гэтая выбуховая сумесь трагічнага і камічнага пазнаецца ў Шалом-Алейхема, Ісака Бабеля, Рамэна Гары, што выйшлі пазней з той самай традыцыі. Перакладзеная беларускай мовай «Аўтабіяграфія» прынясе задавальненне чытачу і дасць магчымасць зірнуць на гісторыю Беларусі з яшчэ аднаго незвычайнага ракурсу. ◆

## Лыжка дзёгцю

У кнізе сустракаюцца прыкрыя памылкі перакладу.

«Польскі гульдэн». Гульдэн у нямецкай мове, з якой перакладаліся ўспаміны, — «залаты», «злоты». У Рэчы Паспалітай хадзілі ўсё ж злотыя, а не гульдэны.

Пра аднаго супляменніка-злыдня знакаміты філосаф нібыта піша: «Гэты тып быў цёмны невук, нават не разумеў жыдоўскае мовы і таму карыстаўся расейскаю». Ой, не мог цёмны невук у XVIII стагоддзі расейскай мовай, жывучы пад Стоўбцамі, карыстацца — тады гэта была тут замежная мова, якую ведалі толькі адукаваныя людзі. А ў арыгінале то мелася на ўвазе мова яўна «руская» — г.зн. у тэрміналогіі таго часу беларуская.

Уніяцкага святара няправільна называць «расейскім папом». «Рускімі» ў той час называлі акурат беларусаў і ўкраінцаў, у адрозненне ад «маскоўцаў», «маскалёў», «расейцаў».

## «Большасць [шляхты] бавіць сваё жыццё ў невуцтве і разбэшчанасці.

Яны выхваляюцца тытуламі і ордэнамі, якія ганьбяць сваімі дзеяннямі, валодаюць шматлікімі маёнткамі, якімі не здатныя кіраваць, варагуюць адзін з адным, праз што каралеўства непазбежна робіцца аб'ектам рабунку суседзяў».

# ТАЛЕРКА Ў АБМЕН НА ЗЁЛКІ



**Пра загадкавую гісторыю блюда з яблыкамі піша Таня Скарынкіна са Смаргоні.**

«Бабуля Марыя Францаўна, маміна мама, «мамуся», прыгожы посуд любіла. Уся вёска Першавозы карысталася яе замежнымі талеркамі на вяселлях і пахаваннях. Паразбіваюць, а бабуля нічога. Набывае новыя.

Нават падчас вайны яна не здраджвала сабе. І калі немцы адкрылі ў Смаргонях нешта накшталт нарыхтоўчай канторы — абменьвалі талеркі, кубкі, філіжанкі, сподачкі на лекавыя травы, бабуля адправіла дзяцей збіраць чабор. Цэлы мех адпёрла ў горад. І атрымала рэдкай прыгажосці парцалянавае блюда ў слівы і яблыкі.

А вясковая суседка Юлька, якая таксама хадзіла з бабуляй у горад, абмяняла мех ліста брусніцы на блюда, падобнае да бабулінага, але ў агуркі. Мама ўдакладняе: «Маладыя такія, з пупырышкамі. І мамуся сумнявалася, ці трэба было браць у агуркі, а не ў яблыкі. А мы супакойвалі: яны аднолькава прыгожыя, не перажывай».

**Немцы адчынілі ў Смаргонях нарыхтоўчую кантору: мянялі лекавыя травы на посуд. Бабуля адправіла дзяцей збіраць чабор**

Так я пісала пра бабуліну вялікую талерку ў яблыкі і слівы ў эсэ «Тры пакаленні хатняй парцаляны», якое выйшла ў кнізе «Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі».

Цяпер я вырашыла правесці эксперымент і параспытваць маму зноў, праз тры гады пасля мінулага посуднага аповеду, які ўвайшоў у кнігу. Ці ўспомніць што новае, ці забудзецца пра тое, што раней казала, ці наогул зменіць «паказанні»? Так і атрымалася. Па-першае, тады я сама не цікавілася дэталямі. Цікаўнасць да дэталяў прыходзіць з часам. Мне падаецца, гэта неяк звязана з узростам. Ён псуе зрок. І я запыталася пра самае галоўнае:

— А вы карысталіся гэтым блюдам?

— Канечне.

— Што на яго клалі?

— Яблыкі клалі.

Выкарыстоўвалі па прамым яблыкавым прызначэнні. Яблыкі на яблыкі. Гэта так кінематаграфічна.

— А гарачае?

— У нас другое блюда было для гарачых страў — вялікае. Як было вяселле мамусі і татуся, ім падарылі цэлы сервіз. І там былі бальшыя блюды два, я помню.

— А хто падарыў сервіз?

— Ну гэта ж дзядзька і цётка, палякі з Варшавы. Бабця Марыня з мужам Юзуком.

Бабця Марыня — дзядулі родная сястра, якая выйшла замуж за польскага начальніка чыгуначнай станцыі. У Маладзечне спачатку ён працаваў. Потым у Беластоку, а ўрэшце перавялі ў Варшаву.

— Сервіз быў красівы. Но не настаяшчы, як бывае празрысты пачці фарфор, а такі вось звычайны. Помню, што зігзагамі былі краі. А малюнак — залатая палоска па краі таксама. І як дзе там вяселлі ці што, дык пазычалі ў нашых, і потым у выніку пабілі.

— А блюда ў яблыкі вы ставілі на стол у будні?

— Толькі на святы. Тады ж не было талерак харошых. А гэта ж такая харошая. Як мы гэта ўвідзелі: «Ай, талерка якая!» І тады хадзілі да Франуся, і там у Юлькі Франусевай талерка такая. Але ў яе ўжо з агуркамі і памідорамі. Ягады чырвонай парэчкі былі там намаляваныя таксама.

— Што гэта было за месца, дзе абменьвалі зёлкі на талеркі? — працягваю дапытваць маму.

Але відавочна, што ёй самой цікава паглыбляцца менавіта ў тыя куткі мінулага, куды яна сто гадоў не зазірала:

— Прыватнік нейкі ў Смаргонях.

— Адкуль ён узяў талерку, як ты думаеш?

— Я думаю, не ў Смаргонях жа яе рабілі. Адкуль жа здалёка прывезена была. Тым больш харошая такая.

Бабуля вясковая кабета была, аднак цягнулася да выкшталцонай прыгажосці ўсё жыццё. Сукенкі, напрыклад, шыла выключна з ядвабу, крэпдэшыну, шыфону, батысту, паплiну. Касцюмы мела з натуральнай воўны. Помню, як малая любіла я з рыпам адчыніць цяжкія дзверцы бабулінай шафы і пахаджваць уздоўж сукенкавага шэрагу, ствараючы рукой хвалю. То левай, ідучы ў адзін бок. То правай, вяртаючыся. Сямёра дзяцей было ў бабулі. Мела яна медаль «Маці-гераіня». Ад якога карысці не было, бо маленькую пенсію бабуля атрымлівала ўсё роўна. Жыла на 25 рублёў у месяц. Праца ў калгасе «Чырвоны сцяг» менавіта такія жаласныя мела вынікі. І жаласныя думкі пра бабулін разны нямецкі крэданс з зялёнымі рэльефнымі шкельцамі, які пасля смерці гаспадыні проста вынеслі на двор і ён там згніў, мучаць час ад часу. Адно суцяшэнне — талерка.



**Кінцугі** — японскае мастацтва склейваць біты посуд

— Ты казала, што гэта нямецкая крама была, калі расказвала ў мінулы раз.

— Не помню.

— Яна існавала толькі падчас вайны?

— Ні да вайны, ні после мамуся туды не хадзіла.

— Значыць, гэта была, хутчэй за ўсё, нямецкая крама. Альбо для немцаў.

— А чабор жа мы збіралі. Дзеці. «Зёлкамі» мы называлі чабор... А як мамуся памярла і пачалі хто там што браць, і талерку мне прапанавала Марыя, сярэдняя маміна сястра. Яня, старэйшая маміна сястра, узяла шэсць чэхаславацкіх талерак, а гэтую знізу Марыя аддала мне. Падзяліла так.

Берагла я бабуліну талерку і не ставіла ва ўмывальнік. Ці мала, падрапаецца аб звычайны посуд. Толькі на працоўную кухонную паверхню ставіла асобна. Там слоікі ў шэраг. Адзін з семкамі аблупленымі сланечнікавымі. Я іх у салаты, у кашы, у супы нават дадаю, бо люблю. І вось стаіць фамільная талерка пад рукой, якой я адкрываю слоік з семкамі. Слоік чамусьці называецца «Доза». Так было напісана на каробцы. Гэта падарунак. Яна з крышачкай. Бяру за крышачку, а яна выслізгвае з рук. Можа, крыху вільготных ад мыцця посуду. І ба-бах на талерку. Адразу тры кавалкі вялікія адваліліся павольна і няўхільна. Але. Успамінаю пра існаванне «кінцугі» перш, чым выкінуць сапсаваную талерку. Кінцугі — японскае мастацтва склейваць біты посуд з дапамогай спецыяльнага лаку, у які дадаюць залаты або срэбны парашок. Лічыцца, калі ўжо разбілася, дык, пэўна, лёс такі, няма чаго стыдацца шнараў. І дэманстратыўна выстаўляюць іх у золаце і срэбры. Тут цэлая філасофія.

Японскага лаку не было, а клей «Момант» меўся. Замест залатога парашку — якраз лак. Бронзавы лак для пазногцяў. Склеіла. Карыстаюся. Падавала ўжо гасцям сыр на адрэстаўраванай талерцы. ◆

# АПОШНІ ВАМПІР

ЧАСТКА 4




























РАПТАМ ДЗВЕРЫ РАСЧЫНІЛІСЯ...
ДОБРЫ ВЕЧАР У ХАТУ!
...ЁН!!


А НУ, УСЕ – У МАШЫНУ! ПРАЕДЗЕМСЯ ТРОХІ, НАДВОР'Е СЁННЯ ДОБРАЕ...


ЛЮДВІК ДУМКАЮ ПАКЛІКАЎ РАМАНА, ЯКІ ГУЛЯЎСЯ Ў СУСЕДНІМ ПАКОІ...
РАМАН!!! РАМАН!!! ГЭТА Я, ЛЮДВІК!!! ЦІ ЧУЕШ ТЫ МЯНЕ?!
ТАК, ЛЮДВІК, Я ЧУЮ ЦЯБЕ! ХТО ГЭТА ТАМ?!


ТО Ж ЯК Я ЯМУ РАСКАЖУ? МЯНЕ ТОЛЬКІ ТЫ ЧУЕШ, БОЛЬШ НІХТО...
НЕ ВЫХОДЗЬ ДА НАС! СХАВАЙСЯ! КАЛІ НАС ЗАБЯРУЦЬ, БЯЖЫ Ў ВЁСКУ ДА МІЛІЦЫЯНЕРА, ДЗЯДЗЬКІ СЦЯПАНА! СКАЖАШ УСЁ ЯМУ!


Я... МАГУ... ГАВАРЫЦЬ...
СКАЖАШ, РОМА, УСЁ СКАЖАШ! БО ЦЯПЕР! ТЫ! МОЖАШ! ГАВАРЫЦЬ!


УСЕ Ў МАШЫНУ МАРШ!!
А ДЗЕ ГАДЗЯНЯ, ЯКОГА ТЫ Ў НЯМЕЦКІМ ЛАГЕРЫ НАГУЛЯЛА?
У ШПІТАЛЬ ЯГО АДВЕЗЛІ, ШВО РАЗЫШЛОСЯ...
ХАЙ ТАК, І ПА ЯГО ПРЫЙДЗЕМ ПАСЛЯ!


ВЕРАНІКА, СЮДЫ ІДЗІ! З НАМІ РАЗАМ ПАЕДЗЕШ!
ІШОЎ БЫ ТЫ САМ!
НУ І ЗДЫХАЙ ТАДЫ РАЗАМ З ІМІ!


УСЁ, РУШ!
ДАВЯДЗЕЦЦА АБХОДНАЙ ДАРОГАЙ, УНАЧЫ ПРАЗ БАЛОТЫ НЕ ПРАЕДЗЕМ...


... ТАК, ТАВАРЫШ ПАЛКОЎНІК ...
ЕДЗЕМ НАЙКАРАЦЕЙШАЙ ДАРОГАЙ! ГЭТА ЗАГАД!




ТЫМ ЧАСАМ РАМАН ПРЫБЕГ У ВЁСКУ...
ДЗЯДЗЬКА СЦЯПАН! МАМУ ЗАБРАЛІ!
ІДРЫЦЬ ТВАЮ, ЗАГАВАРЫЎ! ХТО ЗАБРАЎ?
НЕ ВЕДАЮ! ЯНЫ СТРАШНЫЯ БЫЛІ! ВОЧЫ Ў ІХ ЧЫРВАНЕЛІ! І ІКЛЫ ДАЎГІЯ!


ІКЛЫ? Я БАЧЫЎ ТАКІХ НА ВАЙНЕ...АЛЕ НІЧОГА, РАМАНКА, ЁСЦЬ І НА ІХ СПОСАБ. ГЛЯДЗІ!
СТАРЫЯ ГРОШЫ?


ГЭТА, БРАТКА, РУБЕЛЬ ЦАРСКІ, СРЭБНЫ, О ЯК! ТЫ ТАКІХ, ПЭЎНА, І НЕ БАЧЫЎ!
А СРЭБРА ГЭТЫЯ БАЯЦЦА, ЯК СМЕРЦІ! ХАДЗЕМ ЗА МНОЙ!..


СЦЯПАН ПАЙШОЎ ДА СУСЕДЗЯЎ ПА ДАПАМОГУ...
ПАЎЛЮК? ВЫХОДЗЬ, СПРАВА ЁСЦЬ. І КАЧАРГУ СВАЮ ПРЫХАПІ. ШТО З ПАРТЫЗАНСКІХ ЧАСОЎ У ГАРОДЗЕ ПРЫКАПАНАЯ...


ІГНАТ? ВЫХОДЗЬ, НАМ ТУТ ТРЭБА...


НЕ ХВАЛЮЙСЯ, АДАМАВІЧ, ВЫРАТУЙМА НАСТУ!
З БОГАМ!
У ЛЕСЕ ЯНЫ НЕДЗЕ, ЧУЮ... СЦЕРАЖЫЦЕСЯ УСЁ Ж, ХЛОПЦЫ, БО ЗЛАДЗЕІ ГЭТЫЯ... НЕЗВЫЧАЙНЫЯ...


МІЖ ТЫМ МАШЫНА НКВД ТРАПІЛА Ў ГРАЗЬ...
Я Ж КАЗАЎ, ТРЭ БЫЛО Ў АБ'ЕЗД! ЦЯПЕР КАПАЦЬ ДАВЯДЗЕЦЦА...
НЕ, ГЭТА БЕЗНАДЗЕЙНА... ПАСПРАБУЕМ ПА-ІНШАМУ...




ТАВАРЫШ ПАЛКОЎНІК, А ЗА ШТО Ж ВЫ ЯГО...
А НАШТО ЁН НАМ? НАТ МАШЫНУ З ГРАЗІ ВЫЦЯГНУЦЬ НЕ ЗДОЛЕЎ!
ТЫ, ЛАЗЕЙКІН, ЛЕПЕЙ СЮДЫ ІДЗІ ДЫ ЧАСТУЙСЯ! МАЛАДЫ ТЫ ЯШЧЭ, ШМАТ СІЛКАВАЦЦА ТРЭБА!


ЧАСТУЙСЯ, КАМСАМОЛЕЦ ...
АААААА АААААА!!!!


НЕ ТРЭБА НАМ СВЕДКІ САПЛІВЫЯ ...
ДЫЙ КРОЎ ВАМПІРА... ТАНІЗУЕ...
А НУ, ПАЙШЛА...


НУ ВОСЬ, НІЧОГА ЦЯЖКАГА... ЦЯПЕР ЗОЙМЕМСЯ ТЫМІ, ШТО Ў БУДЦЫ... УСЕ, АПРОЧ ЛЮДВІКА, – ЛІШНІЯ...
А НУ, СТАЯЦЬ!!! РУКІ ЎГАРУ!!!


УЧАСТКОВЫ?!
ДЫК ВОСЬ ШТО ТУТ ЗА ЛЯСНЫЯ БРАТЫ ЗАВЯЛІСЯ! ТЫ НА КАГО РУКУ ПАДЫМАЕШ, ГНОЙ?! ДАВАЙ, СТРАЛЯЙ!!!
СТРАЛЯЮ!!!


АААА!!!! СРЭБНАЯ КУЛЯ!!!
ЗРАЗУМЕЎ, ТАВАРЫШ ПАЛКОЎНІК?! РУКІ ЎГАРУ, БО НАСТУПНАЯ КУЛЯ БУДЗЕ Ў ГАЛАВУ!


НАДЗЕЙНА ПРЫВЯЗАЎ, НЕ ЎЦЯЧЭ! А МАШЫНУ ЯГОНУЮ Ў ПУШЧУ АДГОНІМ, КАБ НЕ ЗНАЙШЛІ!
ВЫДЗЕРЫ ЯМУ, ІГНАЦЬ, ІКЛЫ! КАБ БОЛЬШ НІКОЛІ...
ВАМ НЕ ЖЫЦЬ, ГАДЫ! НЕ ЖЫЦЬ!!!
ГЭТА МЫ ЗАРАЗ ...


ТАК І ПАКІНЕМ ЯГО ТУТ?
ТАК, МЫ Ж НЕ ЗАБОЙЦЫ! ДЫЙ КУЛЯ СРЭБНАЯ АДНА ТОЛЬКІ БЫЛА!
АПОШНІ РУБЕЛЬ ЦАРСКІ НА ЯЕ ЗВЁЎ!..
А ЯГО СВАЕ Ж ЗНІШЧАЦЬ, КАЛІ ВЫСУНУЦЦА НАВАЖЫЦЦА!


УСЕ ЎЖО ВЯРТАЛІСЯ НА ХУТАР НАСТЫ, І ТУТ...
ОХ, А ШТО Ж ГЭТА? АКНО ГАРЫЦЬ, ДЗВЕРЫ РАСЧЫНЕНЫЯ...
І САБАКА МАЎЧЫЦЬ... ЗАВІТАЎ ХТОСЬ ДА ЦЯБЕ, НАСТА... ЗАРАЗ ПАГЛЯДЗІМ...


ГЕРХАРД?
СТОЙ! ЁН МНЕ ЖЫЦЦЁ ЎРАТАВАЎ!
НІХТ... ШЫСЕН, КАЛІ ЛАСКА! Я ЁСЦЬ АНТЫФАШЫСТ, З ВЕРМАХТУ ДЭЗЕРТЫРЭН...
НУ Й НОЧКА, ЯШЧЭ І ФРЫЦ У ХАЦЕ! ЗАРАЗ Я ЯГО...
НІХТ ВАЯВАЙЦЬ. НАСЦЕ ДАПАМАГАЙЦЬ УЦЯКАЙЦЬ З ТРАСЦЯНЬЕЦ. Я РЭАБІЛІТІРЭН, ВОСЬ ДАВЕДКА...


НАСТА, МНЕ НЕМА КУДЫ ІСЦІ, АЛЕС ІСТ КАПУТ... ... ВЫ ЕСЦЬ МАЯ СЭМ'Я...


ПАЛКОЎНІК НЕ ВЫЙШАЎ ДА СВАІХ І ЗАСТАЎСЯ ЖЫЦЬ У ГЛЫБІНІ ПУШЧЫ Ў АДАГНАНЫМ ГРУЗАВІКУ...
НУ, РУДЗІЦКІ, РЫХТУЙСЯ ДА СУСТРЭЧЫ... Я ЦЯБЕ ЗНАЙДУ, Я АДПОМШЧУ!...

# Наша Пластыляндыя

**Танака вярнуўся дадому
і распавёў бацькам пра свае прыгоды.**



























































Аўтар: Алесь Кудрыцкі

www.tanaka.by

Працяг будзе...

**У наш час з’явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць расслабіцца і выказаць смелыя здагадкі. У гэтай рубрыцы — пераказ цікавых дыскусій у інтэрнэце.**

## А герб мог быць і такім!

«Здаецца, мы маем невялічкую сенсацыю, — піша ў фэйсбуку даследчык міжваеннага мастацтва **Уладзімір Садоўскі**. — На выставе да 100-годдзя БССР у гістарычным музеі выстаўлены варыянты герба БССР з конкурсу, які ладзіўся ў 1924 годзе. Першы — гэта добра вядомы праект мастака Генадзя Змудзінскага, а другі... гэта таксама варыянт Змудзінскага, які ён прапанаваў на той жа конкурс. У «Нашай гісторыі» (№ 3, 2019) у артыкуле Уладзіміра Ляхоўскага «Як выбіралі герб БССР» я якраз прачытаў, што другі варыянт дагэтуль не знойдзены. Дык вось ён знайшоўся! Праекты герба Змудзінскага для экспазіцыі ўзятыя з Нацыянальнага мастацкага музея.

«На выставе пададзены копіі эскізаў Генадзя Змудзінскага, — напісаў у каментары аўтар артыкула **Уладзімір Ляхоўскі**. — Мне паведамілі, што арыгіналы Мастацкі музей рыхтуецца выставіць у сваёй экспазіцыі». Гісторык адзначыў таксама цікавае: «Паводле архіўных крыніц, са 100 праектаў герба БССР падчас конкурсу 1927 года было абрана дзесяць 40. Гэтыя эскізы для зручнасці сяброў камісіі былі збрашураваныя ў асобную кнігу. Дзе яна?»






## Ты Андэрсэн ці Дзікенс?

Развесяліла народ вось такая гісторыя пра літаратурных класікаў Ганса-Хрысціяна Андэрсэна і Чарльза Дзікенса з фэйсбука **Рамана Валабуева**. Многія падзяліліся расповедам у сябе на старонках і кожны разважаў сам сабе: я больш Андэрсэн ці Дзікенс?

«Андэрсэн, як вядома, быў фанатам Дзікенса: лічыў яго роднаснай душой і ледзь не настаўнікам (прытым што той быў маладзейшы гадоў на 10). У 1847 годзе, калі Андэрсэн быў у Лондане, яны сутыкнуліся на нейкім прыёме, нагаварылі адзін аднаму кучу кампліментаў, і Андэрсэн вырашыў, што яны пасябравалі. Вярнуўшыся ў Данію, ён пачаў пісаць Дзікенсу доўгія лісты, слаў яму ўсё, што ў яго новага выходзіла, дзяліўся праблемамі, раіўся; той раз на паўгода з ветлівасці адказваў, і так працягвалася 8 гадоў, пакуль у чарговым адказе Дзікенс не напісаў нешта накшталт «якая прыкрасць, што вы не можаце прыехаць пагасцяваць на пару тыдняў» (маючы на ўвазе, як гэта бывае з англічанамі, роўна процілеглае: якая ўдача, што ты, дарагі сябар, жывеш так далёка). Андэрсэн, зразумела, іронію



Ганс-Хрысціян Андэрсэн.

не распазнаў, неадкладна распавёў дацкім газетам, што Дзікенс паклікаў яго ў госці, атрымаў каралеўскі грант на дарожныя выдаткі і праз некалькі месяцаў рэальна з’явіўся ў Дзікенса на парозе.

Дзікенс тады пачынаў сыходзіць ад жонкі і наогул у яго быў складаны перыяд — а тут Андэрсэн з валізкамі, які меле нейкую тарабаршчыну (сам ён лічыў, што дасканала ведае французскую, італьянскую, нямецкую і англійскую — пры гэтым людзі яго не разумелі наогул). Спярша Дзікенс праз сілу стараўся выглядаць ветлівым гаспадаром, але прайшло паўмесяца, Андэрсэн не з’язджаў, дастаўляў кучу побытавага клопату, не даваў гаспадару працаваць, дапякаючы шматгадзіннымі размовамі пра літаратуру, спрабаваў сябраваць з Дзікенсаўскімі дзецьмі, якія ад яго шугаліся. На трэці тыдзень Дзікенс уцёк у Лондан, пакінуўшы аддувацца сям’ю і Уілкі Колінза, а праз паўтара месяца, калі завылі ўжо ўсе (Андэрсэн у нейкі момант упаў у дэпрэсію, хацеў скончыць жыццё самагубствам, потым запіў, потым платанічна закахаўся ў гаспадыню), Дзікенсу прыйшлося прыехаць, асабіста пагрузіць Андэрсэна ў брычку і самому адвезці на станцыю.

Праз пару гадоў Андэрсэн апублікаваў мемуары пра гэтую паездку, дзе апісваў шчаслівае сямейнае жыццё вялікага сучасніка (калізію з разводам ён, зразумела, не прасёк) і асобна адзначыў, як сардэчна той яго выпраўляў: на досвітку, сам пагрузіў,

сам быў за фурмана і, перш чым пасадзіць на цягнік, намаляваў на паперцы падрабязны маршрут з усімі перасадкамі, каб госць, не дай бог, не заблытаўся.

Наогул, ён потым часта ўспамінаў гэтыя пяць тыдняў як найшчаслівейшыя ў сваім жыцці і шчыра не разумеў, чаму Дзікенс яму больш не адказвае на лісты».

Падрабязна гэта гісторыя апісана ў кнізе **Elias Bredsdorff «Hans Christian Andersen: The Story of His Life and Work 1805–75».**




# Сярэднявечны шлем з Бярэзіны — сенсацыя тысячагоддзя або дзёрзкі фэйк?

Сенсацыйная знаходка ў Бабруйску: пасля леташняй расчысткі дна з Бярэзіны сышла частка вады — і на беразе аказаўся жалезны шлем X–XIII стагоддзя. Такі мог належаць члену княжацкай сям'і: вельмі ж багаты! Падобныя шлемы, скляпаныя з чатырох пласцін, за мінулыя паўтара стагоддзя ўжо знаходзілі ва Украіне, Польшчы і на землях прусаў, у старажытнай Самбіі. Першы адкапалі ў Чарнігаве, у кургане Чорная Магіла, адсюль пайшла назва — «чарнігаўскія шлемы».

5 красавіка **Аляксей Бацюкоў**, дырэктар музея гісторыі Магілёва, напісаў у фэйсбуку: «Шаноўныя! Шлем, знойдзены ў Бабруйску, — гэта проста неверагодна! І ў першую чаргу я ў захапленні ад людзей, дзякуючы якім шлем нікуды не сплыве, а стане музейным экспанатам! Мікалай Сілкоў, гісторык і рэканструктар з Бабруйска — той, хто паведаміў мне пра знаходку, каб абмеркаваць першыя крокі па захаванні. У гэтыя хвіліны ён забяспечвае кансервацыю шлема ў адпаведнасці з рэкамендацыямі рэстаўратараў, афіцыйнае афармленне знаходкі і перадачу ў бабруйскі музей. Ён жа выклікаў археолагаў. Люблю нашых людзей неверагодна!»

Спецыялісты і аматары гісторыі радаваліся бязмежна: «Прыемна хоць зрэдку чуць такія фантастычна пазітыўныя навіны!», «Маем свой, як расіяне, палякі і ўкраінцы!», «Знайсці такі шлем ды ў такім стане — гэта не рэдкасць, гэта проста фантастыка». «Віншую беларускіх калег са знаходкай! На вялікі жаль, многа такіх шлемаў у Расіі і Украіне выкапаныя чорнымі археолагамі і страчаныя для навукі. Спадзяюся, ваша знаходка дапаможа высвятліць іх паходжанне», — напісаў украінскі гісторык **Арцём Папакін**.

Нягледзячы на гэта, сярод спецыялістаў ёсць і скептыкі. «Падобна да закапанага на год ва ўгнаенні шлема рэканструктара», «Выглядае нібы тыдзень таму з майстэрні», «Чырвоная ржа сведчыць, што ён не такі і стары», «Пакуль няма дакументальнага археалагічнага заключэння, сапраўднасць шлема пад вялікім пытаннем, бо воцат з хлоркай такое робяць за пару тыдняў».

Спярша скептычна быў настроены і знакаміты даследчык Полацка і Менска, археолаг **Сяргей Тарасаў**: «Як той казаў, не магу змаўчаць. Нас моцна “нагрэлі” з “поясам Вітаўта” (падманулі нават Рабцэвіча), спрабавалі з “кара́лямі Еўфрасінні” (уласна аглядаў). Апошняе, з выпадку поўнае лухты, не пракаціла. Аналагічная, праўда, дылетанцкая спроба — полацкі падводны стод. Купіліся многія. Усё вышэй пералічанае — падман! І гэты шалом — што, з нержавейкі зроблены? Проста ў вадзе ляжаў амаль 700 гадоў? Гады 2–3 патрымалі звычайны навароб. Каб прадаць даражэй за “гісторыка-культурную каштоўнасць”. Хопіць з нас “паясоў”. І нейкіх “экскаватаршчыкаў”, як з “поясам Вітаўта”. “Я верить рад. Обманываться тошно!”»

«А што фэйкавага ў “поясе Вітаўта”, акрамя кідкай назвы, якую нябожчык Рабцэвіч падкінуў прэсе, каб больш пісалі? — задаецца пытаннем гісторык **Яўген Казанцаў**. — Здаецца, усе працэдуры прайшоў, статус каштоўнасці мае. Праўда, адзін калега паказваў скульптуру, дзе святы Георгій носіць такі пояс на сцёгнах, а не на поясе, як Вітаўт на рэканструкцыі ў экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея. Але гэта хіба і ўсе недакладнасці».

Назаўтра Сяргей Тарасаў змяніў думку: «Шлем сапраўдны, X–XI стагоддзяў! Веру сапраўдным археолагам Міколу Плавінскаму і Вадзіму Лакізу».

«Штосьці ён занадта новенькі і з усімі дэталямі. Гэта як пасля рэстаўрацыі ці штучнага старэння. Або навароб», — сумняецца **Кірыл Міхайлаў**, даследчык з Інстытута матэрыяльнай культуры Расійскай акадэміі навук. — Ва Усходняй Еўропе ідэальнай захаванасці не бывае, у нас не Егіпет. Для прадмета, які складаецца з мноства крохкіх і тонкіх дэталяў, ён выглядае занадта цэлым. Ніякіх слядоў механічных уздзеянняў, якія ён павінен быў атрымаць пасля стагоддзяў знаходжання ў вадзе або прыбярэжнай зоне, не відаць. Усе дробныя дэталі на месцы і нават насячэнне па краі меднага ліста заўважнае.

Акрамя таго, ён занадта падобны да шлемаў з Чорнай Магілы. Але ўсе шлемы гэтага тыпу маюць адрозненні адзін ад аднаго. Іх жа рабілі не на канвееры». ◆

## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 786
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)

«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

## Падпісны індэкс 00469